Літ
Літаратура і мастацтва
ISSN 0024-4686
№ 16 (4611) 22 красавіка 2011 г.

## *Вялікдзень*

*Два святы на свеце —*
*ад нівы да нівы:*
*Хрыстос уваскрос!*
*Наступае вясна!*
*Глянь смела, глянь вольна,*
*шчаслівы, нешчаслівы.*
*І далей к жыццю*
*з паніжэння і сна!*

*Гэй, гэй, на спатканне*
*вялікіх двух святаў*
*Спяшыце супольна,*
*хто ў путах не згніў!*
*Хай льюцца-зыльюцца*
*ад хаты да хаты*
*Ў адно ўсе грамады,*
*ўсе людзі ўсіх ніў!*

*Вялікдзень! Вялікдзень! —*
*ад нівы да нівы.*
*Забыў не адзін*
*з нас нядаўныя дні,*
*А ўспомні-прыпомні,*
*шчаслівы, нешчаслівы,*
*Аб тых, што ў світанні*
*навек адышлі, —*

*Ўсе костачкі тыя*
*на гонях папарных, —*
*Жывых, што ў бяспуцці*
*акуцце звіняць...*
*Прыпомні, дай слова*
*не шчэзнуці марна,*
*Пачатую справу*
*шырыць, расшыраць!*

*Вялікдзень! Вялікдзень! —*
*ад нівы да нівы*
*Заводзіць бацькоў*
*сваіх песеньку сын.*
*Зірні ж, азірніся,*
*шчаслівы, нешчаслівы.*
*І заўтра на поле*
*да сох як адзін!*

*Дагэтуль мы плачам,*
*дагэтуль мы стогнем,*
*Адвечных не можам*
*пазбыціся слёз...*
*Наперад па шчасце!*
*Хай злое ўсё дрогне!*
*Вясна ўжо на свеце, —*
*Хрыстос уваскрос!*

**Янка Купала**

1909 г.

# Адмысловы талент

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

**23 красавіка спаўняецца 125 гадоў з дня нараджэння Змітрака Бядулі (Самуіла Плаўніка) — класіка беларускай літаратуры. Хай сабе збор твораў Змітрака Бядулі — гэта ўсяго чацвёртая частка ад дваццаці тамоў Якуба Коласа, але шмат якія творы Бядулі — сапраўдныя перліны ў скарбніцы айчыннага пісьменства. Тут варта адзначыць найперш імпрэсіяністычную лірыку Бядулі-Ясакара, ягоныя імпрэсіі і абразкі, аповесці "Салавей" і "У дрымучых лясах", а таксама шэраг апавяданняў, добра вядомых беларусам яшчэ са школы.**

Самуіл Яфімавіч Плаўнік нарадзіўся ў мястэчку Пасадзец у беднай яўрэйскай сям'і, скончыў хедар (яўрэйскую пачатковую школу), вучыўся ў ешыбоце (духоўнай семінарыі), адкуль быў выключаны за пісанне вершаў, прысвечаных неіснуючай, але дасканалай Мірыям. Сваё дзяцінства і юнацтва Бядуля выдатна апісаў у аповесці "У дрымучых лясах" — вобразнай, дынамічнай, шматпланавай, багатай на маляўнічыя апісанні народнага жыцця і пераказы народных паданняў.

З пятнаццаці гадоў будучы пісьменнік працаваў на лесапрацоўках — не дзіўна, бо ў сям'і Плаўнікаў было ажно дзевяцера дзяцей (Бядулю пашанцавала быць першынцам). Адначасна з працай юнак, верагодна, пакрысе чытаў Кнута Гамсуна і іншых вядомых пісьменнікаў — гэтаксама як Левін з Бядулевай аповесці "Набліжэнне". Прыкладна ў дваццаць два гады хлопец пазнаёміўся з газетай "Наша Ніва" і ў 1912 г. пераехаў у Вільню. Спагада да беларускага слова, якая абудзілася ў сэрцы пісьменніка, шмат у чым тлумачылася яго ранняй цікавасцю да фальклору: Бядуля любіў і добра ведаў як яўрэйскія, так і беларускія песні ды казкі. Памкненне да далёкай Палесціны "акрапляла самабытнай расою ў душы кожнага жыда тыя карэнні, якія звязваюць яго з зямлёю, дзе ён жыве, — пісаў Змітрок Бядуля. — Яго каханне да новай бацькаўшчыны — нервовае, балючае і незразумелае прадстаўнікам другіх нацый". У выпадку Самуіла Плаўніка перамагло менавіта гэта пачуцце: ён стаў шчырым беларускім адраджэнцам.

На старонках дарэвалюцыйных перыядычных выданняў з'яўляліся Бядулевы вершы, напісаныя ў рэчышчы "нашаніўскай" эстэтыкі; тым часам сапраўды арыгінальным пісьменнік быў зусім у іншых творах. Змітрок Бядуля выдатна ўмеў выяўляць праз дынамічныя апісанні наваколля адмысловы настрой. Ён стварыў вялікую колькасць імпрэсіяністычных вершаў, дзе прырода паўстала жывой, зменлівай, гожай, зайграла ў безлічы яркіх, нязвыкла-архаічных метафар. Пейзажныя замалёўкі — адны з лепшых старонак і позняй прозы Бядулі.

Менавіта праз імпрэсіяністычную лірыку выяўлялася Бядулева абагульненае характва, узнятага пісьменнікам на найвышэйшы алтар яшчэ да знакамітай публікацыі Вацлава Ластоўскага "Сплачывайце доўг". Блізкасць эстэтычных пазіцый зрабіла магчымым цеснае сяброўства з Максімам Багдановічам. Паводле ўспамінаў, Бядуля вельмі часта з любоўю згадваў гэтага беларускага паэта. Адметнай рысай пісьменніка, якую адзначалі сучаснікі, была перакананасць у тым, што форма мастацкага твора не менш значная за яго змест. "Я разумею вас, пачынаючых. Першае, што вы бачыце, — змест… Гэта самае лёгкае, і для вас здаецца самым значным… Але значнае ў мастацтве і змест, і форма, і асабліва іх узаемнасць," — тлумачыў Бядуля журналісту Паўлу Кавалёву.



Натуральна, з такімі творчымі прынцыпамі ды яшчэ і са скептычным стаўленнем да рэвалюцыі жыццё пісьменніка ў трыццатыя гады было не вельмі салодкім. Бядуля жыў пад цэтлікам "рэакцыйнага, буржуазна-нацыяналістычнага, упадніцкага пісьменніка" і ледзь не губляў прытомнасць, калі сутыкаўся з Лукашом Бэндэ. Пры гэтым пісьменнік працаваў у савецкіх выданнях, быў сябрам літаб'яднання "Маладняк" (узрост яго на той час быў значна большы за сярэдні ўзрост маладнякоўцаў), потым далучыўся да "няправільнага" "Узвышша". У часопісе "Узвышша" Бядуля надрукаваў адзін з найлепшых сваіх твораў — аповесць "Салавей", прысвечаную як тэме творчасці, так і тэме сацыяльнай няроўнасці. У творы выявілася пісьменніцкая ўвага да тагачаснага беларускага тэатра: Бядуля-публіцыст вітаў пошукі Еўсцігнея Міровіча і ацэньваў іх як пачатак стварэння беларускай тэатральнай школы.

Пісьменніка цікавіла і народная творчасць: яго апавяданні "Велікодныя яйкі" і "Бондар" прысвечаны людзям, якіх захоплівае "нязмерная радасць і шчырае шчасце", калі яны бачаць, што рукі іх "твораць адну пекнату". Адвечнае супрацьпастаўленне творцы філістэрам набывае нацыянальна-сялянскую афарбоўку, але зусім не мінімалізуецца: непаразуменне між майстрам і вяскоўцамі, незапатрабаванасць творчасці ў асяроддзі, дзе людзі заклапочаныя адно побытавымі праблемамі, вельмі актуальная для пісьменніка.

Бядуля, безумоўна, ўсведамляў неабходнасць эстэтычнай дасканаласці мастацкага твора і тонка адчуваў характва. У прозе ён быў уважлівым псіхолагам, шукаў цікавы сюжэт, умеў зрабіць лаканічнае філасофскае абагульненне, стварыць адмысловага, крыху ідэалізаванага героя-селяніна. Паэзія Бядулі — гэта сувымернае спалучэнне ўласна знойдзеных бліскучых метафар, сталых вобразаў з беларускага фальклору і біблейных матываў. Па патрэбе часу пісьменнік не толькі стаў публіцыстам, крытыкам і сцэнарыстам, але, на жаль, быў вымушаны пісаць творы рознага ўзроўню, рознай тэматыкі. Даследчыкі даволі супярэчліва ацэньваюць раман "Язэп Крушынскі", шматлікія паслярэвалюцыйныя апавяданні Бядулі.

Разам з тым, вялікую цікавасць у сучаснага чытача можа выклікаць практычна не даследаваная на сёння публіцыстыка Бядулі першых паслярэвалюцыйных гадоў. Уражлівы, праніклівы пісьменнік-гуманіст ніякім чынам не падтрымліваў дзікунствы вайны і рэвалюцыі, калі "ўвесь лёгкі слой ранейшай культуры сыходзіць, як яечная скарлупіна, і застаецца адзін голы страшны Адам з воўчымі клыкамі". Бядуля выразна ўсведамляў небяспеку атмасферы сталай агрэсіі, распусты, рабавання і руйнавання. "Тое, што за час вайны парабілася з чалавечай душой, каторая азвярэла-адзічэла да свайго першабытнага кшталту, тое, што дзеці пакалечыліся, маючы гэткае кашмарнае выхаванне за час вайны ў прыфрантавым рубяжы; тое, што ўсё наша пакаленне зрабілася такім нервозным, непрытомным, разшрубованым, — гэта мы доўга будзем памятаць…" — прадбачліва сцвярджаў пісьменнік.

Змітрок Бядуля памёр у пачатку наступнай, яшчэ больш жудаснай для чалавецтва вайны, увосень 1941 г. каля далёкага Уральску. Варта думаць, што творчасць гэтага адмысловага пісьменніка яшчэ будзе даследавана на сучасным узроўні, а яго творчыя здабыткі будуць належным чынам усвядомлены сённяшнім чытачом.

***На здымку: рэпрадукцыя партрэта Змітрака Бядулі (мастак невядомы). Выява прадастаўлена Беларускім дзяржаўным архівам-музеем літаратуры і мастацтва.***

## Пункціры

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў генеральнага дырэктара Інфармацыйнага тэлеграфнага агенцтва Расіі (ІТАР-ТАСС) Віталія Ігнаценку з 70-годдзем.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ "Аб некаторых пытаннях падаткаабкладання ў сферах культуры і інфармацыі". Указам зацверджаны шэраг паслуг у галіне культуры, пры рэалізацыі якіх на тэрыторыі Беларусі арганізацыі вызваляюцца ад падатку на дабаўленую вартасць.

Прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч па даручэнні Кіраўніка дзяржавы ўручыў у Нацыянальнай бібліятэцы дзяржаўныя ўзнагароды 39 чалавекам. Сярод іх — работнікі сродкаў масавай інфармацыі, якія атрымалі Медалі Францыска Скарыны і падзяку Прэзідэнта Беларусі.

Старшыня Беларускага саюза кампазітараў Ігар Лучанок стаў лаўрэатам Міждзяржаўнай прэміі "Зоркі Садружнасці" за дасягненні ў галіне культуры і мастацтва. Лаўрэатамі прэміі сталі таксама расійскі музыкант Уладзімір Співакоў, казахскі акцёр Асаналі Ашымаў, віцэ-прэзідэнт Нацыянальнай акадэміі навук Азербайджана Нарыман Гуліеў, армянскі кампазітар Роберт Амірханян.

Міжнародным клубам жонак паслоў, дыпламатаў і іншаземных прадстаўнікоў праведзена традыцыйная штогадовая Дабрачынная вячэра ў Зале ўрачыстых прыёмаў сталічнага Палаца Рэспублікі, на якую былі запрошаны палітыкі, бізнесмены, дзеячы мастацтва і культуры. Сабраныя падчас мерапрыемства грошы накіраваны на дапамогу сіротам, інвалідам, выхаванцам дзіцячых дамоў і інтэрнатаў.

Беларускі нацыянальны павільён будзе прадстаўлены на 64-м Міжнародным Канскім кінафестывалі, які пройдзе ў Францыі 11 — 22 мая. Такая акцыя будзе праведзена ў рамках славутага кінафорума ўпершыню. Арганізатарамі беларускага павільёна выступаюць Міністэрства культуры Беларусі, Белтэлерадыёкампанія, Нацыянальная кінастудыя "Беларусьфільм".

Прадстаўнікі Міністэрства культуры Беларусі, творчая і навуковая інтэлігенцыя, работнікі турыстычнай сферы былі запрошаны ў студыю радыёканала "Культура" дзеля таго, каб стаць удзельнікамі спецыяльнай акцыі, прымеркаванай да Міжнароднага дня помнікаў і гістарычных мясцін. Увесь дзень у эфіры абмяркоўваліся пытанні рэстаўрацыі аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны, турызму. А паралельна адбываўся добраахвотны збор сродкаў на кансервацыю вежаў Навагрудскага замка.

Гісторыі развіцця тэхнікі прысвечана выстаўка рарытэтнай кнігі ў Рэспубліканскай навукова-тэхнічнай бібліятэцы. На стэндах прадстаўлены айчынныя, замежныя і перакладныя выданні, слоўнікі, даведнікі, сярод якіх — выданні канца XIX — пачатку XX стагоддзяў.

На адной з алей Гомельскага палацава-паркавага комплексу пасадзілі дрэва Міру — побач з дрэвам Дружбы, якое з'явілася тут шэсць год назад намаганнямі валанцёраў Гомельскага абласнога аддзялення Беларускага фонда міру і іх нямецкіх калег. Сёлетняя акцыя, у якой прымалі ўдзел таксама прадстаўнікі расійскіх рэгіянальных аддзяленняў Фонду міру, прымеркавана да 50-годдзя ўтварэння арганізацыі.

Падрыхтавала
Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

### Уладзімір Гаўрыловіч:

# «Мы заўсёды ў віры грамадскага і творчага жыцця…»

**Гомельскім абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі — адным з самых дзейсных — за мінулыя гады рэалізавана шмат цікавых праектаў, накіраваных на прапаганду мастацкага слова. Мы прапанавалі яго старшыні, Уладзіміру Гаўрыловічу, расказаць пра набыткі і падзяліцца планамі на бліжэйшы час.**

**— Уладзімір Мікалаевіч, у савецкія часы шмат казалі пра грамадзянскую пазіцыю пісьменніка, якая ў яго нібыта абавязкова павінна быць. І адначасова ўсе ведалі: існуюць творцы, мэта якіх — "мастацтва дзеля мастацтва". Наколькі важна ў наш час пісьменніку быць грамадзянінам?**

— Было, ёсць і будзе: пісьменніку найперш трэба быць грамадзянінам! Не ўяўляю сабе нават механізатара, які шчыруе на хлебнай ніве без грамадзянскай пазіцыі. А як жа творца? Быць грамадзянінам для пісьменніка — значыць адлюстроўваць і ў сваіх творах жыццёвае шматгалоссе. Не адасабляцца ад духоўнага жыцця народа. У рэшце рэшт, калі табе ёсць што сказаць, не цурацца сустрэч з простымі людзьмі.

700 — 800 сустрэч за год з чытачамі ў розных аўдыторыях праводзяць члены Гомельскага абласнога аддзялення. Цяжка сказаць, мала гэта ці многа. Аднак, важная дэталь: гэта ж зроблена толькі на ўласным энтузіязме! І то ўсе сустрэчы, бадай, ладзяцца па месцы жыхарства пісьменніка. Рэдка калі грамадскай арганізацыі атрымаецца знайсці транспарт, каб павезці пісьменніка "ў народ", у раённы цэнтр, у аграгарадок. Але ж мы бачым, як людзі сумуюць без мастацкага слова! На мой погляд, тут павінна быць адпаведная праграма, зацверджаная на дзяржаўным узроўні, каб дапамагчы Саюзу пісьменнікаў вырашыць пытанне, як часцей творцу сустракацца з людзьмі.

**— Як па-вашаму, ці можна пазнаць па стылі, хто аўтар кнігі: сталічны пісьменнік ці то пісьменнік з правінцыі?**

— Прабачце, але не падзяляю такой пастаноўкі пытання. Гэта цалкам прыдуманае вызначэнне — сталічны, правінцыяльны… Зноў жа: былі, ёсць і будуць толькі дзве катэгорыі — таленавіты пісьменнік ці не.

Усе беларускія літаратары, калі паразважаць над вашым пытаннем, выйшлі з вёскі. З правінцыі Купала і Колас. З правінцыі і наш Быкаў. З правінцыі Астаф'еў, Бялоў. З гомельскай правінцыі Мележ і Шамякін. Мае землякі Сяркоў, Гамолка, Капусцін…

А графаманаў хапае і ў сталіцы, і ў правінцыі.

**— Ці ахвотна калегі прапануюць вам сваю дапамогу як кіраўніку абласной арганізацыі?**

— Вельмі ахвотна. І найперш члены савета аддзялення — Тамара Кручэнка і Лілія Вялічка, Міхась Болсун і Яўген Калашнікаў. Яны з'яўляюцца праваднікамі творчых ідэй, працуюць належна, самааддана. Сёння, да прыкладу, савет абласнога аддзялення вырашае надзвычай важную задачу — стварэнне літаратурнага аматарскага аб'яднання. Да прыкладу, пры Бранскай абласной арганізацыі Саюза пісьменнікаў Расіі існуе такая аматарская структура, якая налічвае ажно 260 чалавек. Гэта будучыня творчага саюза, і там пра яе дбаюць. Мы ж толькі пачынаем пераймаць лепшае ў суседзяў, з якімі сталі добрымі сябрамі.

Вельмі дапамагаюць творчаму аб'яднанню паэты Алег Ананьеў і Юрый Максіменка, Аляксандр Врубель, празаік Ева Дударга, ахвотна працуе з творчай моладдзю паэтэса Ніна Шклярава. Яе выхаванцы прымаюць удзел у розных нашых мерапрыемствах. Прафесіянальнай парадай заўсёды падтрымаюць Васіль Ткачоў і Юрый Фатнеў — нашы старэйшыны, паважаныя творцы.

Дзякуючы такому дружнаму тандэму мы можам наладжваць творчыя семінары, у тым ліку з выездам у Бранскую і Чарнігаўскую вобласці, наладзіць выдавецкую дзейнасць — выпускаць свой альманах і нават заснаваць "Бібліятэчку Гомельскага абласнога аддзялення ГА "СПБ".

## Навіны літжыцця: Гомельшчына

Гомельскае *абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі пры падтрымцы ўпраўлення адукацыі Гомельскага аблвыканкама, Гомельскага абласнога аддзялення Беларускага фонду міру, Гомельскай абласной ветэранскай арганізацыі наладзіла абласны конкурс юных чытальнікаў "Захаваем свет разам!" ("Вясёлка над Сожам"). Спаборніцтва чытальнікаў, якое прысвячалася 90-годдзю з дня нараджэння І. Мележа і І. Шамякіна, адбылося на базе сярэдняй школы № 61 г. Гомеля.*

У Жыткавічах *быў наладжаны выязны творчы семінар, прысвечаны развіццю Прыпяцкага Палесся. Семінар праводзіўся сумесна з абласной журналісцкай арганізацыяй. Пісьменнікі і журналісты вобласці наведалі мемарыяльны музей паэта і празаіка Міколы Гамолкі, нядаўна створаны ў межах праграмы развіцця Прыпяцкага Палесся па ініцыятыве абласнога аддзялення СПБ.*

***У Гомельскай** абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна 26 красавіка стартуе ўнікальны праект гомельскіх мастакоў і пісьменнікаў. На адкрыцці мастацкай выставы свае творы прачытаюць А. Ананьеў, М. Болсун. Творчая сумесная акцыя прымеркавана да 25-годдзя трагедыі на Чарнобыльскай АЭС.*

***У маі** абласное аддзяленне арганізоўвае паездку ў г. Сумы (Украіна), дзе пройдзе першы з'езд Міжнароднага саюза пісьменнікаў і дзеячаў мастацтваў.*

## Імпрэзы

# Сустракала Зэльва паэтаў...

Яніна ШМАТКО

**Штогадовае свята паэзіі і музыкі на Зэльвеншчыне — Сакавіны — сёлета было асветлена "Полымем". У госці да старэйшых навучэнцаў трох зэльвенскіх школ прыехалі чацвёра пісьменнікаў-"палымян": галоўны рэдактар часопіса Мікола Мятліцкі, яго намеснік, зэльвенец па нараджэнні Уладзімір Мазго, рэдактар аддзела прозы Уладзімір Саламаха і былы супрацоўнік, а цяпер актыўны аўтар "Полымя" Казімір Камейша.**

Сустрэча ладзілася ў сценах раённага Дома культуры. У яе падрыхтоўцы акрамя школьнікаў прымалі ўдзел аддзелы культуры і адукацыі райвыканкама, раённая газета "Праца".

Мікола Мятліцкі прэзентаваў трэці нумар часопіса, у якім акрамя іншых матэрыялаў надрукаваны падборкі вершаў адразу двух ураджэнцаў раёна: Юркі Голуба і Таісы Сямёнавай. У рубрыцы "Наш край" таксама ідзе гутарка пра Зэльву — нарыс пра гэты куточак і яго жыхароў напісаў Уладзімір Мазго. Канчаткова ж "зэльвенскім" імідж нумара робіць фотаздымак мясцовай Свята-Троіцкай царквы, вынесены на вокладку.

"Шануйце традыцыі свайго народа, развівайце сваё здольнасці, — звярнуўся Мікола Міхайлавіч да юных зэльвенцаў, — і ведайце, што кожны таленавіты чалавек знойдзе ў нас падтрымку".

Уладзімір Саламаха калісьці дапамагаў ураджэнцу Зэльвеншчыны Івану Сяргейчыку рыхтаваць да друку яго першыя творы. Ён жа натхніў Івана Лук'янавіча на напісанне "афганскага" дзённіка. Вось пра свайго незабыўнага сябра, якога некалькі год ужо няма з намі, у асноўным і гаварыў Уладзімір Пятровіч.

Казімір Камейша прыгадаў сваё дзяцінства, школьныя гады, першыя творы, якія прачыталі зусім не аднакласнікі, а… мышы. "Хаваючы ад людскога вока свае паэтычныя сшыткі, я прыладзіў іх пад кроквы на гарышчы, — расказаў паэт. — Там ім і далі належную ацэнку грызуны". Працаваў Камейша ў розных выданнях, але сяброўскіх стасункаў з "Полымем" ніколі не парываў. Там нярэдка друкуюцца вершы паэта, а ў апошнія гады — і проза.

Апошнім з гасцей выступаў Уладзімір Мазго. Ён шчыра падзякаваў і землякам, і сябрам па працы: адным — за арганізацыю, другім — за ўдзел у Сакавінах. Вершы для землякоў Уладзімір Мінавіч чытаў са зборніка "Анёл нябесны".

Удзельнікі мастацкай самадзейнасці дарылі мінчанам песні, а госці — свае кнігі аматарам беларускага пісьменства. Іх у Зэльве няmala. Нездарма пры раённай газеце "Праца" існуе літаратурнае аб'яднанне "Зоры над Зэльвянкай", а пры цэнтральнай бібліятэцы — клуб "Ліра".

## Надзённае

# Багдановічу — энцыклапедыю

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

**18 красавіка ў памяшканні кнігарні "PRэзентацыя" адбылася нарада па выданні энцыклапедыі "Максім Багдановіч".**

Ідэя аўтарскай энцыклапедыі, прысвечанай класіку беларускай літаратуры, узнікла яшчэ ў 1980-я гады, на хвалі стварэння энцыклапедычнага даведніка "Янка Купала", які пабачыў свет у 1986 г. Слоўнік нязздзейсненага выдання быў узяты за аснову пры складанні новай энцыклапедыі, што мае выйсці сёлета ў межах дзяржаўнай праграмы па святкаванні 120-годдзя Максіма Багдановіча.

Падчас нарады адміністрацыяй і супрацоўнікамі выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі", вучонымі-філолагамі з БДУ, БДПУ імя Максіма Танка былі абмеркаваны надзённыя пытанні падрыхтоўкі энцыклапедыі да друку. Вядучы нарады Мікола Трус паведаміў, што ў кнігу ўвойдзе больш як 2200 слоўнікавых артыкулаў. Некаторыя з іх былі напісаны раней Генадзем Каха्ноўскім, Міколам Ірынчыкам, Генадзем Кісялёвым, але асноўны масіў падрыхтаваны сучаснымі філолагамі, гісторыкамі, мастацтвазнаўцамі. Захавальнікі архіўнай спадчыны паэта — дырэктар Літаратурнага музея Максіма Багдановіча Тацццяна Шэлягові і дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганна Запартыка выказалі гатоўнасць прадаставіць усе патрэбныя выяўленчыя матэрыялы для аздаблення будучага выдання.

Выхад энцыклапедыі "Максім Багдановіч" запланаваны на восень бягучага года.

Літабсягі

Марына ВЕСЯЛУХА,
фота Кастуся Дробава

# Помнік пісьменніку і чалавеку

**У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры прайшла прэзентацыя другога, трэцяга і чацвёртага тамоў Збору твораў Івана Шамякіна ў 23 тамах, што пабачылі свет у выдавецтве “Мастацкая літаратура”. Выданне прымеркавана да 90-годдзя з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі. У другі том выдання ўвайшлі апавяданні 1953 — 2003 гадоў, трэці том змяшчае аповесці 1945 — 70-х гадоў, чацвёрты — аповесці 1974 — 1988 гадоў.**

Яшчэ пры жыцці Івана Шамякіна былі выдадзены тры зборы твораў, апошні склаў восем тамоў. Відавочна, што ў новае выданне ўвойдзе шмат новага матэрыялу. Гэта будуць самі творы народнага пісьменніка — 84 апавяданні, 29 аповесцей, 13 раманаў, п'есы, успаміны, літаратурна-крытычныя артыкулы, а таксама пасляслоўі, каментары навукоўцаў. Над іх стварэннем працуюць не толькі акадэмічныя, але і вядучыя ўніверсітэцкія даследчыкі-шамякіназнаўцы, у прыватнасці, супрацоўнікі Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. Кулешова і Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. І менавіта ў каментарыях адлюстроўваюцца новыя погляды, што прадстаўляюць сучасны этап у асэнсаванні творчасці класіка.

Праца па стварэнні Збору твораў Івана Шамякіна ў 23 тамах распачалася ў 2007 годзе і павінна скончыцца ў 2014-м. Кіраўнік тэмы па падрыхтоўцы выдання, загадчык аддзела выданняў і тэксталогіі Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі Тэрэза Голуб падчас прэзентацыі правяла кароткі экскурс у мінулае праекта, расказала пра яго тэарэтычную аснову. Тэрэза Станіславаўна падкрэсліла: “Вельмі прыемна прэзентаваць тое, што робіш, і бачыць, што гэта запатрабавана. Наша задача сёння — захаваць, вывучыць, перадаць, прааналізаваць спадчыну класіка, а таксама падзяліцца вынікам працы з чытачамі”.

На прэзентацыі выступілі дочкі Івана Шамякіна Таццяна і Алеся (Алеся Іванаўна, дарэчы, — у якасці складальніка першага і другога тамоў Збору твораў, Таццяна Махнач — трэцяга тома), а таксама Наталля Дзенісюк, якая працавала над складаннем чацвёртага тома, Міхась Мушынскі — аўтар пасляслоўя да чацвёртага тома.

Галоўны рэдактар выдавецтва “Мастацкая літаратура” Віктар Шніп заўважыў, што выданне Збору твораў — вялікі гонар, бо гэта своеасаблівы помнік пісьменніку, чалавеку, грамадскаму дзеячу. Роля гэтых кніг — асэнсаваць з дапамогай навукоўцаў усе творы, напісаныя І. Шамякіным. Віктар Анатольевіч раскрыў і невялікі сакрэт: ужо здадзены ў друкарню і хутка пабачыць свет чарговы, пяты том дваццацітрохтомніка.



***На здымку: выступае Міхась Мушынскі.***

З-пад пяра

Вядомы паэт і публіцыст Навум Гальпяровіч завітаў у родную школу. Вядома, не з пустымі рукамі. Бібліятэка полацкай школы № 9 папоўнілася слоўнікамі, вучэбнымі дапаможнікамі, мастацкай літаратурай. Некаторыя кнігі — з аўтографамі беларускіх пісьменнікаў. Акрамя таго, сярод падарункаў — паэтычныя зборнікі самога Навума Якаўлевіча. А яшчэ — багата ілюстраванае выданне “Полацк — бацька гарадоў беларускіх”. “Лічу, гэта кніга павінна быць у кожнага вучня, — адзначыў пісьменнік падчас сустрэчы са школьнікамі. — Дзе б ні давялося жыць, чалавеку трэба заўсёды памятаць пра малую радзіму. Вялікае шчасце, калі можна сказаць: гэта — маё. Мой горад, мая школа”.

**Святлана САЎКО**

У Гродзенскай выставачнай зале прайшла юбілейная выстаўка літоўскага скульптара Віргініі Венцкунене “Паміж небам і зямлёй”. Выбар назвы быў растлумачаны Віргініяй гэтак: яна лічыць, што дасягнула такога ўзросту, калі прыходзіць адчуванне, што чалавек знаходзіцца ўжо не зусім на зямлі, але і не на небе — напэўна, дзесьці паміж небам і зямлёй. На выстаўцы можна ўбачыць скульптуры, створаныя як зусім нядаўна, так і дзесяць, і дваццаць гадоў таму.

**Дар'я ЧАРКЕС**

Часткай грамадска-культурнай акцыі “Чытаем Купалу разам!” стала вечарына “З тваёй мая доля пяе!”, праведзеная Дзяржаўным літаратурным музеем Янкі Купалы. Яна прысвечана 105-годдзю напісання паэм “Зімою” і “Нікому”. Да акцыі далучыліся сябры Пушкінскага клуба гімназіі № 61 г. Мінска, якія чыталі вершы Купалы і ўрыўкі з паэм. Удзельнікі адкрывалі для сябе Купалу — суровага рэаліста і пранікнёнага лірыка, узнёслага рамантыка і палымянага барацьбіта.

**Галіна ВОРАНАВА**

Выказваем удзячнасць усім, хто падтрымаў нас у цяжкі момант трагедыі і развітання з блізкімі людзьмі — Анатолем Уладзіміравічам Наркевічам і Галінай Іванаўнай Пікулік. Асабліва ўдзячны ААТ “Беларусбанк”, МУС Рэспублікі Беларусь, РВУ “Літаратура і Мастацтва”, Адміністрацыі Фрунзенскага раёна г. Мінска і асабіста намесніку главы Адміністрацыі Георгію Уладзіміравічу Козелу.

**Родныя і блізкія загінуўшых у мінскім метро Галіны Пікулік і Анатоля Наркевіча**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць з прычыны смерці члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатоля Фёдаравіча МЯСНІКОВА і выказваюць глыбокае спачуванне яго родным і блізкім.

Пайшоў з жыцця ўраджэнец Талачыншчыны, таленавіты журналіст і пісьменнік Анатоль Фёдаравіч Мяснікоў. У апошні час Анатоль Фёдаравіч узначальваў кафедру журналістыкі Інстытута парламентарызму і прадпрымальніцтва ў Мінску, а да гэтага амаль уся яго працоўная біяграфія была звязаная з газетай “Звязда”. Менавіта працуючы ў “Звяздзе”, Анатоль Фёдаравіч быў уганараваны прэміяй Беларускага саюза журналістаў (1993) і Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь (1994). Ён быў аўтарам “ЛіМа”, “Маладосці”. У РВУ “Літаратура і Мастацтва” пабачылі свет дзве яго апошнія кнігі: “Сто асоб беларускага спорту” (2009) і “Сто асоб беларускай гісторыі” (2008), за якую ў мінулым годзе аўтар быў уганараваны Рэспубліканскай літаратурнай прэміяй “Залаты Купідон”. Смерць Анатоля Фёдаравіча — вялікая страта для ўсёй беларускай журналістыкі і публіцыстыкі. Выдатны знаўца айчыннай гісторыі пакінуў жыццё, поўны задум і мараў. Анатоль Фёдаравіч Мяснікоў быў шчырым, жыццярадасным чалавекам. Светлая памяць пра яго надоўга застанецца ў сэрцах усіх, хто яго ведаў.

**Лімаўцы**

Артлінія

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Віктара Кавалёва

# Уратуй, захавай...

**У час імклівага абуджэння прыроды, калі ўсё жывое давярліва і радасна вітае вясну, калі само паветра, напоўненае цеплынёй і мажорам, акрыляе нашы мары, раптоўную бяду ўспрымаеш з асаблівым болем. Зноў і зноў задумваешся пра крохкасць і няўстойлівасць навакольнага свету, адчуваеш сваю безабароннасць перад неўтаймоўнай стыхіяй або перад цёмнымі сіламі лёсу... Але ў самыя цяжкія хвіліны роспачы і душэўных пакут чалавека здавён падтрымлівае музыка.**

Так, яна падзяляе нашы эмоцыі. Дапамагае выплакаць гора. Памаліцца. Сабрацца духам і ўзвысіцца над унутранай безвыходнасцю. Зразумець самакаштоўнасць звычайнага жыцця. Скіраваць свае перажыванні на дзейсны клопат пра чалавека і шматпакутную зямную прыроду, з якой мы, людзі, — адно цэлае... Штовесну ў сталічнай філармоніі адбываецца канцэрт-рэквіем памяці ахвяр чарнобыльскай катастрофы. Ды нядаўнія падзеі ўнеслі ў традыцыйную музычную акцыю свой трагічны акцэнт. Арганізатары — Беларуская дзяржаўная філармонія і ААТ “Белзнешэканамбанк” прысвячалі гэты праект 25-й гадавіне чарнобыльскай трагедыі, а таксама памяці ахвяр сёлетняга страшнага стыхійнага і тэхнагеннага бедства ў Японіі. Але канцэрт, білеты на які даўно былі раскупленыя, атрымаў новае эмацыйнае напаўненне, прагучаў і ў знак салідарнасці з пацярпелымі пры выбуху ў мінскім метро. Удзельнікі прэс-канферэнцыі, праведзенай перад канцэртам, падкрэслілі вялікі гуманістычны пасыл акцыі.

Цэнтрам праграмы, задуманай год таму, стаў “Рэквіем” В. А. Моцарта. У Мінску ён выконваўся неаднойчы. Але гэтым разам прагучаў у нязвыклай трактоўцы — дзякуючы ініцыятыве маэстра А. Анісімава, які ажыццявіў свой творчы праект з Дзяржаўным камерным аркестрам Беларусі (па запрашэнні яго мастацкага кіраўніка Я. Бушкова). Камерны склад аркестра, удзел Дзяржаўнага камернага хору Беларусі пад кіраўніцтвам Н. Міхайлавай, Капэлы хлопчыкаў Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі ды Хору хлопчыкаў мінскай ДМШ № 10 імя Я. Глебава (аб'яднаны дзіцячы хор рыхтаваў да выступлення У. Глушакоў) — усё гэта наблізіла выкананне твора да аўтарскай задумы, да культавай традыцыі. Салістамі выступілі нашы оперныя зоркі Н. Масквіна, А. Волкава, Ю. Гарадзецкі, Д. Капілаў. Выкананню “Рэквіема” папярэднічала канцэртнае аддзяленне: журботная “Арыя” Э. Грыга — частка сюіты “З часоў Хольберга” ды прасветлены Канцэрт Г. Ф. Гендэля Фа мажор для аргана з аркестрам. Саліраваў госць з Польшчы Я. Бакшчанін.



***На здымку: дырэктар Дэпартамента карпаратыўнага ўпраўлення ААТ “Белзнешэканамбанк” Васіль Корнеў і мастацкі кіраўнік БДФ Юрый Гільдзюк.***

Повязі

# Вакзал для «дваіх»

Тамара КРАСНОВА-ГУСАЧЭНКА

**Новая кніга паэзіі “Вакзал”, якая нядаўна выйшла ў Мінску, прадстаўляе творчасць шаснаццаці паэтаў з дзвюх абласцей — Віцебскай (Беларусь) і Харкаўскай (Украіна). Ідэя стварэння сумеснага зборніка належыць Мікалаю Намеснікаву, які ўзначальвае секцыю паэзіі Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, і яго даўняму сябру, паэту з Харкава Паўлу Гулакаву.**

Паўнаводны Днепр, не прызнаючы межаў, нясе свае хвалі праз лясную Віцебшчыну да старажытнага Кіева. Украінскі *лелека*, робячы ўсяго некалькі ўзмахаў магутнымі крыламі, становіцца беларускім *буслом*. Мы — галінкі аднаго вялікага славянскага дрэва, карані якога, ідучы ў глыбіню стагоддзяў, жывяць нас і сёння. Творчыя сувязі паміж Віцебскай і Харкаўскай пісьменніцкімі арганізацыямі існуюць ужо не першы год. Харкаўскія паэты неаднаразова друкаваліся ў віцебскай перыёдыцы, а падборкі вершаў віцебскіх аўтараў — у харкаўскай. У прыватнасці, паэзію Мікалая Намеснікава прадстаўляў украінскі альманах “Слобожанский край!”, вершы Тамары Красновай-Гусачэнкі — часопіс “Южная звезда”.

Творчыя сустрэчы, агульныя планы, чытанне вершаў на беразе Дняпра пры святле зорак не раз збіралі разам паэтаў. Падчас адной з сустрэч і ўзнікла думка зрабіць сумесную кнігу, штосьці сярэдняе паміж альманахам і калектыўным зборнікам. І назва кнігі — “Вакзал” — была абрана не выпадкова. Бо менавіта з вакзала пачынаецца любая дарога, менавіта на вакзале мы сустракаем сяброў.

У кнігу ўвайшлі вершы вядомых аўтараў Віцебшчыны, якія пішуць на рускай мове, — Барыса Бележэнкі, Алены Крыклівец, Маіны Бабарыкі, Мікалая Балдоўскага, Надзеі Салодкай, Леаніда Мацюхіна. Паэзію Харкаўшчыны прадставілі Павел Гулакаў, Мікалай Замесаў, Анатоль Мірашнічэнка, Юлія і Уладзімір Капычко, Ірына і Уладзімір Глебавы, Васіль Воргуль. Людзі розных узростаў, прафесій, поглядаў. Але іх аб'яднала бязмежная любоў да паэтычнага слова і вернае служэнне яму. А яшчэ — пачуццё вялікай падзякі і адданасці сваёй зямлі, як бы яна ні называлася — Украінай, Беларуссю… Зямля ж у нас адна.



***На здымку: перад прэзентацыяй кнігі ў Віцебскай цэнтральнай гарадской дзіцячай бібліятэцы імя А. Гайдара: супрацоўнік бібліятэкі Ларыса Іванова, паэты Мікалай Намеснікаў і Тамара Краснова-Гусачэнка.***

**Трагічная памяць Чарнобыльскай катастрофы захоўваецца ў душах многіх беларускіх паэтаў. Сярод іх і Міхась Захаравіч Башлакоў, які днямі святкуе сваё 60-годдзе. У інтэрв'ю штотыднёвіку "ЛіМ" паэт распавёў, што хвалюе яго сёння, якімі шляхамі мусіць развівацца сучасная паэзія і чым яна павінна быць для чытача наогул.**

# Без сумлення няма паэта...

Таццяна ВЫСКВАРКА

**— Міхась Захаравіч, што вы адчуваеце напярэдадні свайго шасцідзесяцігоддзя? Што азначае для вас гэтая дата?**

— Складанае пытанне... Што я адчуваю?.. Відаць, перш за ўсё тое, што я малады! Нібыта толькі ўчора бегаў басаножпа сцежках на сваёй роднай станцыі Церуха, бегаў па лесе, па лузе, па полі, плёскаўся ў Песачанцы... Нібыта ўчора... І вось на табе — шэсцьдзесят гадоў! Нават не верыцца. Калі і як? Час так імкліва бяжыць, мільгае з касмічнай хуткасцю. Але дзякуй Богу, што ў душы я па-ранейшаму застаюся маладым. І гэта самае галоўнае. Незалежна ад стану здароўя (у кожнага з нас яно бывае сёння горш, заўтра лепш) я адчуваю, што ў душы я малады. І, вядома ж, хочацца яшчэ працаваць, пісаць. Не знаю, што пісаць і як, але хочацца нешта рабіць.

**— Ці маглі б вы назваць сваё жыццё служэннем паэзіі?**

— Недзе з 17 гадоў, калі я паступіў ва ўніверсітэт і пачаў актыўна займацца паэзіяй, то, відаць, так. Пісалася ці не пісалася, але я ўвесь час жыў і жыву паэзіяй. Нават калі не пішацца. Усё роўна жывеш творчасцю. Кожны дзень ты думаеш пра паэзію, пра паэтаў, згадваеш нечыя радкі, чытаеш, перачытваеш, здзіўляешся, захапляешся, зноў перачытваеш... Менавіта вось гэта і ёсць жыццё ў паэзіі, таму што нават — паўтараю — калі ты не пішаш, ты гэтым жывеш. Самае асноўнае для мяне заўсёды было, ёсць і будзе — паэзія. Паэзія як сэнс жыцця. Бо калі няма творчасці, ты перастаеш жыць увогуле... Проста жыццё, калі ты толькі працуеш, ясі, спіш, — гэта не для творчага чалавека.

**— Без чаго, на ваш погляд, не можа быць паэта?**

— Без сумлення. Няма сумлення — няма паэта. Няма праўдзівасці — няма паэта. Няма жыццёвай пазіцыі — няма паэта. Я маю на ўвазе перш за ўсё сапраўдную паэзію, а не вершаскладанне. Але калі падысці бліжэй да самога вызначэння паэзіі, то, канечне ж, калі няма шчырасці, няма душы, значыць няма паэзіі. Можна гаварыць пра інтанацыю, мелодыю, пранікнёнасць — вельмі важныя кампаненты, без якіх паэзія проста не існуе. У нас часта блытаюць (нават літаратуразнаўцы) думку, часам цікавую, з эфектным выхадам на філасофію, з шэрагам розных вобразаў і параўнанняў — свайго роду вершаваны трактат на нейкую экстравагантную тэму і паэзію. А гэта зусім розныя і далёка не суадносныя рэчы. Але да тэмы паэзіі мы яшчэ вернемся.

**— Пра якую сваю кнігу вы маглі б сказаць: "Вось маё ўлюбёнае дзіця..."?**

— Дзеці, нават самыя непаслухмяныя, якія не спраўдзілі тваіх надзей, — усё роўна родныя і любімыя, бо яны твае. Так і з кнігамі. Але, напэўна, усё ж такі самая значная мая кніга — "Пяро зязюлі падніму". У ёй я сцвердзіў сябе такім, якім я быў і ёсць на самай справе. Энергія, што пульсуе, жыве ў паэме "Лілея на цёмнай вадзе", — гэта энергія, якую я, мусіць, ніколі ўжо не паўтару. Я вельмі многа аддаў свайго жыцця, сваёй душы, энергіі гэтай кнізе. Хаця... неблагія кнігі і "Нетры", і "Палын. Чарнобыль". Спадзяюся, што чытача зацікавіць і мая новая кніга лірыкі "Віно адзінокіх", якая павінна выйсці ў выдавецтве "Літаратура і Мастацтва"...

**— Ці змянялася ваша стаўленне да літаратуры на працягу творчага шляху?**

— Маё стаўленне да літаратуры не мянялася, незалежна ад розных абставін і падзей — асабістых, палітычных, эканамічных, экалагічных і г.д. Я лічыў і лічу, што паэт павінен быць праўдзівым, сумленным, шчырым, заўсёды *народным* — ці носіш ты званне народнага, ці не. Калі ты народны ў душы, па творчасці, па жыцці, тады гэта званне адпавядае тваёй творчасці і сэнсу жыцця.

**— Ці патрэбна мастацкая літаратура сучаснаму чалавеку?**

— Без літаратуры, без жывапісу, без музыкі (паглядзіце, што робіцца на Захадзе) чалавецтва сябе проста вычарпае. У многіх краінах адбываецца дэградацыя грамадства, дэградацыя нацый, дэградацыя народаў. Чаму? Таму, што людзі адвярнуліся ад літаратуры, ад мастацтва, ад духоўнасці. І гэта вельмі і вельмі адчувальна. Калі, дапусцім, гадоў трыццаць назад на паэта, на пісьменніка, можна сказаць, маліліся, лічылі яго сумленнем нацыі, то цяпер будзь ты тройчы геній, будзь ты народны ці лаўрэат Нобелеўскай прэміі, — плюваць людзям на цябе, на тваю паэзію, на твае кнігі, на тваю душу, на твае пачуцці і погляды, плюваць увогуле на ўсё нават самае святое, таму што яны распнулі, укрыжавалі свае душы. Хаця і будуюцца ў нас цэрквы, касцёлы, але ў душах людзей пакуль больш сатанінскага, чым боскага. Паэзія, музыка, мастацтва — гэта ад Бога. Зайздрасць, злосць, мітусня, грошы, пагоня за ўсім эфемерным, неіснуючым — гэта ад сатаны. Хацелася б, каб наша грамадства, нашы людзі павярнуліся да літаратуры, мастацтва, павярнуліся да духоўнасці. Калі народ вернецца да сваёй душы — вернецца да Бога, да мастацтва, да паэзіі, да ўсяго высокага і ўзнёслага, тады будзе жыць гэты народ. Гэта тычыцца любога народа ў свеце. Культура народа — гэта душа, а душа — гэта перш за ўсё паэзія, песня і, вядома ж, мова. Мова народа. Родная. Матчына. І дзе яна ў нас, наша родная мова? Ау-у... Не адгукаецца... На ладан дыхае наша мова. На ладан дыхае і наша так званае прыгожае пісьменства.

**— Вы толькі што закранулі праблему роднай мовы. Ці падаецца вам рэальным чуць беларускае слова на вуліцах, у школах, крамах і г.д?**

— Ну, з такім падыходам, які ёсць, наўрад... Па Канстытуцыі ў нас двухмоўе. Але пакажыце мне, дзе яно, тое двухмоўе!.. Ёсць адна мова. Другой мовы, па сутнасці, няма. Родная беларуская мова ў роднай краіне на правах не роднай дачкі, а падчаркі. Дзе яшчэ, скажыце, у якой краіне беларуская мова можа пачуваць сябе гаспадыняй? Нідзе, толькі ў сябе дома — у Беларусі! Наша мова — адна з самых прыгожых і мілагучных у свеце. У нас вельмі багатая гісторыя, вельмі багаты фальклор. Але мы чамусьці саромеемся і сваёй культуры, і сваёй мовы. Беларусы — напэўна, адзіны народ у свеце, які "стыдаецца" сваёй роднай мовы, народ, які выкінуў яе, бы непатрэбны хлам, на задворкі.

**— Якое месца, на ваш погляд, займае беларуская мастацкая літаратура ў супольнасці сусветных літаратур?**

— Складана сказаць, якое месца яна займае цяпер. Вось у савецкі час, калі ў нас былі такія гіганты прозы, як Іван Мележ, Васіль Быкаў, а іх творы перакладаліся на многія мовы свету (дарэчы, дзякуючы Маскве), за мяжой ведалі пра Беларусь, пра беларускую літаратуру. Літаратурны працэс нібыта прыпыніўся. Так, ёсць у нас таленавітыя паэты, празаікі, драматургі, але нас ніхто не ведае, нават на Беларусі. А што тады казаць пра веданне беларус-



кай літаратуры ў Польшчы, Германіі... Ва Украіне і ў Расіі нас таксама не ведаюць... У нас амаль няма перакладаў на іншыя мовы, хаця ёсць што перакладаць.

**— Якія этапы ў сваёй творчасці вы б назвалі пераломнымі?**

— Пераломныя этапы? Думаю, калі здарыўся Чарнобыль. Вось тады я і стаў зусім іншым паэтам. Я проста быў лірычны паэт, можа, праз меру лірычны, праз меру. Птушкі, кветкі... Прырода Палесся, дарогі, буслы, чмялі, гарманісты... Усё гэта паэзія, вядома. Але гэта не адпавядала плыні жыцця, часам складанага і жорсткага. Я быў дужа... наіўны, і ў мяне былі такія ж наіўныя і ружовыя вершы. Успаміны дзяцінства, маці, вёска... Такая вось традыцыйна вясковая паэзія. Калі браць вытокі творчасці большасці нашых паэтаў, то яны традыцыйна звязаны з вёскай. А Чарнобыль мяне зрабіў зусім іншым паэтам. І паявілася ў мяне гэтая бескампраміснасць. І паявіліся ў маёй творчасці жорсткасць і трагізм. Змяніліся тэматыка і танальнасць вершаў. А трагізм у творчасці любога пісьменніка надае сілы і крылы, каб узнімацца да новых вяршынь, каб перамахнуць гэтыя горы, пераадолець усе цяжкасці, якія падрыхтавала табе жыццё.

**— Скажыце, калі ласка, што самае цяжкае, на ваш погляд, у гэтым жыцці для чалавека і для паэта?**

— Быць чалавекам! Але заставацца самім сабой, заставацца чэсным, сумленным, праўдзівым вельмі складана, асабліва творцу. Таму што цябе заўсёды ставіць жыццё, нейкія абставіны ў такія ўмовы, каб ты схлусіў, нячэсна паступіў, каб ты здрадзіў сабе, сваёй душы, сваім прынцыпам. Паэт не мае права на такую прывілею — мімікрыраваць і быць хамелеонам, не мае права мяняць сваю афарбоўку. Ён абавязаны быць — незалежна ад абставін — шчырым, сумленным, праўдзівым, бескампрамісным. Інакш тады ён не будзе паэтам. З гэтага мы пачыналі і да гэтага ж вяртаемся: а што такое паэзія?

Паэзія — гэта душа. Музыка душы. Няма душы — лепш не пішы. Паэзія — гэта незвычайная шчырасць і моцная энергетыка. Паэзія — гэта лёс. Не будзе ўсяго гэтага — не будзе паэзіі, і, натуральна, не будзе паэта. Хаця апошнім часам адбываецца падмена паняццяў у азначэнні паэзіі.

Давайце паспрабуем разабрацца з гэтым. Творчы чалавек спакойна, нібы разгадваючы красворды, складае свае радкі, рыфмуючы іх ці не рыфмуючы, разважае ці спрабуе разважаць, ставячы на першае месца думку і звышарыгінальныя вобразы і параўнанні, забываючы пры гэтым пра самае важнае ў паэзіі, ды і ў прозе таксама — пра інтанацыю, мелодыю, пачуццё... І потым уся гэтая пісаніна выдаецца (без усялякіх прытым сумненняў) за паэзію... Але ў лепшым выпадку — гэта звычайная вершатворчасць, у горшым — літаратурная эквілібрыстыка. Жангліраванне думкамі і словамі. І нічога істотнага... Памятаеце, у класіка: "Стишок писнуть, пожалуй, всякий может..."? Але паэзія — гэта не проста складанне вершаў.

Паэзія — гэта калі ты амаль увесь сыходзіш крывёю, калі ты аддаеш усю сваю энергію, усё, што ёсць у цябе, у тваёй душы, у тваім жыцці — чыстаму аркушу паперы, аддаеш слову. Вось тады, відаць, ты маеш права называцца паэтам. Таму ёсць паэты і... у большасці сваёй — непаэты. Літаратары. Вершатворцы. Як хочаце іх называйце... Сапраўдная паэзія — гэта вялікая адказнасць. Гэта святое.

**— Каму вы найперш хацелі б падзякаваць у свой шасцідзясяты дзень нараджэння і ў каго хацелі б папрасіць прабачэння?**

— Безумоўна, сваёй маці! Маці, якой, на жаль, няма ўжо на гэтым свеце... Мая маці, Пелагея Міхееўна, была строгая, нават суровая, але нам яна дала вельмі многае. Нас, чатырох хлопцаў, яна вырасціла без бацькі. Гэта было няпроста — у тыя цяжкія пасляваенныя гады паставіць на ногі чатырох сыноў. Таму перш за ўсё хачу падзякаваць сваёй маці. Потым — родным і блізкім, братам, якія мне дапамагалі — асабліва ў дзяцінстве — быць самім сабой. Маім сябрам і землякам. І, безумоўна, жонцы Галіне. Сям'я — важная старонка ў жыцці кожнага чалавека. Вядома, у кожнай сям'і ёсць нейкія цяжкасці, складанасці, непаразуменні... Ёсць яны і ў мяне. Так, сям'я — гэта адказнасць, выпрабаванне на трываласць. Але сям'я — гэта і выратаванне... Я ўдзячны ўсім, хто мяне падтрымліваў і падтрымлівае, хто любіць і цэніць маю творчасць. І вядома ж, дзякуй Богу, што дае Ён яшчэ мне здароўе, сілы, талент і натхненне... Што ж тычыцца прабачэння, то прашу ва ўсіх, каго вольна ці нявольна пакрыўдзіў. Я чалавек часам жорсткі. Таму здараецца рознае...

**— Вядома, кожны чалавек — гэта цэлы свет, і ахапіць гэты свет немагчыма ні за адну размову, ні за адно інтэрв'ю. Але напрыканцы дазвольце пацікавіцца, якое пытанне вы б хацелі задаць самому сабе? Якую балючую праблему закрануць?**

— Напэўна, калі падумаць, знойдзецца нямала пытанняў, якія я змог бы задаць самому сабе. Кожны павінен задаваць сабе пытанні і спрабаваць знайсці на іх адказы, каб стаць яшчэ лепшым у жыцці.

Але я хацеў бы задаць пытанні не толькі сабе. І ў першую чаргу задаў бы пытанне, і не адно, напэўна, нашаму грамадству, якое ў пагоні за так званым доўгім рублём страціла многія маральныя і духоўныя каштоўнасці, страціла пачуццё прыгожага, страціла сваю душу... Пасля вайны, у 1950 — 60-я гады, людзі жылі намнога бядней, але былі яны намнога дабрэйшымі. У душах людзей жыла спагадлівасць. Яны не былі такімі жорсткімі і абыякавымі, як цяпер.

Ёсць пытанні да некаторых навукоўцаў — даследчыкаў сучаснага літаратурнага працэсу, якія вельмі скажона асвятляюць яго, падмяняючы праўду хлуснёй ульнага гатунку, выдаючы чорнае за белае і наадварот. Па сутнасці, яны займаюцца фальсіфікацыяй літаратурнага працэсу, што не адпавядае, як вядома, рэальнаму становішчу спраў у літаратуры.

Дастаткова пагартаць школьныя праграмы па беларускай літаратуры, а таксама праграмы і розныя дапаможнікі сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў, каб пераканацца ў тым, што лепшыя творы нашай літаратуры апошніх 10-15 гадоў не толькі не вывучаюцца і не аналізуюцца, а нават і не згадваюцца.

Пытанні можна задаваць бясконца. Але што толку ад тых пытанняў, калі на іх няма шчырых адказаў. На жаль... Што ж, як у такіх выпадках любіла гаварыць мая маці, "шмат чаго казаць — ды няма каму слухаць..."

## Брэсцкай пісьменніцкай суполцы — 30

*У студзені 1981 года ў грамадскім жыцці г. Брэста і вобласці адбылася важная падзея: было адкрыта абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў БССР, у якое з самага пачатку ўвайшлі пісьменнікі І. Арабейка, В. Гардзей, У. Калеснік, Н. Мацяш, М. Пракаповіч, М. Рудкоўскі. На першым арганізацыйным сходзе сакратаром пісьменніцкай суполкі быў выбраны Уладзімір Андрэевіч Калеснік — кандыдат філалагічных навук, прафесар, вядомы ў рэспубліцы крытык і літаратуразнаўца, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа. З першых дзён свайго існавання аддзяленне арганізавала творчую вучобу літаратурнай моладзі, плённую працу раённых літаб'яднанняў, наладзіла сустрэчы братэрства з пісьменнікамі Валынскай вобласці, прыняло ўдзел у падрыхтоўцы тэлевізійнага літаратурна-мастацкага часопіса "Буг". У выніку гэтых клопатаў Брэсцкая абласная пісьменніцкая суполка істотна пашырылася. З цягам часу сябрамі Саюза пісьменнікаў сталі паэты Алесь Каско і Васіль Сахарчук з Жабінкі, нарысіст Васіль Праскураў з Ганцавіч, празаік Святлана Курылёва з Камянца, паэт і празаік Мікола Купрэеў з Пружан, выхаваны таксама многія іншыя маладыя пісьменнікі. Сёлета Брэсцкае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі адзначыла свой 30-гадовы юбілей, пра яго сённяшнія справы расказвае кіраўнік аддзялення Анатоль Крэйдзіч, а берасцейскія аўтары выступілі з новымі вершамі.*

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ,**
**старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі**

# Прыйшла творчая сталасць

Уявіце сабе маладога чалавека, які пасля восьмага класа апынуўся ў навучальнай установе ў Расіі, а ў Беларусь вярнуўся толькі пасля службы ў войску, і вось ён, гэты маладзён, у дваццаць з гакам пачынае пісаць па-беларуску, уліваецца ў беларускае літаратурнае асяроддзе. Шкада, канечне, што вельмі позна, ажно напрыканцы 1990-х, пачаў адкрываць для сябе абласны літаратурны бамонд. Так, гэта было яшчэ адно вялікае адкрыццё. Аддзяленне якраз узначальваў Алесь Каско. Помніцца, як уразіла эстэтычна адточаная, глыбокая паэзія гэтага літаратара, а пасля асабістага знаёмства — і сама асоба пісьменніка, вельмі патрабавальнага да слова, тонкага знаўцы літаратуры, чалавека дужа дасведчанага, слухаць якога было вялікай асалодай. Мне здавалася, што аддзяленне існавала заўсёды, а Алесь заўсёды ім кіраваў. Таму вельмі здзівіўся, калі даведаўся, што ў той час, калі ў друку пачалі з'яўляцца мае першыя літаратурныя спробы, Берасцейская суполка адзначыла ўсяго толькі першы свой — пяцігадовы — юбілей. Кіраваў ёй



тады Уладзімір Калеснік. Ён жа і заснаваў гэтае аддзяленне, выхаваў сваіх пераемнікаў Міколу Пракаповіча ды Алеся Каско, выдатных паэтак Ніну Мацяш і Зінаіду Дудзюк. Дый хіба толькі іх! А яшчэ ж падрыхтаваў цэлую армію ўлюбёных у беларускую літаратуру, у Беларусь філолагаў, якія сеюць разумнае і вечнае з нацыянальным ухілам у сэрцах школьнікаў і студэнтаў. Як я зайздросціў усім ім, слухаючы расповеды пра непераўзыдзенага Уладзіміра Андрэевіча. І як шкадаваў, што вось жа і я мог, як і старэйшыя калегі, сустракацца з ім, слухаць і чуць яго, але так ні разу і не сустрэў гэтую велічную асобу — прафесара, загадчыка кафедры беларускай літаратуры Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута, стваральніка і кіраўніка абласнога літаратурнага аб'яднання "Зараніца".

У юбілейны год аддзялення добра ўспомніць тыя ці іншыя эпізоды з яго гісторыі. Тады прафесійных пісьменнікаў на Брэстчыне было мала. Ужо ва ўсіх абласных цэнтрах працавалі аддзяленні, і вось у Брэсце вырашылі праблему. На адкрыццё аддзялення прыехалі літаратары з Мінска. Былі запрошаны госці з Украіны: пісьменнікі Іван Чарнецкі і Пятро Мах, прысутнічалі прадстаўнікі ўлады, прыйшлі берасцейскія паэты і пачаткоўцы. Мерапрыемства праходзіла ў Доме палітасветы. Сакратаром быў абраны У. Калеснік, і аддзяленне пачало працаваць даволі актыўна, праводзіла шмат творчых сустрэч у вобласці і непасрэдна ў Брэсце. Пісьменнікі-берасцейцы праехаліся па тых мясцінах, дзе жыў і працаваў некалі Якуб Колас, наведалі вёску Шані, радзіму Міколы Засіма. Выязджалі на сяброўскую сустрэчу з калегамі ў Луцк і Жытомір.

Пісьменніцкі рух у вобласці актыўна развіваўся там, дзе пры раённых газетах працавалі зацікаўленыя журналісты, якія стваралі літаб'яднанні, друкавалі літаратурныя старонкі, напрыклад, у Ганцавічах, дзе пачаткоўцаў гуртаваў Васіль Праскураў, у Бярозе — Яўген Сяленя. Іншы раз з вучнямі займаліся настаўнікі і дапамагалі ім у развіцці здольнасцей, як было з Яўгеніяй Янішчыц. У Брэсце працавалі два літаб'яднанні: пры газеце "Зара" і пры Доме афіцэраў. Непасрэдна У. Калеснік вельмі ўважліва ставіўся да кожнага, у кім заўважаў схільнасць да творчасці. Але найхутчэй здольных людзей знаходзілі праз публікацыі ў мясцовай прэсе. Таленавітай моладзі было дастаткова.

Цяпер у нашай творчай суполцы налічваецца больш як сорак актыўных пёраў. Яны ствараюць вартыя, таленавітыя кнігі, прымаюць удзел у важкіх для краіны акцыях і мерапрыемствах — адным словам, з'яўляюцца сапраўднымі праваднікамі высокай духоўнасці. Па-ранейшаму мы абменьваемся творамі і дэлегацыямі з пісьменнікамі Валынскай вобласці, наладзілі сувязі з польскімі літаратарамі, асабліва на Беласточчыне. Не забываем таксама пра грамадскую актыўнасць у межах сваёй вобласці. Практычна ў кожным раёне ў нас ёсць свае паўпрэды. У Івацэвічах гэта В. Гапееў, у Пінску — В. Грышкавец і М. Еляне ўскі, у Брэсце — З. Дудзюк, У. Сітуха, Г. Тамашэвіч, В. Бурдыка і іншыя. Не так часта, як хацелася б, нашы пісьменнікі выдаюць кнігі, але ў літаратурных сустрэчах і вечарах удзел прымаў кожны. Цяпер пісьменніцкая арганізацыя рыхтуе да прыёму ў свой творчы калектыў маладых паэтэс Святлану Локтыш, Маргарыту Латышкевіч, Алёну Дзебіш, Вольгу Курдзюмаву.

Наша творчая суполка расце, развіваецца, і наперадзе нас чакаюць новыя літаратурныя здабыткі.

# «Ёсць на зямлі ў мяне дзяржава...»

### Святлана ЛОКТЫШ

* * *

Ах, як плёскае неспакой
Звар'яцела аб скалы сэрца.
Ці з табой я, ці не з табой? —
Не дадумацца, не даўмецца.

Разыграю шчаслівай ролю —
Незалежнай, моцнай і вольнай.
Ці ж пазбавіцца толькі болю,
Што спявае-галосіць сольна?

Слоў і позіркаў скразнякі
Працінаюць да самых костак.
Ненадзейны, хісткі які
Да цябе, мой каханы, мосцік.

* * *

Вы — толькі дзіўны, незвычайны сон.
Расплюшчу вочы — знікнеце, няйначай.
А некалі ўспамінамі адзначым
Жаданні і учынкі гэтых дзён.

Ці ж варта верыць мімалётным снам?
Спрабую лішні раз не памыліцца.
Ці не надзейней сёння ўжо спыніцца,
Каб не было пазней балюча нам?..

### Любоў ДЗІКАВІЦКАЯ

* * *

Ноч абернецца
Дзікім селезнем
І ў світальным тумане
Кане.
На далоні мне
Ціха сасլізне
Белакрылая зорка
Пёркам.
Сум рассеецца
Па аселіцы,
Заблішчаць на пракосах росы.
Беларусь мая
Светла-русая,
П'ю да дна
Тваё ранне прагна.

### Мікола БУСЬКО

**Шугавей**

Сёння ноччу выць сабакам —
У ваўкоў скаромніна.
Дым застыў магічным знакам
Над душою коміна.

Хат заплюшчваюцца вочы,
Клямкай нехта бразгае,
Па гарбе страхі грукоча,
Сыплючы абразамі.

Явар гнецца пугавішчам,
Снег, што хмара, сцелецца, —
Выпускае на ігрышча
Шугавей мяцеліцу.

### Мікола АНТАНОЎСКІ

**Святаяннік**

На расцяробах, на палянах
На злосць дакучлівай слаце,
Людзьмі і зверам не таптаны,
Мой святаяннік зноў цвіце —
Як сонейкі ў зялёных травах
На скрыжаванні ўсіх вятроў...
Ёсць на зямлі ў мяне дзяржава —
Надзея, вера і любоў —
У паплавах, у расцяробах,
Дзе святаяннік залаты —
Ад адрачэння засцярога,
Мой спадарожнік дабраты.

* * *

Зноў дуб-шастун пад ветрам белым
Размовы рыжыя вядзе...
Як на душу спакой збалелы,
На лыжны след ліст упадзе.
Яго пагоніць белы вецер
Па белым свеце, белым свеце...

І, пэўна, знікне ў крутаверці
Нікому не патрэбны ліст,
Што быў аздобаю калісь,
Даваў жыццё тугому вецццю...

Я не ліста таго шкадую —
Над лёсам плачу і бядую.

### Маргарыта ЛАТЫШКЕВІЧ

**Дзікае Паляванне**

Пошчакам срэбраным
Даўніх падкоў
Мы разарвём
Цемнакрылую ноч.
Зданямі, мроямі, ценямі сноў
Мы праляцім —
Толькі не збоч!
Сілы яшчэ ў вараных ёсць канях,
Яшчэ палымнеюць сэрцы у нас, —
Хутчэй, пакуль месяц
Між хмар не ачах,
Хутчэй, пакуль месяц
Зусім не пагас!
Хуткасць, імклівасць,
Узнёсласць, палёт —
На крылах ночы
Праз цэлы свет,
Каб завірыўся хмар
Калаўрот!
Ці не пра гэта ты марыш, паэт?
…Месяц гуляе па вежах былых
Сярэбрана-белым пужлівым святлом.
Пошчак падкоў йшчэ ў расе не аціх,
Быццам стагоддзяў пранізлівы гром…

### Галіна БАБАРЫКА

**Бусліныя крылы**

Васількавае неба. Маўклівае ранне.
У нябёсах раздольна малююць кругі,
Абдымаюць Радзіму
буслы прад расстаннем,
Ахінуўшыся наміткай смутку-смугі.

Мабыць, пішуць у небе бусліныя крылы
Аб палескіх азёрах, мурожных лугах
І аб тым, што да берага сіняга Ніла
Пралягае далёкі, са стратамі шлях.

Краявід, што чакае, не мілы, не блізкі,
Непадобны на родны лясны.
Узмахнулі буслы
над буслянкай-калыскай.
У адлёт! Да вясны! Да вясны!

Васількавае неба. Бусліныя крылы.
Адлятае і лета з чародамі ўдаль.
Адлятае ў мінулае, можа, у вырай
Перажытая радасць і сцішаны жаль.

### Анатоль ШУШКО

**Касьба з водарам настальгіі**

Зычна косам у росах:
Між бухматых ракіт
Рассцілаюць пракосаў
Ручнікі ля ракі.

Ранак свежы і дужы.
Ані кроплі нуды,
Румянее, як ружы,
Небасхіл малады.

Прахалодаю вецер
Цела цешыць і твар,
І ківае прывецем
Знадалёк ясакар.

Наліваецца гожа
Спрыту-моцы рука,
Бо адстаць мне няможна
Ад свайго сябрука.

Недарэчна злайдачыць
У бацькоў на вачах.
Мой знарок памянташыць
Спакваля распачаў.

Адчуваю ягоны
Позірк я. Пот цячэ.
Вычышчаю зялёны
Аксаміт чым ямчэй.

Невыказная радасць!
— Неблагія касцы…
Ні папроку, парады.
— Малайцы… Малайцы!

Усміхаецца сонца
На чарговы пракос.
Дык звіні ж ты бясконца,
Срэбра золкавых рос.

# Адказы (для абітурыентаў «Альбарутэніі»)

Ірына ШАЎЛЯКОВА

**У той час як усё прагрэсіўнае чалавецтва з энтузіязмам вітае эру інфарматызацыі, прадстаўнікі гуманітарных ведаў змагаюцца са змрочнымі прадчуваннямі. Найноўшая рацыянальнасць, якая сёння пазіцыянуецца як прынцып і адначасова мэта развіцця соцыуму, пераважнай большасці літаратараў падаецца выключна неспрыяльным асяроддзем для развіцця прыгожага пісьменства. Цікава, аднак, што ў межах айчыннай літаратурнай прасторы першага дзесяцігоддзя XXI стагоддзя ці не самую эфектыўную "рэакцыю" на выклікі інфармацыйнага грамадства прадэманстравала гістарычная проза.**

У дачыненні да найноўшай беларускай літаратуры гаварыць пра паўнавартасны "рэнесанс" уласна гістарычнай прозы было б перабольшваннем. Аднак у параўнанні з другой паловай 1990-х адметнасцю літаратурнага працэсу 2000-х стаўся пэўны ўздым прозы "гісторыяцэнтрычнай", якая цягам апошняга дзесяцігоддзя набыла абрысы актуальнага мастацкага феномена, не ў апошнюю чаргу — дзякуючы творам Людмілы Рублеўскай. Проза гэтага аўтара ў нашым крытычным дыскурсе, як правіла, суадносіцца з "меладраматычнай інтэрпрэтацыяй" ідэй У. Караткевіча, што тычыліся неарамантычнай па сваёй сутнасці рэміфалагізацыі беларускай нацыянальнай гісторыі. Пры гэтым на ўзбочыне крытычных разваг застаецца відавочная рэч: да ўласна гістарычнай прозы можна залічыць (і тое з пэўнымі агаворкамі) хіба цыкл "Шляхецкія апавяданні". Тым часам пераважная большасць празаічных твораў Л. Рублеўскай нясе выразныя адзнакі так званай новагістарычнай прозы.

У даследаваннях, прысвечаных тыпалогіі сучаснага гістарычнага рамана, адрозненні паміж класічным ("сапраўдным") гістарычным, новагістарычным і постмадэрнісцкім гістарычным раманам асэнсоўваюцца праз крытэрыі канцэпцыі гісторыі, статусу гістарычнай праўды, спецыфікі ўспрымання часу, спосабаў арганізацыі хранатопу і інш. У выніку як новагістарычныя атрыбутуюцца творы, аўтары якіх аспрэчваюць манументалісцкую канцэпцыю гісторыі, ахвотна выкарыстоўваюць прыёмы з рэпертуару постмадэрнісцкай прозы; разам з тым, "певна "обмеженість" історією, відсутність ігрових компонентів та вибудова трансісторичних цінностей етичного або естетичного характеру як важливих чинників романної структури не дозволяють ототожнювати новоісторичний роман із постмодерністським історичним романом" (Д. Пяшорда). Інакш кажучы, новагістарычная проза, найбольш яркімі ўзорамі якой у беларускай літаратуры пачатку XXI стагоддзя, на наш погляд, з'яўляюцца раманы Л. Рублеўскай "Забіць нягодніка, альбо Гульня ў Альбарутэнію" і "Сутарэнні Ромула", сёння паўстае адкрытай "нераўнавеснай" сістэмай. Самаразвіццё яе забяспечваецца перадусім за кошт актыўнай асіміляцыі элементаў іншых сістэм — мастацкіх (постсентыменталізму, неабарока, постмадэрнізму і інш.) і "псеўдамастацкіх" (масліту), жанравых (авантурна-прыгодніцкай, дэтэктыўнай, фантастычнай літаратуры, фэнтэзі), — на трывалай каштоўнаснай аснове. Такім аксіялагічным грунтам у прозе Л. Рублеўскай з'яўляецца нацыянальны Міф, у прыватнасці, ідэя рэміфалагізацыі годных, а таму непазбежна трагічных старонак (перыядаў, падзей, асоб) гісторыі *беларушчыны*.

У апошніх па часе раманах Л. Рублеўскай аб'ектам такой рэміфалагізацыі становіцца гісторыя выжывання *беларушчыны* падчас рэпрэсій 1920-х — 1930-х гадоў. Дзеля дасягнення гэтай нежартоўнай мэты аўтар звяртаецца да "гульнёвага" арсенала постмадэрнісцкай літаратуры, актуалізуе асобныя матывы і вобразы "гатычнага" рамана, скарыстоўвае некаторыя прыёмы з іншых кірункаў... Так, "Забіць нягодніка, альбо Гульня ў Альбарутэнію" — насамрэч "раман-інструкцыя", кампазіцыйна выбудаваны як своеасаблівы "квест", што складаецца з набораў нумараваных элементаў "Удзельнік…" (іх 5), "Абсталяванне для гульні", "Гульня" (6 "версій"), "Па-за гульнёй" (8 "фрагментаў"), "Фінальная гульня" (2 "варыянты"), "Эпілог" (5 "камбінацый"). Размешчаны ў Інтэрнэце (на сайце "Родныя вобразы"), твор набывае ўласцівасці сапраўднага гіпертэксту, у межах якога карыстальнік можа абіраць сваю траекторыю "Гульні ў Альбарутэнію", канструяваць сюжэт з розных камбінацый фрагментаў, вызначаць фінал і г.д. Разам з тым, выкарыстанне асобных элементаў "гульнёвай паэтыкі" не ёсць падстава для атрыбутавання твора Л. Рублеўскай як постмадэрнісцкага, бо ў працэсе фармулявання "новага значэння гісторыі" (З. Шаўчук) аўтар рашуча адпрэчвае саму магчымасць гульні з канцэптамі, у прыватнасці, з канцэптам *між-быцця*.

Хранатоп "рамана-інструкцыі" "Забіць нягодніка, альбо Гульня ў Альбарутэнію" арганізаваны па прынцыпе "двухсусветавасці", толькі не рамантычнай — фэнтэзійнай. Героі-гульцы "фізічна" перамяшчаюцца з Мінску 2000-х у Менск 1933 года праз своеасаблівы "прагал" у часапрасторы, які месціцца ў хатцы старой Разаліі Іванаўны. Сучасныя маладзёны (Дар'я-"Даліла", Генусь-"Тэрмінатар", Макс, Эдзік-"Едрусь", Руслана Палынская), апынуўшыся ў эпіцэнтры сталінскага "палявання на беларушчыну", не маюць шанцаў застацца "назіральнікамі". Дасканаласць тэхналогіі духоўна-маральнага "аўтадафэ" напоўніцу выпрабоўвае на сабе ў *сваёй* эпосе хімік Валяр'ян Скаловіч. Але і Даліла, што закахалася ў Скаловіча, і яе сябры пасля вяртання ў *свой* час пачынаюць разумець, што "сімвалічнае" (ментальнае, эмацыйнае) пражыванне *чужых* пакут для чальцоў "таемнага ордэна" Альбарутэніі мае надзвычай рэчыўныя, *асабістыя* наступствы.

Калі твор "Забіць нягодніка, альбо Гульня ў Альбарутэнію" суадносіўся ў крытычных водгуках адначасова з "кінараманам", "альтэрнатыўнай гісторыяй", "раманам-крыкам" (Д. Жукоўскі), дык "Сутарэнні Ромула" чамусьці ідэнтыфікуюцца як твор, напісаны ў "стылі фэнтэзі" (ЛеГАЛ). Між тым, сама назва апошняга рамана прачытваецца як "сімвалічная метафара", што не толькі ўтрымлівае код да разумення ідэйна-мастацкай структуры твора, але і ў формульным выглядзе прэзентуе аўтарскае бачанне сутнасці *беларушчыны* як квінтэсэнцыі нацыянальнага Міфа.

"Сутарэнні Ромула" — раман-лабірынт, тэкст-сутарэнні, адметнасць жанравай структуры якога не вытлумачаецца праз "калажавае" счапленне разнастайных элементаў. У дадзеным выпадку мы маем справу з міжжанравай раманнай паліформай. У адрозненне ад "паралельных" хранатопаў папярэдніх твораў Л. Рублеўскай, у "Сутарэннях Ромула" розныя часавыя пласты (XV і XVI стагоддзі, пачатак XIX, першая палова XX (1919 год, канец 1920-х — 1930-я гады, другая палова 1940-х), пачатак XXI стагоддзя) не чаргуюцца па прынцыпе "чарапіцы", а як бы зрошчваюцца ў нераўнавеснае цэлае, прарастаюць адно ў адным — і "высвечваюцца" адно праз аднаго. Пры гэтым сучаснасць паўстае прасторай, што складаецца са своеасаблівых "локусаў", скрозь якія да сёняшніх палоннікаў Шэрых Будынін (у адной з іх знаходзіцца выдавецтва "Сокал-прынт", дзе пакутліва адбывае рэдактарскую "правіну" Арсенія (Ася) Вяжэвіч) і Шэрых Гмахаў (у падобным месціцца кабінет гісторыка Данілы Корб-Варановіча) "прарываюцца" адмысловыя "пасланні". Іх "дэшыфроўка" (і самімі героямі, і чытачом) ад пачатку наўмысна ўскладняецца. "Шматслойная" рэальнасць, у якой існуюць героі рамана, аказваецца толькі адной з сюжэтных калізій Кнігі, якую піша-прыжывае "вядомы аўтар беларускага фэнтэзі" Вячка Скрыніч (калісьці — Славік Скрынкін) і дзейнымі асобамі якой становяцца Ася і Даніла. Дэміургічныя захады Вячкі (сам сябе ён атэстуе ўсемагутным "богам з машыны", які не аддзяляе рэальнасці ад уяўлення, жыве за герояў і прагне Вялікай Гульні) па першым часе не толькі ператвараюць для ягоных "персанажаў" у сімулякр іх прыватныя, "маленькія" гісторыі, але і прымушаюць усумніцца ў сапраўднасці гісторый "вялікіх" (роду, народа). Паступова, аднак, высвятляецца, што ў рамане-сутарэнні нават сімулякры выконваюць надзвычай спецыфічную ролю: скарыстоўваюцца ў якасці "масак", якімі да часу прыкрываюцца… рэчы-сутнасці. Партрэт графіні Марыі Корб-Варановіч, напісаны невядомым мастаком у пачатку XIX стагоддзя; кубак XV стагоддзя; "запавет" Іосіфа Варановіча, што распачынаецца аповедам пра "злашчасную бітву на рацэ Вядрошa" (1508 г.); "тастамент" Алехны Корб-Варановіча, складзены ў час княжання Жыгімонта Аўгуста, які захаваўся ў канфіскаваным архіве філолага Апанаса Корб-Варановіча, расстралянага ў 1938-м, — гэтыя і іншыя "артэфакты" ў канцэптасферы рамана выконваюць функцыю "іншаўказанняў", знакаў-сімвалаў, закліканых, у рэшце рэшт, не толькі засведчыць існаванне *сапраўднай гісторыі* Беларусі-Альбарутэніі, але і стацца для нашчадкаў ключом да "кода *беларушчыны*".

Згаданы код амаль ва ўсіх "гісторыяцэнтрычных" творах Л. Рублеўскай расчытваецца з дапамогай інструментарыю інтэртэкстуальнасці. Раманная проза Рублеўскай апошніх гадоў — інтэнсіўна інтэртэкстуальная, тут аднолькава актуальнымі паўстаюць айчынныя і замежныя літаратурныя крыніцы (летапісы, дыярыушы, мастацкія творы, мемуары, дакументы розных эпох), з'явы розных відаў мастацтва (выяўленчага, дэкаратыўна-прыкладнога, музычнага, тэатральнага), аб'екты побытавай культуры… Галоўны крытэрый іх адбору — важкасць унёску ў справу рэміфалагізацыі *аўтэнтычнай беларушчыны*. Паказальна, што ўдзельнікі рэканструкцыі-расследавання гісторыі дзіўнага "антаганізму" Корб-Варановічаў і Вяжэвічаў адказы на "спрадвечна беларускія" пытанні шукаюць у антычнай міфалогіі: "…усё пачынаецца з двух братоў… Юрыя і Язэпа Варановічаў. <…> Два браты, дзве царквы… Пад зямлёю і на зямлі. Класічная падвойная беларуская існасць. Паводле легенды, малодшы брат, Язэп, забіў старэйшага. Потым пабудаваў царкву святога Язэпа <…> У аснове — пазнавальны міф пра Ромула і Рэма. Успомніце: два браты нешта будуюць, спрачаюцца з-за таго, чыё імя яно будзе насіць. Адзін брат насміхаецца над другім, што сцены, якія той узводзіць, рушацца, абражаны забівае насмешніка. Збудаванню застаецца імя забойцы".



Малюнак Аксаны Юнкавіч

Сёння нацыянальны Міф (прынамсі, беларускі) не столькі сістэмна дае адказы, колькі сістэмна прадуцыруе пытанні. У айчыннай "гісторыяцэнтрычнай" прозе асэнсаванне шырокага спектру "нацыятворчых" праблем найчасцей звязанае з інтэрпрэтацыяй феномена беларускага Шляху, што па выразу Долі пралягае строга на памежжы (геапалітычным, гістарычным, культурным etc.). У літаратурнай класіцы XX стагоддзя спецыфіка рэалізацыі вобразаў-канцэптаў "тутэйшасці" (Янка Купала), "дваення душы" (М. Гарэцкі), "балота" (І. Мележ) вынікла з тэндэнцый дэміфалагізацыі тагачаснага сацыякультурнага дыскурсу. Аднак ужо ў яго нетрах пачалі выспяваць ідэі рэміфалагізацыі як канцэптуальнага грунту "нацыятворчасці", што адыгралі вызначальную ролю ў фарміраванні аксіялагічнага ландшафту найноўшай беларускай літаратуры. "Тытульныя" героі раманаў Л. Рублеўскай — хімік Валяр'ян Скаловіч, філолаг Даніла Корб-Варановіч, калі справа тычыцца Альбарутэніі-Беларусі, аддаюць перавагу не "мове паняцця", але "мове вобразаў": "Я за гістарычную справядлівасць, але еднасць нацыі ўсё-ткі важней за палітычныя, рэлігійныя і якія б там ні было расколіны…" Законы фармальнай логікі ў сутарэннях *беларушчыны* аказваюцца нават не дарэмнымі, але контрпрадуктыўнымі. У 1920-я дэкан філалагічнага факультэта даводзіць мовазнаўцу Апанасу Корб-Варановічу: "Зразумейце, калега, сёння лінгвістычная спрэчка ў "чыстым выглядзе" немагчымая. Пад усё падкладаецца палітычная "падбіўка". Адны — "вялікадзяржаўныя шавіністы", другія — "буржуазныя нацыяналісты"… І нехта нацкоўвае нас адно на аднаго, каб знішчыць усіх разам. Падумайце над гэтым…" Праз шмат дзесяцігоддзяў Вячка Скрыніч з іншай нагоды наступным чынам вызначае стасункі Корб-Варановічаў і Вяжэвічаў: "…Вечныя антаганісты. Глядзець спакойна адзін на аднаго не можаце. Паны і прыслуга. Законныя нашчадкі і бастарды. Каталікі і праваслаўныя. Заходнікі і ўсходнікі. Каты і ахвяры, якія мяняюцца ролямі. Але ў вас, вы самі гэта прызналі, адна кроў".

У дадзеным выпадку выйсце (ці хаця б надзею на яго) можа прапанаваць толькі логіка міфа, прычым Міфа беларускага, у прасторы якога рэчы, здавалася б, несумяшчальныя, нават узаемавыключальныя, утвараюць адмысловае суладдзе. Так, у раманах Л. Рублеўскай аднолькава важкую эстэтычную ролю выконваюць розныя віды пафасу (трагедыйны, гераічны, рамантычны, асветніцкі, сентыментальны). У структуры вобразаў-персанажаў па прынцыпе "дапаўняльнасці" задзейнічаны разнастайныя прыёмы рэалістычнай тыпізацыі і псіхалагізацыі, элементы рамантычнай паэтыкі і нават меладраматычныя ("маслітавыя" па сваёй сутнасці) канструкты. Цікава, але *terror* ("страх-прыцягненне") і *horror* ("страх-агіда", што з "шокавай дакладнасцю ўказвае, чаго варта баяцца чытачам і героям: пакутаў, катаванняў, фізічнай гібелі і г.д." (К. Скобелева), якія ў тэорыі і практыцы класічнага "гатычнага" рамана супрацьпастаўлююцца, у раманах Л. Рублеўскай "рэзаніруюць", шматкроць узмацняючы сугестыўны эфект… Пры гэтым толькі ў беларускай "гісторыяцэнтрычнай" прозе пачатку XXI стагоддзя нацыянальны аптымізм паслядоўна бярэ верх над песімізмам. Л. Рублеўская свядома завяршае свае творы прэцэдэнтнымі формуламі, якія нават "адкрыты" фінал размыкаюць у пэўным (дакладна акрэсленым) кірунку: "Гульня працягваецца. Альбарутэнія жыве".

Відавочна, такім чынам, што ў "гісторыяцэнтрычных" творах Л. Рублеўскай "паэтыка тэксту" ўзнаўляе "паэтыку" міфа пра Беларусь-Альбарутэнію. Міфалагема Беларускага Шляху ў яе раманах увасабляецца ў ідэі рэміфалагізацыі *сапраўднай беларушчыны* як "альфы і амегі" нацыянальнай самасці. А ўнікальнасць "гісторыяцэнтрычнай" прозы ў абсягах беларускай літаратуры першага дзесяцігоддзя XXI стагоддзя звязана, бадай, з тым, што яна не толькі ставіць сістэмныя пытанні, але і не саромеецца адказаў.

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

# Партрэт у сямейным інтэр'еры




Беларуская мемуарыстыка мае досыць трывалую традыцыю, якую правамоцна, відаць, выводзіць з агіяграфічнай літаратуры, летапісаў, травелогаў. У наш, Новы час мемуарная літаратура дазваляе акрэсліваць канцэнтрычнае кола наўкруг самога мемуарыста, у якое між усім астатнім могуць уваходзіць не толькі дэталізаваны побыт (што таксама каштоўна, важна і, прынамсі, цікава), але і постаці, выбітныя ў сваім лёсе. Яшчэ большая цана тэксту, які змяшчае ў сабе невядомыя факты біяграфіі таго ці іншага дзеяча навукі, літаратуры альбо палітыкі, якія з пэўных прычын сам не паклапаціўся пра захаванне памяці пра сябе ў выглядзе аўтабіяграфічных матэрыялаў альбо нават і ўвогуле згубіўся ў гістарычных вірах так, што кожная згадка пра яго — цэлы скарб (успомнім Паўлюка Багрыма).

На жаль, менавіта другі выпадак у нашай літаратуры пакуль сустракаецца найчасцей. Калі ў савецкі час пра кожнага больш-менш вядомага дзеяча выходзіла калектыўная кніжачка ўспамінаў (прыгадаем зборнікі пра Купалу, Коласа, Багдановіча, Лынькова, Гарэцкага, Чорнага, Мележа, Гартнага і інш.), то сёння гэта здараецца даволі рэдка — нават і ў дачыненні да самых значных літаратараў. Іншая справа, што ў Савецкім Саюзе кожны тэкст вывяраўся акрамя Галоўліта яшчэ і самацэнзарам, у выніку чаго кнігі сям-там страчвалі і сваю каштоўнасць, і сваю праўдападобнасць наогул.

Галоўная вартасць мемуарнага тэксту ў тым, па-першае, што аўтар — непасрэдны відавочца падзей і, па-другое, што ён з гэтай прычыны праўдзіва ўзнаўляе азначаныя падзеі. Першапачаткова падобныя тэксты друкуюцца, як правіла, без каментарыяў, але пасля, калі яны ўваходзяць у крыніцазнаўчы ўжытак, навуковай супольнасцю дадаецца пэўны каментатыўны апарат. Па вялікім рахунку, сёння кожны мемуарны тэкст — "на вагу золата". Тым больш радуе з'яўленне ў часопісе "Полымя" грунтоўных успамінаў дачкі Янкі Маўра — Наталлі Міцкевіч.

Нехта скажа, што ўвагі крытыка больш заслугоўваюць літаратурныя творы, змешчаныя ў сакавіцкім "Полымі". Але ў той жа час яркія публікацыі "літаратуры факта" — таксама падзея. Некаторыя пісьменнікі выказваюцца ў тым сэнсе, што задача крытыка — анонс і рэклама добрага твора. Вось жа гэта і паспрабуем зрабіць. І, па магчымасці, крыху прааналізаваць.

Мемуары былі інспіраваны мужам Наталлі Іванаўны — Міхасём Канстанцінавічам Міцкевічам, які нядаўна і сам падараваў чытача сваёй аўтарскай кнігай пра сям'ю Якуба Коласа "Пад бацькоўскім дахам". Разам з тым, два гэтыя тэксты зусім розныя, хоць, спадзяёмся, і другі таксама выйдзе асобным выданнем.

Твор-успамін мае і свае жанры, і своеасаблівы аб'ект даследавання — тое, на што накіравана ўвага мемуарыста. Дакладней, што стаіць у цэнтры аповеда. Ва ўспамінах Н. Міцкевіч такім стрыжнем, бясспрэчна, з'яўляецца сям'я Янкі Маўра. Праз тое, што сам пісьменнік пакінуў пасля сябе аўтабіяграфічную кнігу пра дзяцінства "Шлях з цемры", мемуарыстка пачынае расповед з падзей слыннага настаўніцкага з'езду, пасля якога быў арыштаваны і зняволены Якуб Колас. Галоўны акцэнт зроблены на складаным хітраспляценні сямейнага жыцця пісьменніка (які, зрэшты, ледзь не да 40 гадоў быў настаўнікам і выкладчыкам, не прэтэндуючы на пісьменніцкія лаўры). Раскрываецца ўражвальна складаная гісторыя стварэння сям'і, абстаноўка ў ёй, адносіны паміж Янкам Маўрам і жонкай, дзецьмі, стасункі дзяцей паміж сабой, розныя здарэнні, якія адбываюцца ў іх коле. Постаць самога Янкі Маўра ўзнікае тут нібы *ў кантэксце* сям'і. Як, па сутнасці, і было ў свядомасці Н. Міцкевіч.

Але ў той жа час недахопу ў сузіранні пісьменніка чытач не адчуе: мы ўбачым яго жарсць да збірання кніг, яго самотную працу па начах у агульным на ўсіх пакоі, яго словы і парады малой дачцэ. Іншая справа, што сам ход гісторыі, складанай культурнай сітуацыі 1920 — 1930-х гг., праблема атачэння пісьменніка застаецца як бы збоку, на маргінэсе. Н. Міцкевіч агаворвае, вядома, што калі збіраліся госці, то дзеці з пакоя выпраўляліся на гульні, бо ім за бяседным сталом месца не было — гэта і зразумела. І нельга патрабаваць таго, чаго ведаць чалавек не можа. Такім чынам, распавядаецца побытавая гісторыя жыцця пісьменніка. Вось толькі ў той побыт урываюцца трагедыі наваколля, якія непасрэдна народжаны гэтым часам і якія ўплываюць на тых, хто ў ім жыве — самагубствы ў двары ад нішчымніцы, няўдалага кахання, адсутнасці элементарнага ўзаемаразумення паміж людзьмі.

Гэта гісторыя чалавечых жыццяў — вельмі розных, якім давялося праходзіць у даваеннай Беларусі, не зважаючы на ўласна гісторыю.

Завяршаецца першая частка публікацыі трагічнымі падзеямі пачатку Вялікай Айчыннай вайны і эвакуацыяй сям'і ў вельмі няпростых варунках. Чытач мае магчымасць пачуць і голас самога Янкі Маўра — у выглядзе ягоных дзённікаў ваеннага часу, якія цытуе Н. Міцкевіч. Уражвае цвёрдасць характару пісьменніка, яго цвярозае разуменне ўсяго, што адбывалася ў гэты неспакойны час. Што ж, застаецца толькі чакаць працягу. А ў ім будзе і вайна, і знаёмства з сям'ёй Якуба Коласа, якая на ўсё жыццё сталася для Н. Міцкевіч роднай.

Алеся ЛАПІЦКАЯ

# Замежны муж і рэха вайны




Аповесць Алены Брава "Дараванне" цікавая найперш сваёй тэматыкай. Пісьменніца звяртаецца да ўжо распрацаваных ёю тэм старасці і замежнага шлюбу, а таксама да новай для сябе тэмы "рэха вайны".

Галоўная гераіня твора — наша саракагадовая суайчынніца, у якой першы муж-алкаголік скончыў жыццё самагубствам і пакінуў жонку разам з дачушкай у практычна пустой кватэры. Дзеля дачкі, без спадзяванняў на шчаслівы лёс Папялушкі, Ларыса выйшла замуж у Германію. Як высвятляецца, у бацькі Ральфа — хвароба Альцгеймера: "…Час ад часу паміраючыя нейроны Ганса, штуршкамі прарываючы плеўку бяспамяцтва, — так рыба выкідваецца на бераг з атручанага вадаёма, — выносяць на паверхню тыя ці іншыя нябіткія аскепкі". І стары нібыта вяртаецца ў сваю вайсковую маладосць, калі сямнаццацігадовым ён ваяваў побач з мястэчкам, дзе нарадзілася Ларыса. Жанчына выконвае ролю сядзелкі, і ёй, падкрэслена чулай і ўражлівай у параўнанні з іншай эмігранткай Ладай, псіхалагічна цяжка даглядаць былога ворага. Зрэшты, Ларыса даруе старому (чаму — глядзі "Маладосць"), але нават пакаленне маладых немцаў гатовае ўва ўсім — з улікам самых інтымных праблем — абвінавачваць вайну.

У адрозненне ад эмігрантаў Альгерда Бахарэвіча, якія рэдка праводзяць канкрэтна-побытавыя супастаўленні, Ларыса ўвесь час супрацьпастаўляе сваё існаванне на радзіме жыццю ў Германіі і лічыць, што "глыбіня бездані, якая раздзяляе — нават у дробязях, і ў першую чаргу менавіта ў дробязях! — дзве цывілізацыі, якія ўмудрыліся паралельна суіснаваць на рубяжы тысячагоддзяў на еўразійскім кантыненце, зводзіць да нуля любую магчымасць узаемаразумення".

Па вялікім рахунку, гераіня Алены Брава аднолькава скептычна ставіцца як да беларускай, так і да нямецкай рэчаіснасці. Так, "вярталёт — тутэйшую "хуткую дапамогу" — чакаюць усяго хвілін сем, і мужчыны-ўрачы бягуць да пацыента праз поле — але ветлівы лекар з багадзельні канстатуе адвечнае "рана ці позна гэта ўсё роўна здарыцца" і можа спакойна даць старому небяспечную для хворай печані дозу лекаў. Так, на нямецкіх могілках "кожная магіла — маленькі дагледжаны садзік з абавязковымі кустамі руж, ліхтарыкамі ды лампадкамі, з белымі фігуркамі анёлаў" — але за будучае месца на могілках трэба плаціць усё жыццё, а потым "па новым законе сваякі нябожчыка аплачваюць арэнду зямлі на трыццаць год уперад". Беларускіх турыстаў і дзяўчат-адзінаццацікласніц, якім варта прапанаваць аповесць для пазакласнага чытання, пісьменніца папярэджвае: "Калі вы ўбачыце ў "брацкай магіле", то бок у звальнай яме, якая маецца на ўскрайку некаторых еўрапейскіх могілак, скінутыя туды экскаватарам косткі — *нічые*, дык ведайце: гэта костачкі рускіх, беларускіх, украінскіх жанчын, якія адважна кінуліся са сваёй пахмурнай радзімы на пошукі гламурнага шчасця або ўсяго толькі сытага жыцця…"

Алена Брава знаёміць чытачоў з іншымі рэаліямі нямецкага жыцця, якія выклікаюць у галоўнай гераіні альбо непаразуменне, альбо лёгкую настальгію ("Дрэвы тут злоўленыя ў палон цывілізацыяй — магчыма, таму яны не выпраменьваюць святла; там, у старым парку яе дзяцінства, засталося маўклівае ззянне…"). Разважанні ў аповесці галоўным чынам пра праблемы памяці, як асабістай, так і агульначалавечай. Твор сапраўды вымушае задумацца пра незайздроснасць старасці, пра водгукі вайны: у Ларысінай сітуацыі насамрэч маглі апынуцца некалькі дзясяткаў беларусак, расіянак, украінак. Разам з тым, і Ларыса з "тыповым комплексам шматпакутніцы-гаротніцы", і ейны муж Ральф ("зэканоміў 100 еўра — вось табе і свята!"), і іншыя героі аповесці, і наогул мастацкі свет твора збольшага адпавядаюць стэрэатыпным беларускім уяўленням пра еўрапейскае жыццё і лёс жанчыны, што знайшла "замежнага-заможнага" мужа. Таму героі крыху нагадваюць персанажаў серыяла, сюжэт развіваецца даволі прадказальна, а погляд на праблему беларускі за мяжой, здаецца, мог бы быць арыгінальнейшым (вядома, не ў літаратурным кантэксце, а ў кантэксце агульнай ацэнкі гэтай з'явы).

Увогуле "Дараванне" — гэта твор, напісаны на вельмі добрым узроўні, твор, сапраўды варты таго, каб быць прачытаным і прааналізаваным. Да таго ж, надзвычай цікавай магла б атрымацца экранізацыя гэтага твора — сюжэтнага, сучаснага, актуальнага сваёй тэмай, глыбокага па змесце і часам вельмі вострага.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

# Феномен канцэнтрацыі




Сярод новых твораў, што з'явіліся апошнім часам у літаратурных часопісах, ці не найбольшае ўражанне пакінула аповесць Уладзіміра Саламахі "…И нет пути чужого", надрукаваная ў лютаўскім і сакавіцкім нумарах часопіса "Нёман" у перакладзе самога аўтара. Дзеянне твора адбываецца ў апошні год Вялікай Айчыннай вайны. Ваенныя часці, што вызвалілі беларускую вёску Гуда, сышлі далей на захад, і ў населеным пункце, спаленым у 1943 годзе немцамі, пачынае адраджацца жыццё. Ды толькі жыхароў там засталіся адзінкі: стары Яфім, былы партызан Міхей, Мікалай, што вярнуўся інвалідам з фронту, двое дзяцей, жанчына, што збіраецца нарадзіць… Але ў цэнтры ўвагі аўтара знаходзіцца вобраз Іосіфа Кучынскага, чый сын на пачатку вайны пайшоў служыць у паліцыю, а потым удзельнічаў у знішчэнні вёскі Гуда. Прыхаваны канфлікт паміж Іосіфам і аднавяскоўцамі завязваецца ў невырашальны клубок супярэчнасцей, разблытаць які можа, бадай, толькі сам герой.

"…И нет пути чужого" з'яўляецца бясспрэчным творчым поспехам аўтара. Сакрэт гэтага бачыцца ў па-майстэрску прапісаных, жывых характарах герояў, выпрацаваным стылі, жывой мове, адчуванні часу. Але нягледзячы на сэнсавую завершанасць твора, мяне не пакідае ўражанне таго, што аповесць з'яўляецца часткай будучага, больш значнага твору пісьменніка.

Пагадзіцеся, цяпер наўрад ці хтонебудзь зможа стварыць паэму пра народнае, сялянскае жыццё, якая б пераўзышла "Новую зямлю" Якуба Коласа, ці раман пра калектывізацыю, варты "Палескай хронікі" Івана Мележа. Істотна тое, што такія творы ствараліся відавочцамі падзей. Але пры гэтым аўтары з-за ўзросту з'яўляліся хутчэй іх сузіральнікамі або пасіўнымі ўдзельнікамі. Уласны досвед, апора на ўспаміны сталых сваякоў і пэўная часавая дыстанцыя давала праз гады належны мастацкі эфект.

Пра вайну напісана велізарная колькасць мастацкіх твораў. Але паколькі іх аўтарамі часцей за ўсё выступалі ўдзельнікі баявых дзеянняў, найбольш удалым стаў зварот да жанру аповесці. Ён дазволіў ідэальна спалучыць мікрасвет герояў і элементы, фрагменты навакольнага макракосмасу. Магу памыліцца, але дагэтуль у беларускай літаратуры не з'явіўся такі раман пра вайну, пасля якога наступнікам проста не было чаго сказаць.

З гэтай нагоды вельмі дарэчы прагучыць выказванне літаратуразнаўцы Аксаны Бязлепкінай пра феномен "канцэнтрацыі". Падчас аднаго з "круглых сталоў" яна намалявала наступную схему: "Спярша ствараецца шэраг тэкстаў пэўнай тэматыкі, а потым прыходзіць пісьменнік, які выдае мастацкія адкрыцці сучаснікаў у канцэнтраваным выглядзе. Ён і становіцца класікам, а астатнія будуць успрымацца як эпігоны".

Магчыма, мае высновы прагучаць занадта смела. Але ўпэўнены, што Уладзімір Саламаха мае патэнцыял, які дазволіць яму напісаць такі твор. Твор, падагульняльны для самога сябе, дзе ён, аўтар больш як дзясятка кніг, выкарыстае ўсё лепшае са сваіх ранейшых творчых набыткаў і адначасова падымецца на новую вышыню. Твор у пэўным сэнсе падагульняльны для беларускай ваеннай літаратуры, дзе знойдзе сваё адлюстраванне рэчаіснасць 1940-х гадоў, акупацыйнае ліхалецце, пасляваенны час, жыццё і выжыванне чалавека паміж мірам і вайной. Для гэтага ва У. Саламахі ёсць самая галоўная якасць сапраўднага эпічнага пісьменніка, раманіста — здольнасць да натуральнага пераключэння аповеда з зямнога на "нябесны ракурс", з жыццёвых, часам дробных рэалій да погляду на чалавецтва з вышыні аблокаў.

Не, зусім не хацелася б, каб гэтая рэцэнзія ўспрымалася як суцэльнае, нястрыманае ўсхваленне. Як і ў большасці аўтараў, у творах Саламахі сустракаюцца свае спрэчныя моманты. Напрыклад, вобраз Стаса, сына Іосіфа Кучынскага, упісваецца ў агульную танальнасць аповесці. Але зноў-такі, пры працы над творам больш шырокага жанру адзначнасць вобраза наўрад ці паспрые абсалютнай аб'ектыўнасці... Зрэшты, далейшыя мастацкія пошукі залежаць не ад меркаванняў і высноў крытыка, а ад творчых памкненняў самога аўтара.



Мікола Мятліцкі

## Сейбіт

*На полі маім
Не вырасла жыта —
Крыжы!
Давай пастаім
Удвух, хлебасей, на мяжы.*

*Блукаеш штоноч
Абсягам пустым у журбе.
Не выплакаць воч,
Не вынесці страты табе.*

*Я доўга ішоў
На роднае поле.
Мой шлях
Паміж каласоў
Віецца ў атрутных палях.*

*Ты блізка, ты — тут,
У парыве весняй зямлі.
Здзічэлы мой кут
Пакінеш, пакутнік, калі?*

*Туманная рань
Абложныя хмары вядзе.
Ледзь кметная здань
Гарбата прыстала ў хадзе.*

*— Што ж, сеяць пачнём, —
Гаворыш з адышкаю ты.
І чуецца гром.
І шчэяцца зоны драты.*

*— Тут будзе быльнёг,
Бліжэй да узмежку —
Палын!
І белы, як Бог,
Ён рушыў на ўзвораны клін.*

*І чэпка рука
Хапіла сявеньку,
З яе
У лёце рыўка
Насенне бяды дастае.*

*— Спыніся, — кажу, —
Не тое ты сееш, пастой!
...Дзве кроплі дажджу
Азваліся ў далі пустой.*

*І вырас быльнёг,
І засціў сабой небасхіл,
І хмура палёг
Пасохлымі скруткамі жыл.*

*Крывёю калін
Свяціліся межы палёў.
Іх шызы палын
Абсеў і тугою аплёў.*

* * *

*Вярба над копанкаю. Коцікі
У бліках зорнае расы.
І сонца дыск па небе коціцца
За макішанскія лясы.*

*І звычна ўсё. Аблокам выплысці.
Стаяць над макаўкамі хвоі.
І знаеш ты, што гэтай звыкласці
Жыць толькі ў памяці тваёй.*

*Таму й баішся, заваражаны
Усмехам веснае пары
Зірнуць на паплавец няходжаны
І на суседскія двары.*

* * *

*У думках падступлюся да дзвярэй
Хаціны той, дзе цёпла мне было,
І папрашу адзіна: адагрэй
Душу, вярнуўшы даўняе цяпло.*

*І падлічу шчаслівых жменю дзён,
Як той жабрак у шапцы медзякі.
Зірну на свет з павыбітых акон
І абраню жалосна ўздых гнияткі.*

*Набытак мой — мізэрней не сустрэць,
Яго панесці, торкнуўшы ў прыпол.
Адзінаю уцешніцаю Смерць
Са мною сядзе за хаўтурны стол.*

*І вымавіць: — Счакалася, павер!
Клады мае мярцвяча парасці.
Зубоў драпежны выблісне ашчэр,
Вачэй прытухлых зыркнуць вугалі.*

*— Няхай і так! — з дабычнай старой
Згаджуся я, угодліва кіўну, —
Свае гульбіны вусцішныя строй,
Нясі адсюль струхлелую труну!*

*Разбудзім дня мярцвячы супакой,
Гульнём хаўтуры ў даўкай цішыні.
Адно прашу: кашчаваю рукой
Калыскі аніводнай не крані!*

* * *

*Дзень, адпеты вятрамі
І замкнуты зарой,
Над Айчыны палямі
Сееш водсветы мрой.*

*З днямі шчасця ў хаўрусе
Ты агучыш вякі.
Для маёй Беларусі
Самы светлы такі.*

*Над магіламі сечаў
І над жыламі траў
Ты крывёй чалавечай,
Як зарою, палаў.*

*Пругкай гулкасцю крокаў
Гай азвоніцца твой.
Шчэ Чарнобыль далёка —
За расстайнай вярстой.*

* * *

*У лес ступлю.
І атам кожны
Уздрыгне ў голейку бяроз.
Які ты грозны і пагрозны
І лес палескі мой, і лёс.*

*У травастоі сцежка дрэмле,
Даўно забыўшы слокат пят.
Шатры дубоў... Чародка хат...
І хваляй сіняй б'ецца Трэмля.*

* * *

*Атуліце мне сэрца, Палесся бары,
У суцішаны морак дасветны лясны,
Дакраніцеся з той дабядотнай пары
Да збалелай душы мяккай лапкай сасны.*

*Між амшэлых камлёў зырка стужку уплёў
Дзень-сіротнік, якому забыта сканаць:
Не далічаць далоні яго мазалёў,
Працай дужай нічога ім тут не кранаць.*

*Цераз вёрсты выгнання прывечу зямлю,
Дзе ў бясчассе зліліся гадзіны і дні.
Прыгарнуўшы душой, ад бяды затулю.
Хай свідруюць мяне, не яе, прамяні.*



Фота Кастуся Дробава



Васіль Макарэвіч

## Атамавіч

*Вакол рассыпаў
Стронцый да макуліны
І змоўк Чарнобыль, сціх, як ледастаў.
Быў казачным даўным-даўно Мікулаю,
Ды Атамавіч! — гэтак звацца
Стаў!*

*Для грэшнага,
Была эпоха дзядзінай,
Графітныя ён стрыжні не ўбярог.
І ўзроў, нібы Везувій, выбух ядзерны
Дый узвярнуў рэактар,
Як бярлог.*

*Хаця і ў рост
Пайшла трава падвялая,
Цвет яблыні сады абліў шматкроць,
Ён страсянуў падмуркі і падваліны,
Бы выпрабоўваў звышдзяржавы
Моц.*

*Не зразумелі
Знака-папярэджання,
Хоць строп нябёс ён полымем заліў.
І землятрус, што гарады прарэджвае,
Імперыю з імперый
Разваліў.*

*Пры чым тут
Геаметрыя Эўклідава!
Ды і Везувій з Этнай ні пры чым.
Век Атамавіч!
Век-вядзьмак — Нуклідавіч,
Для нас ты стаў і бацька,
І айчым.*

* * *

*Калега возьме і нашустрыцца,
Няйнакш, сустрэў яго барыш.
І смакаваць, як кажа, вустрыцы
На ТУ грабецца у Парыж.*

*Не быў гурманам і кухоннікам,
Ды прабірае гнеў да скаб, —
А хіба дзесьці каля Хойнікаў
Не дастае ў нас сёння жаб?!*

* * *

*Пярун злузае
З клёна пас кары,
На дол зірне здзіўлёна з верхатуры:
Чарнобыльскія горкія кюры
Няўжо дачыста паклявалі
Куры?!*

*На вышках,
Ледзь не развярнуўшы дах,
Не знаючы ні меры, ні прадухі,
Знячэўку знёсшы яйка: куд-кудах! —
Гарлае перапуджана
Квахтуха.*



Мікола Старчанка

## Ніхто не думаў аб бядзе

*Свяціла сонца ў гэты дзень
Над беларускім краем,
Ніхто не думаў аб бядзе,
Што прыйдзе перад маем.
Трымалі жаўрукі блакіт
Нябёс на цёплых крылах,
Дымком-лістотаю ракіт
Вясна лугі пакрыла.
Кідаў, узрушаны сяўбой,
Вясновы люд зярняты,
Нявеста-груша вэлюм свой
Прымервала ля хаты.
Былі асветлены гаі
І промнямі, і сокам,
Настрой святочны салаўі
Прынеслі ўжо здалёку.
А ў гэты дзень, у гэты час,
Як боль зубны у нёба,
Біў радыяцыяй у нас
Бязлітасны Чарнобыль.*

## У слязах бабуля цалавала...

*Цішыня палеская страчала
Маладую майскую зару,
Слёзы-росы ночка асыпала
На траву, лістоту і кару.
На лугі, палеткі і на хаты
Сонца сыпанула серабром,
Але ў поле не спяшыць араты,
Не звініць цялятніца вядром.
Яркія "Ікарусы" і "ЛАЗы"
На вясковай вуліцы стаяць.
Столькі не было іх тут — ні разу
І ўжо не будзе больш, відаць.
...Лезлі у аўтобусы кабеты,
Лезлі у аўтобусы дзяды,
На пяску халодным сандалеты
Пакідалі роспачы сляды.
У слязах бабуля цалавала
Сцёрты пакаленнямі парог,
Цалавала, сэрцам адчувала —
Не тангаць дзяцінства ўжо мурог.*

## Чорны красавік

*Званы трывогі і званы надзеі
Запаланілі наш чароўны край,
Дагэтуль снег чарнобыльскай завеі
Не ў сілах растапіць і цёплы май.
У той завеі разышліся крута
Дарогі чалавека і зямлі:
Перасяленцам — вечная пакута,
Калючы дрот і забыццё — раллі.
Званы трывогі і званы надзеі...
Яны, як нітка тых і гэтых дзён,
Што знітавалі розныя падзеі
На незабыўны хранікальны кон.
Ніколі памяць са сваіх абдымкаў
Не выпусціць той чорны красавік,
Мы ад яго чарнобыльскім памінкам
Наладзілі нярадасны адлік.*

## Салаўіны спеў

*У садах спяваюць салаўі,
У садах, ад часу адзічэлых,
Саржавелы шуфель на цаўі
Пад страхою хаты апусцелай.
Толькі птахі тут пільнуюць край
І прастор разносіць іхні шчэбет,
І лагодзіць сэрца месяц май,
І чуваць асінак гонкіх шэпат.
Віратліва вокнамі на свет
Паглядае сцішана хаціна,
На вакне — жылля забыты след,
Бурая трапеча павуціна.
І трава — Чарнобыля сляды —
Вырасла на вуліцы вясковай,
Толькі месяц вечна малады
Высіцца над вёскаю падковай.*


Ала Саскавец

# Да свайго ганка

## Монап'еса

**Дзейная асоба:**
**Лявоніха — старая жанчына**

*На сцэне сялянскі падворак: хата з закрыжаванымі вокнамі і ганкам, частка плота з брамкай. Цішыню парушаюць конікі, жабы, зрэдку кукуе зязюля. Па той бок плота з'яўляецца старая жанчына. Яна хрысціцца і творыць малітву. І тут пачынае набліжацца роў матацыкла. Жанчына знікае, а праз кароткі час, прыгнуўшыся, забягае ў двор, хаваецца. Матацыкл праехаў, гул яго заціх, жанчына выглянула яму ўслед і загаварыла сама з сабой.*

— Ну, дзякаваць Богу, ня ведае, дзе мяне шукаць. І навошта шукаць? Хіба я злодзей?.. Ці то гэты… агент амараканскі?! *(Зноў чуецца роў матацыкла, і жанчына старанна хаваецца, аж пакуль гэты роў не заціхае.)*

*(Услед матацыклісту.)* Ну што, разумнік?.. Думаў, абхітрыў старую… Гэта ж так мякка сцяліў: сядайце, калі ласка, бабулька, у мацыклетку… Я вас мігам даімчу куды трэба… Ну такі ветлівы, культурны… Я і села ў тую мацыклетку… Во ўжо дурніца!.. Гэта на старасці гадоў на гэтую жалезку… І трасе, і раве… Ветрам аж дух забівае… Вочы не расплюшчыш. Сядзі, як сляпая. А мацыклетка нясецца, толькі слупы мільгаюць… Я ад страху так за нейкую жалезку ўчапілася, што пальцы здранцвелі. Сяджу не дыхаю, толькі Богу малюся… А тады бачу — ён жа мяне не туды, куды мне трэба, а адтуль імчыць. Божухна, думаю, не пакінь! Гэта ж гэтулькі прайшла пехам і не пабачу двара свайго перад смерцю… І не саскочыш жа… І слова сказаць дыху не хапае… Ды і не пачуе хлопец, хоць крычы. На ім жа шапка, як у танкіста. Лаюся на сябе: доўбня безгаловая, клюка старая… Ад крыўды ажно заплакала, далібог. Малю Бога: спыні ты гэтую жалезку… І тут, на маё шчасце, заглохла мацыклетка… Стаіць як укопаная… Ну, думаю, зжаліўся Гасподзь нада мной, старой дурніцай. Вылезла з мацыклеткі і ласкавенька так кажу:

— Дзякую, дзіцятка. Тут я ўжо і пехам дайду… — і паказваю на райцэнтар рукой.

— Недалёка ж…

Ён і згадзіўся. Толькі кажа, падкручу тут сёе-тое і даганю… А я сабе думаю: "Ага, так я цябе і паслухаю…" Мне б толькі з тваіх вачэй… А там — дзе ляском, дзе хмызнячком… Дагоніць мяне. А дудкі! Шукай ветра ў полі. Я хоць і дурная старая, і хоць ногі з перапуду дрыжаць, але во… на сваім падворку… ля свае хаткі… *(Кранае рукой сцяну хаткі.)*

— Ну, здарова была, хацінка мая любая… Гэты ж… з мацыклеткі мне казаў, што няма тут нічога… А ты ж во стаіш, дзякаваць Богу! Нібы мяне чакаеш… А я ж так па табе сумавала, так сумавала… Як па сяброўцы блізкай… Мы ж з табой, хацінaчка мая, аднагодкі. Бацька цябе дабудоўваў, а маці мяне пад сэрцам насіла. *(Прытулілася шчакой да сцяны.)*

— Сумнай ты стаіш, хацінaчка. Не свецяцца твае вокны белымі фіранкамі, не гараць на вокнах агеньчыкі-кветачкі… Не цалуюцца больш пад тваімі сцянамі маладыя… *(Аддаецца ўспамінам.)* А калісь я тут цалавалася з Лявонам. Ой, і калоліся ж яго вусы. Хацелася яму больш сталым выглядаць, дык ён пачне, бывала, вусы адпускаць… А сакратар ячэйкі як пакрытыкуе яго, дык ён паголіцца… А тады зноў адпускае. Дзяўчаты, бывала, жартуюць, што мне Лявонкавы пшанічныя вусы бублікамі здаюцца, а не асцюкамі ячменнымі… Толькі нядоўга цалаваліся мы з ім. Вайна-гадаўка забрала сокала майго белавусага… І сынка свайго адзінага не паняньчаў… Ой, аб гэтыя сцены я галаву сваю як не разбіла, калі пахаронку на яго атрымала… Толькі сынок — Ляксандра — і ўтрымаў мяне на гэтым свеце… І вось жыву… Дажываю свой век… а ён карацейшы за твой, хатка мая любая. Ты яшчэ пастаіш… Колькі разоў ты мне снілася. І ўсё клікала, клікала мяне. І вось табе я… А гэты, з мацыклеткі, відаць, так і не здолеў зразумець, чаму я гатова пешшу ісці… на каленях паўзці… Кажу яму: засумавала па хаце, па двару свайму… Сняцца яны мне. Клічуць… Не верыць. А мо робіць выгляд. *(Прайшла на ганак.)*

І ганак мне сніўся. Цёпленькі такі… Якраз як сёння… *(Пачынае разувацца.)* Яго мой Лявонка прыбудаваў… І сынок рукі прыкладаў… Вось іхнія рукі і грэюць мае старыя косці. *(Выцягвае ногі.)* Вось і сяджу я на ім… Ажно не верыцца… *(Гладзіць дошкі.)* Дошкі гладзенькія, цёпленькія… Рукамі маіх любых габляваныя, дожджыкам мытыя, ветрыкам сушаныя, сонейкам прагрэтыя…

А гэты, з мацыклеткі, дай Бог яму здароўечка, заладзіў як сапсаваны патыфон: няможна ды няможна!.. Там радыяцыя, там радыяцыя… Ведаю, кажу, што радыяцыя… Сама бачыла яе, гадаўку… Ён ажно прысвіснуў, ня верыць. Я і давай расказваць як на духу… У яго вочы па кошыку. Не верыць, і ўсё. А мне навошта яму хлусіць… Бачыла я тую радыяцыю. Во як… хату сваю бачу. І не адна. З Волькай Бачыліхай. Яна не дала б зманіць… Памерла, царства ёй нябеснае… Можа, і памерла ад той радыяцыі, бо дужа тады напужалася… Ведама ж, першая ўбачыла. *(Паўза.)* Нас тады адсялялі недалечка адсюль. Гэта ў першым этапе. У другім этапе ўжо далёка, а ў першым — вёрст за пятнаццаць… Пайшлі мы нeяк з Волькай паглядзець хату, якую дабудоўвалі для іхняй сям'і… Усё ўжо было гатова, толькі шкла не хапіла. Прыцемак ужо быў. А ў хаце дык і зусім цёмна. Але мы зайшлі. Пахадзілі. Яна мне спальню паказала, залу. У кухню ўвайшлі і абмерлі. У куце перад печчу… сядзіць гэтая радыяцыя… і ўся ажно свеціцца, гадаўка… Мы як убачылі, дык як не абмерлі: свеціцца ж! Асабліва Волька напужалася. Ёй жа ў гэтай хаце жыць. Дзяцей сюды сяліць… Выскачылі мы з хаты і ня ведаем, куды падацца. Нас жа выселілі са сваіх хат, бо там… там радыяцыя, казалі… А яна, бач, во і тут пасялілася. Пайшлі да старшыні, а ён смяецца з нас, кажа, яе бачыць няможна. Ну як няможна, калі ж мы бачылі… і нікуды ад гэтага не дзенешся. Кажу гэтаму, з мацыклеткі, што ў маёй хаце радыяцыі не было. Я ўжо так узіралася, так яе шукала… і пад печчу, і за печчу… нават у печку зазірнула. Не было. А калі не было, тады адкуль ёй цяпер узяцца? А ён адно: не паложана, і ўсё. А табе, кажу, паложана туту быць? Кажа, мяне прыслалі сцерагчы… І я павінен сцерагчы… Так што, прабачце, я вымушаны вас не пускаць. А ты, кажу, і не пушчай. Я ўжо неяк без твайго пропуска. Мне тут кожная сцяжыначка знаёмая… Дзе шажком, дзе паўзком… Як за партызанскім часам… Ой, прыпякае. Трэба распрануцца. *(Распранаецца.)* Не ўгледзеў! Стораж мне такі… Ад мяне нехта тут сцерагчы… *(Пайшла хадзіць па падворку.)*

Не рохкае, не вішчыць жыўнасць у хляве… А які парсючок у мяне быў!.. Да Калядаў гадавала. Пахомам клікала. Бывала, паклічу: "Пахом, Пахом!" Ляціць, ажно куляецца з выгана… Прыляціць, мне ў падол рылам уткнецца і толькі вушамі стрыжэ. Чакае, каб я за вухам пачасала… Не пагасаваліся тваім сальцам людзі, Пахомка? Закапалі цябе ў зямельку, бедненькі мой!.. Лысуху-то маю пагналі некуды. Бачыла яе ў тым статку. Парадавалася тады, што сасcкі ў яе слабыя. Бывала, не падоіш у час, паловы малака не будзе, выцячэ… Убачыла яна мяне і кіруе са статка. Гляджу, малачко капае… Пацалавала ў лысінку і назад… у статак адагнала. Ах ты, мая харошая… Усім твайго малачка хапала: і мне, старой, і Пахому, і Румбіку… Яшчэ і ў калгас здавала за сена… А цяпер во такія справы! І нікому не патрэбны яны… І адкуль такая навала?.. Кажуць, з Чарнобыля наляцела сюды гэтай радыяцыі, няхай бы яе пранцы… *(Пайшла да плота, глядзіць на вуліцу.)*

І вуліца замерла. Бач, адзіны след — ад мацыклеткі. А па ёй жа мой сынок колісь хадзіў, а потым унучак, Федзенька, лётаў. От, любіў ён на лецейка да бабы прыязджаць. На сырадойчык, на рыбалку… Бывала, вуду на плячо, вузельчык з хлебам і малаком у рукі і на возера… А за ім Румбік… Першы ўлоў быў ягоны. Завядзёнка такая была… Сябравалі… Гэта Федзька яго Румбікам і празваў. А мне ўсё адно: Румбік дык Румбік! Добры быў каток… *(Спявае.)* "Пайшоў каток у дварок". Мышэй, праўда, лавіць не любіў, а так добры… На мышэй была ў нас Сцепанідзіна Мурка… Румбікава матачка… Ой, ну што гэта я так заўспаміналася. Яшчэ і ў хату не зайшла. Ну-тка, пагляджу праз акенца. А што, як і ў маёй хаце яна пасялілася. Але мне ўжо яе баяцца грэх. Ад нечага ж памерці ўсё адно прыйдзецца. *(Заглядвае ў адно акно, у другое.)*

Ой, што ж гэта такое? А Божачка! А міленькі! *(Шукае ў сумцы ключ.)* А дзе ж яно ўсё падзелася? *(Хоча адамкнуць замок, а ён вымаецца разам з прабоем. Схадзіла ў хату і выйшла.)*

Ні табе шафы, ні канапы… Цікава, а халадзільнік? *(Зноў збегала ў хату.)* І халадзільніку ногі прыладзілі… Вывезлі ўсё. І не на лісапедзе ж вывезлі, па сцежках лясных. Тут машыну падганялі. Раўлі машыны… І не спынілі іх вартавыя. А мяне спынілі. Не пушчалі… Каб, відаць, не ўкрала што!.. Толькі ж што красці тут? А мо таму не пушчаюць, каб людзі не бачылі пустых хат сваіх. Ім узяць нічога не дазволілі, а нехта ж не пабаяўся, падабраў кінутае. Я была ўзяла сабе боты. Новенькія былі. Ёменькія такія. Дык нявестка выкінула. Сказала — пыл на іх ад той радыяцыі. Колькі яе ні пераконвала, што ў маёй хаце той радыяцыі не было, не паверыла і выкінула. *(Спахапілася.)* От цікава, а ці стаіць у каморы куфар? *(Схадзіла ў хату і праз некаторы час выйшла з рэчамі.)*

От, гэтая рэч мне дужа да часу будзе. *(Разгортвае сарочку з белага кужалю, з вышыўкай.)* Мама, відаць, спецыяльна на смерць сабе рыхтавала, а не апранула яе. Пахавалі разам з партызанамі. Вось і засталася. Цяпер у самы час для мяне будзе. *(Адкладае і раскручвае па двары трубку палатна.)* Палатно не ўзялі. Значыцца, злодзеі былі з гораду. Вясковым бы палатно на мяхі спатрэбілася… А во і кужалькy каваланак. *(Прыкладае да твару.)* Які мякенькі. Як мамчыны рукі. *(Разглядвае.)* Узор які! У восем нітак… Маці ткала, а я ўжо не. Некалі было. А галоўнае — не з чага. Авечак гадаваць нельга было. Лёну не сей… Працуй ад цямна да цямна на калгас… І працавалі… Грошай я так і не прычакала… А што на смерць сабрала, таго цяпер і на труну не хопіць. Добра во: мамчын строй вазьму ды і апрану. *(Апранае на сябе сарочку, павязвае галаву.)* Дзякуй табе, мамачка, паклапацілася ты пра сваю дачку: пакінула, не скрыстала. Дзякую табе, родная мая, што хоць маліцца мяне навучыла, Бога ў душу пасяліла. А я во сваім — ні сыночку, ні ўнучку — гэтага не здолела зрабіць… Бо не прала і не ткала. Ты ж, бывала, вечарамі зімовымі садзілася то ля самапрадкі, то ля станка, а мы вакол цябе… І просім, бывала: "Мамачка, раскажы што-небудзь!" І ты расказвала… і пра бацьку з маткай, і пра дзеда з бабай, і пра дзядзек, цётак… А найбольш — пра Бога. І як ён нарадзіўся. І якія цуды тварыў… Як распялі яго злыя юды. Мы ажно плакалі… А потым як радаваліся, калі ён уваскрэснуў… І пелі разам з табой *(Спявае.)* "Учора з вячора // Засвяціла зора, // Зора засвяціла, // Свет узвесяліла, // Свет узвесяліўся, // Свет узвесяліўся, // Хрыстос нарадзіўся".

А ўжо нашы дзеці не каля нас сядзелі, а пад лямпачкай Ільіча з кніжкамі. Я ж думала, што кніжкі пішуць разумнейшыя за мяне людзі. Яны і навучаць… І так, пэўна, і ўсе бабулькі лічылі. Гэта ж мы, бывала, бацькоў сваіх з паўслова слухаліся. Ого, каб запярэчылі. Бацька дужа добры быў, а вяроўкай бы перацягнуў. Брату даставалася. І ўсё больш, праўда, за лапці. Чамусьці ў яго яны вельмі хутка распаўзаліся, як гарэлі. Вось, бывала, і не вытрымліваў бацька: босы, кажа, хадзі, калі насіць не ўмееш. А плёў бацька лапцікі адмысловыя. І спрытна так. Пакуль, бывала, маці бліноў напячэ, бацька лапці спляце. Ёменькія такія. Трэба пашукаць у клецы, мо дзе закінуліся. *(Схадзіла ў хату і вынесла лапці.)*

Во! Якраз мае. Помнілася, бач, што я калісь за куфар іх запіхвала. А ей-ей! Трымаю во рэч, якая праз гэтулькі гадоў цэпло бацькавых рук захавала. Дзіўна як! *(Абувае лапці і бядуе.)*

А вой-вой! А што ж ад мяне маім застанецца?.. Нічога. Думала — хата, садок. Будзе ім дача. А лёсу, бач, не пераможаш: ты плануеш, а ён кіруе. Сам усё вырашыць, сам скіруе цябе туды, куды і не збіраўся… *(Любуецца лапцямі.)* Мне во ад бацькоў такія ўборы засталіся. Гэта ж во кладзіся і памірай. А там бацькі сустрэнуць. Маці свой строй, што на смерць сабе рыхтавала, пазнае, бацька сваіх рук справу — лапцікі… *(Ідзе на ганак, кладзецца.)*

А што каб во гэтак лёг, рукі склаў і ляжаў, ляжаў… Можа б і памёр? А тады прыехаў бы той на мацыклетцы і не пазнаў бы мяне. Такога строю, такога абутку ён жа не бачыў… Цікава, мяне б тут пахавалі, ці ў райцэнтр павезлі? Няхай бы тут. Сярод сваіх. А каб яшчэ побач з бацькамі. Дзе нарадзілася, там і памерла… Лепшага лёсу і не трэба. *(Заціхае і ляжыць. Потым стала на калені.)*

Даруй мне, Гасподзь, грахі мае словам, думкаю і справай зробленыя. Святы Божа, Святы Моцны, Святы Бессмяротны! Памілуй! Памілуй унукаў нашых. Няхай Далонь Твая, Госпадзь, будзе над імі і ўдзень, і ўночы! Няхай Божыя Анёлы сцерагуць іх сон, пакой і здароўе. Ойча наш! Каторы ёсць у небе… *(Чытае да канца.)*

*(Паднялася з кален і тут пачула мяўканне.)*

А вой-вой! Што гэта? *(Хуценька спускаецца з ганка і заглядвае пад яго).* Няўжо жывы каток?.. Так, жывы!.. Каток, белы лабок! Ідзі сюды. Кіс-кіс… Бач, дзічыцца. А я зараз дам яму рыбкі жаранай… *(Ідзе да сумкі, вымае нешта).* Кіса, кіса! На! Еш!.. Ой, які прыгожанькі! І як падобны на Румбіка. А мо ён сынок ягоны. Ласуйся, каток! Я табе яшчэ малачка дам… *(Пайшла ў хату, вынесла чарапок, на хаду выціраючы яго. Зноў зазірае пад ганак.)*

Канечне, гэта не такое малако, якое піў твой тата — Румбік. А можа, каток, я цябе Румбікам клікаць буду? Што, згодзен? Раз курню запеў — згодзен. *(Наліла малака.)* Пі, каток! Бач, не хоча. Ня ведае смаку. Малака ў вочы не бачыў. Ах ты, мой бедненькі! Во што людзі нарабілі. Як хораша б ты жыў. Сядзеў бы зімой на цёплай печы. Улетку хадзіў бы на рыбалку, піў бы малако з пенкай. А цяпер во паспытай хоць такога… Гарадскога, нішчымнага. Не хоча, бач. Мордачку адварачвае. Ідзі да мяне, мой гаротны. Уцякае, бач, не прывык да чалавека. Пужаецца. *(Спрабуе дастаць ката.)* Не бойся, белы лабок. Баба табе нічога кепскага не зробіць… Я так рада жывой душэ. *(Нахілілася ніжэй.)* Дзе ты, дурненькі? Ой, нешта млосна мне зрабілася. *(Спрабуе падняцца.)* У вачах ажно цёмна… *(Паўзе на каленях.)* Ой, як… зямелька мяне… цягне да сябе… *(Узбіраецца на ганак.)* Не крыўдуй, каток, на ганачку цяплей… Дай аддыхацца… *(Узбралася і села спіной да дзвярэй.)*

Ото ж добра… на сваім ганачку… *(Заціхае.)*

Мяўкаеш?! Хочаш чуць мой голас. Ну і слухай! А дзе ж гэта мой нітрагліцырын? *(Палезла у сумку, рыецца ў пошуку.)* А во ён! *(Дастала таблетку, паклала ў рот, запіла малаком.)* О, палягчэла! Выпіла тваё малачко, каток. Няможна мне тут паміраць. Гэта ж такой бяды дзецям нарабіла б… Шукалі б… А я тут… на ганку… на сонейку… Не! Дзякуй, Божухна, што не прыняў ты мяне! І табе, каток, дзякуй. Пасядзім з табой тут якую гадзінку, і рушу я назад. Во здзівіцца мацыкліст, як мяне ўбачыць. *(Пачынае складваць рэчы ў сумку пад мяўканне, якое сведчыць, што каток ідзе да яе.)*

**Канец**

*1996 г.*

# Дзень урачыстасці

Віталій РАДЗІВОНАЎ,
член Саюза пісьменнікаў Беларусі, Беларускага Саюза кампазітараў

**Той, хто слухае музыку, ці разумее яе? Той, хто стварае музыку, ці любіць яе? Той, чыёй музыцы апладзіруюць тысячы людзей, ці задумваецца пра зменлівасць лёсу? Той, хто зачараваны музыкай нябесных сфер, ці верыць у Бога? Але толькі таму, у каго чыстая душа, музыка адкрываецца ўсёй сваёй існай і чарадзейнай прыгажосцю!**



Аднойчы я прысутнічаў на экзамене па фартэпіяна ў адной з музычных студый Гродна. Іграў невідушчы юнак Дзяніс Асімовіч. Было зразумела, што ён незвычайна таленавіты. Тым не менш яго будучыня не выклікала ў мяне аптымізму.

Аднак лёс распарадзіўся інакш.

Асвоіўшы ігру на класічнай гітары, Дзяніс вырашыў стаць прафесійным гітарыстам. Паступіў у Гродзенскае музычнае вучылішча (клас Уладзіміра Захарава) і скончыў яго з чырвоным дыпломам. Потым, зноў жа з чырвоным дыпломам, скончыў Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі (клас Яўгена Грыдзюшкі).

У гады навучання Дзяніс Асімовіч заваяваў шэраг перамог на прэстыжных конкурсах выканаўцаў: Гран-пры Рэспубліканскага конкурсу імя І. Жыновіча; тройчы — званне лаўрэата Міжнароднага конкурсу гітарыстаў у Кракаве, два разы станавіўся лаўрэатам турніру музыкантаў у Празе і аднойчы — у Маскве (у маскоўскім конкурсе, дарэчы, удзельнічала больш як 150 чалавек).

Поспехі не закружылі галаву маладому гітарысту з Гродна. Ён настойліва працягваў удасканальвацца: цаніў рэкамендацыі і парады выдатнага педагога, знанага беларускага гітарыста Валерыя Жывалеўскага, з энтузіязмам наведваў майстар-класы прафесара Расійскай акадэміі музыкі імя Гнесіных Аляксандра Фраучы. Гэтыя знаныя музыканты, лідары нацыянальных гітарных школ Беларусі і Расіі, дапамагалі фарміраванню творчай асобы Дзяніса Асімовіча.

У Празе яго талент заўважыў выдатны гітарыст сучаснасці Штэпан Рак. Ён бярэ маладога выканаўцу ў свой клас, раскрывае яму сакрэты майстэрства, пры гэтым не забываючыся адзначаць у прэсе, што ганарыцца сваім вучнем з Беларусі. Высокая вартасць такой ацэнкі асабліва зразумелая тым, хто знаёмы з непараўнанымі і арыгінальнымі творамі Штэпана Рака, з ашаламляльнай тэхнікай ігры на гітары чэшскага віртуоза. Так, Дзянісу было з каго браць прыклад! Яму пашчасціла прайсці школу сусветнага ўзроўню.

Але — на жаль! — на радзіме гэта не разумелі. Не хацелі разумець. Чыноўнікі рознага кшталту стваралі перашкоды сляпому музыканту ў выканальніцкай і выкладчыцкай дзейнасці. Быццам згаварыўшыся, "ахалоджвалі" яго энтузіязм занядбаннем і абыякавасцю. Зняважалі, ледзь не трымалі артыста за фалды, каб (барані Божа!) ён не выйшаў на сцэну!

Помніцца, менавіта ў той нялёгкі для Дзяніса час я сказаў яму: «Кінь хандрыць! Давай стварыць музыку». Пачаліся нашы заняткі кампазіцыяй. З аднаго боку, мне даваліся мець справу з 23-гадовым чалавекам высокай культуры і рэдкай музычнай адоранасці. З другога боку, перада мной была багатая артыстычная натура з ужо ўсталяванымі ўяўленнямі пра музычнае мастацтва. Абавязвала і тое, што мой выхаванец — вядомы ў Еўропе гітарыст. Часам маё самалюбства цешыла думка: я выкладаю кампазіцыю вучню славутага Штэпана Рака. Праўда, займацца з Дзянісам было зусім не цяжка. Ён з паўслова ўлоўліваў патрэбнае і зусім самастойна пісаў таленавітыя творы для гітары. Сярод іх эцюд "Жаваранак", п'еса "Памяці Антонія Лаура", "Вальс, які прысніўся", "Элегія", "Зімовы экспромт", "Зорны накцюрн". З больш буйных кампазіцый — дыптых "Памяці Чэслава Драздзевіча", "Палын" ("Памяці ахвяр Чарнобыльскай АЭС"), саната "Мегаполіс", партыта "Ісус Хрыстос".

Музыка Дзяніса Асімовіча шматгранная: узнёслая і духоўная — звернутая да Бога; інтымная і лірычная — звернутая да чалавека; акварэльная — светлая і чыстая, лёгкая, празрыстая; калі ў ёй выяўляецца жывапіснасць — гэта альбо прыгажосць шчаслівага жыцця, альбо ўрубелеўская глыбіня, бездань трагедыі. Усе гэтыя эмацыянальныя пласты абапіраюцца на галоўныя рысы яго музыкі: камернасць і шчырасць. Злучаныя ў адзінае цэлае пачуццё, яны ўтвараюць тое, што мы называем душэўнасцю ці сардэчнасцю.

Колькі вытанчанасці, замілаванай простасці ды пяшчоты ў мініяцюры "Жаваранак". Не выпадкова яна прысвечана маці — Галіне Міхайлаўне, клопат якой пра сына няма з чым параўнаць. У рамантычным ключы напісаны "Элегія" і п'еса "Памяці Антонія Лаура". Іх усхваляваная лірыка абуджае ў слухачу высакародныя пачуцці. Дыптых "Памяці Чэслава Драздзевіча" складаюць смутны харал і парывістае "паветра": Дзяніс не мог не адгукнуцца на дачасную смерць польскага гітарыста, кіраўніка міжнародных конкурсаў у Кракаве. Чэслаў Драздзевіч паважаў у Дзянісу ўдумлівага і тонкага выканаўцу. Я назіраў, як стварaўся дыптых, і мяне ўразіла, з якой душэўнай чуласцю, з якім непадробным спачуваннем Дзяніс выказаў свае адносіны да выдатнага чалавека і музыканта. Напэўна, ужо тады юнака хвалявалі пытанні пра смерць...

Яшчэ адна п'еса з трагічным зместам — "Палын". У ёй адлюстравана страшная бяда, якая здарылася з беларускім народам пасля чарнобыльскай катастрофы. У музыцы ўвасобленыя ўзрушэнне і жах — гадзіннікі спыніліся! Але мы, жывыя, чуем цяжкі поступ небыцця! Нам нічога не застаецца, як застыгнуць у нямым смутку. Дзяніс адчуваў на сабе халодны подых смерці. Здаралася так, што чалавечая трагедыя ці агульнанародная бедства ранілі яго сэрца.

Нарэшце настаў час стварэння партыты "Ісус Хрыстос". Мы тады шмат гаварылі пра рэлігію, пра Бога. Як чалавек глыбока веруючы, Дзяніс не мог не звярнуцца да вобраза Збаўцы. Ідэя партыты заключалася ў тым, каб паказаць найважнейшыя этапы Яго жыцця. Так з'явіліся ў творы тры часткі: "У Гефсіманскім садзе", "На гары Праабражэння" і "Дзень урачыстасці".

Уявіце сабе трывожную атмасферу Гефсіманскага саду. Ноч. Вакол ні душы. Хрыстос просіць Айца не аддаваць Яго на смяротныя пакуты. Іуда пайшоў тварыць сваю подлую справу — выдаваць за трыццаць сярэбранікаў. Астатніх вучняў адолеў сон. Хрыстос усімі пакінуты. Наперадзе — смерць на крыжы. Гітара перадае збянтэжанасць духу ў прасторы адзіноты і смутку, якія, у сваю чаргу, раствараюцца ў бязмежнай усяленскай цішыні! Найскладанае пачуццё! Як усё гэта: і адзінота, і абыякавасць людзей, і здрадніцтва, і набліжэнне смерці, — было сугучнае таму душэўнаму стану, у якім знаходзіўся Дзяніс падчас працы над партытай! Ці не таму яе першая частка атрымалася незвычайна выразнай?

Падняўшыся на гару Праабражэння, вучні ўбачылі аблічча Хрыста асляпляльна зіхоткім, а Яго адзенне — белым і празрыстым. Фаворскае ззянне паказана інтэнсіўнай настойлівай музыкай гітары. Калі ў папярэдняй частцы пераважае цемра, якая гняце, дык тут пануе прамяністасць. У Дзень урачыстасці адбываецца сашэсце Духа Святога і ўваскрэсенне Хрыста. Гучыць гімн радасці, гімн перамогі жыцця над смерцю. Потым на нейкі час усеагульная весялосць саступае месца цішы, сардэчнай радасці аднаго чалавека. Завяршаецца трэцяя частка першапачатковым гімнам-шэсцем. Магутныя акорды гітары сімвалізуюць спакойнае, велічнае, малітоўнае, радаснае ўзыходжанне да прастола Госпада Бога асобных людзей, народаў і чалавецтва ў цэлым. Разам з Хрыстом яны ўзыходзяць да бессмяротнасці. Разам з Хрыстом ствараюць бяспрыкладны акт перамогі духу!

Дзяніс Асімовіч памёр у 33 гады, ва ўзросце Ісуса Хрыста, якому пакланяўся, якому і прысвяціў самы значны свой твор.

Жыццё Дзяніса — узор падзвіжніцкага служэння гітары, музыцы, высокаму мастацтву, прыклад веры і вернасці Божаму Сыну. Дзяніс быў песняром смутку і пакуты, але і песняром радасці, бо спазнаў радасць творчасці, радасць перамогі на конкурсах, радасць вучня выдатнага музыканта, радасць у сям'і і ў сяброўстве. Зямное шчасце ледзь дакранулася да Дзяніса… Але яго чыстая і светлая душа сустрэла дзень урачыстасці!

Сёлета яму было б 35.

# Святая наша спадчына



Святлана БЕРАСЦЕНЬ

**З дзесяці твораў тэмпернага і алейнага жывапісу XVII — XIX стагоддзяў — помнікаў беларускага іканапісу, адноўленых рэстаўратарамі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, складаецца разгорнутая тут экспазіцыя "Адкрыццё святой прыгажосці". Выстаўка працуе ўжо месяц (вернісаж прымяркоўваўся да дня нараджэння Патрыярха Экзарха ўсяе Беларусі, Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта) і працягнецца да 22 мая.**

Лёс большасці помнікаў айчыннага іканапісу, як вядома, драматычны: яны пацярпелі падчас пажараў, атэістычных "паходаў", дый проста сам час пакінуў на іх заўважны след. Падоўжыць жыццё старажытных абразоў могуць толькі высокакваліфікаваныя спецыялісты. Іх праца ўяўляе сабою няспешны, удумлівы працэс — ад кансервацыі, умацавання пласта фарбаў, зняцця паверхневых забруджванняў і старога лаку да раскрыцця першапачатковага аўтарскага жывапісу. Прытым кожны твор вымагае індывідуальнага падыходу ў выбары методыкі рэстаўрацыі. Арганізатары выстаўкі "Адкрыццё святой прыгажосці" падкрэсліваюць, што прадстаўленыя на ёй абноўленыя дзесяць твораў старажытнай беларускай спадчыны — толькі невялікая частка захаванай да сённяшніх дзён сакральнай выяўленчай творчасці нашага народа і што магчымасць іх публічнага паказу з'явілася пасля завяршэння комплексу даследча-рэстаўрацыйных работ, праведзеных дзякуючы фінансаванню спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы культуры і мастацтва. Да гэтай тонкай, ашчадлівай працы спрычыніліся А. Шпунт, П. Журбей, С. Шаціла, Д. Карліёнаў, К. Русакова, С. Дзікуць, С. Ішмаева, Э. Пашкіна, А. Ярашэвіч, Л. Сысоева, А. Карпенка, іншыя кампетэнтныя супрацоўнікі музея.

Абразам, прадстаўленым на выстаўцы, рэстаўратары вярнулі аблічча, блізкае да таго, што ствараў іканапісец, і гэта адкрывае новыя магчымасці для вывучэння старажытнага беларускага жывапісу, асаблівасцей мясцовай іканапіснай школы.

А наведвальнікі выстаўкі атрымліваюць невытлумачальнае духоўна-эстэтычнае ўзрушэнне ад сустрэчы з адроджанай сакральнай прыгажосцю — такое сугучнае настрою гэтых перадвелікодных дзён...

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА

Вечар смутку, прысвечаны ахвярам трагедыі на станцыі метро "Кастрычніцкая", прайшоў у Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры. Праграму падрыхтавала капэла "Санорус", якой кіруе маэстра Аляксей Шут. Адбылося першае ў Беларусі выкананне "Рэквіема" Дж. Ратэра; прагучалі таксама творы П. Масканьі, І. Лучанка, А. Залётнева ды іншых кампазітараў.

Апафеозам сёлетняга міжнароднага фэсту "Мінская вясна" будзе канцэрт у Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі, абвешчаны на 28 красавіка. Яго ўдзельнікі — Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Аляксандра Анісімава і наш госць, сусветна знакаміты казахскі скрыпач Марат Бісенгаліеў. Прагучаць "Венгерская рапсодыя" № 2 Ф. Ліста, 200-годдзю з дня нараджэння якога і прысвечаны гэты фестываль; Канцэрт А. Хачатурана для скрыпкі з аркестрам ды аркестравыя варыяцыі "Метамарфозы" Э. Сухоня (першае выкананне ў Мінску).



У адпаведнасці з рашэннем калегіі Міністэрства культуры Беларусі "Пра меры па паляпшэнні развіцця музычна-эстраднага мастацтва ў Рэспубліцы Беларусь" робяцца захады па абмежаванні выкарыстання фанаграм і заахвочванні практыкі выкарыстання "жывога" гуку ў канцэртных імпрэзах на тэрыторыі нашай краіны. Як паведамілі з Міністэрства культуры, яно будзе праводзіць іншыя мерапрыемствы, накіраваныя на стымуляванне і развіццё выканальніцкага майстэрства "жывым" гукам. Міністэрства накіравала рэкамендацыі ва ўсе ўпраўленні культуры аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкама, а таксама ў падпарадкаваныя рэспубліканскія канцэртныя арганізацыі абмежаваць выкарыстанне фанаграм і пашыраць практыку "жывога" гуку ў канцэртных мерапрыемствах. Скарыстанне аўдыёвізуальных тэхнічных сродкаў апошнім часам значна пашырыла магчымасці творчых калектываў і выканаўцаў. Адначасова са станоўчымі тэндэнцыямі ўдасканалення тэхнічнага аснашчэння ў канцэртнай дзейнасці асобных выканаўцаў і калектываў усё часцей назіраюцца факты замены "жывога" выканання "тэхнічным" (фанаграмай). Выкарыстанне фанаграмы вядзе да парушэння правоў гледачоў і паніжэння прафесійнага ўзроўню выканаўцаў. У адпаведнасці з законам Рэспублікі Беларусь "Пра абарону правоў спажыўцоў" інфармацыя пра аказанне забаўляльных паслуг выканаўцамі музычных твораў абавязкова павінна змяшчаць пазнаку наконт выкарыстання фанаграмы.

***На здымку: лаўрэат міжнародных конкурсаў Марат Бісенгаліеў.***

# Флейта — голас любові

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота аўтара

**Творчая гісторыя ансамбля флейтыстаў "Сірынкс", які ганараваны званнем лаўрэата міжнароднага конкурсу і неаднойчы быў героем лімаўскіх публікацый, напэўна, знаёмая большасці нашых чытачоў. Ды ўсё ж нагадаю: яго загадкавая назва паходзіць ад грэчаскага слова "syrinx", што значыць "труба", і звязана з антычным міфам. Аркадскую німфу з імем Сірынга безнадзейна пакахаў усюдысны бог Пан. Ратуючыся ад яго заляцанняў, Сірынга ператварылася ў чарот. Змайстраваўшы з чарацінак-трубачак флейту, Пан граў на ёй пранікнёныя і чарадзейныя песні кахання. А музыканты сённяшняга беларускага ансамбля, мабыць, ужо даўно пераканаліся, што флейта — гэты тонкі і складаны інструмент, які выклікае захапленне і ў слухачоў, і ў саміх выканаўцаў, — адгукаецца толькі на любоў. І, сагрэтая дыханнем любові, раскрывае дзівосы свайго ўнікальнага, магічнага голасу.**



Тры дзясяткі гадоў таму вядомы педагог Ніна Аўраменка зрабіла сапраўдную рэвалюцыю і ў прафесійным асяроддзі беларускіх музыкантаў-духавікоў, і ў методыцы навучання будучых флейтыстаў, і ў канцэртным жыцці. Са сваіх самых юных выхаванцаў, вучняў Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, Ніна Васільеўна стварыла ансамбль, які неўзабаве звярнуў на сябе ўвагу спецыялістаў не толькі ўнікальным складам, а і арыгінальнасцю рэпертуару (ён папаўняўся віртуознымі і вобразна шматпланавымі п'есамі), і сур'ёзнасцю выканальніцкіх задач, і паспяховасцю іх вырашэння. Усе духавыя маюць рэпутацыю капрызлівых, нестабільных інструментаў нават пры выкананні сольных фраз у аркестры. А сабраць у ансамбль флейты — гэта было дзёрзкай творчай рызыкай! Помніцца, якой сенсацыяй сталіся першыя публічныя выступленні маленькіх гадаванцаў Ніны Аўраменкі. Праз нейкі час ансамбль "Сірынкс" ужо ведалі і на "ўра!" прымалі за мяжой: у Германіі, Літве, Люксембургу, Польшчы, Расіі, Украіне, Францыі. З'явіліся і свае аўдыёдыскі — цяпер іх адзінаццаць.

Сёння ў калектыве, узгаданым яго стваральніцай, нязменным мастацкім кіраўніком, дацэнтам БДАМ Нінай Аўраменкай, іграюць як самыя таленавітыя вучні — студэнты і выпускнікі акадэміі, лаўрэаты нацыянальных і міжнародных конкурсаў, апантаныя і паяднаныя мастацтвам супольнага грання. Ансамблі з нетрадыцыйным інструментальным складам, як правіла, скардзяцца на хранічны "рэпертуарны голад". А ў "Сірынкса" такой праблемы няма! Дзякуючы высокаму выканальніцкаму майстэрству ды прафесіяналізму аранжыроўшчыкаў з ліку самых ансамблістаў тут іграюць усё, што падабаецца: ад старадаўняй беларускай музыкі да фантазій на тэмы опер Вінчэнца Беліні, Гаэтана Даніцэці, Джузэпе Вердзі, ад шэдэўраў сусветнага рамантызму да джазавай класікі Джорджа Гершвіна, Скота Джопліна, Генры Манчыні... Ёсць у рэпертуары, які перасягнуў ужо 80 твораў, і музыка, напісаная спецыяльна для "Сірынкса" беларускімі кампазітарамі Генадзем Ермачэнкавым, Уладзімірам Каральчуком, Вячаславам Кузняцовым, Аляксандрам Літвіноўскім.

Складаючы праграму нядаўняга вечара, які адбыўся ў Малой зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі, удзельнікі "Сірынкса" мусілі абмежаваць сваё выступленне дзясяткам твораў розных жанраў, стыляў, эпох. Фрагменты інструментальных канцэртаў: бахаўскага для дзвюх скрыпак з аркестрам, гітарнага — "Аранхуэс" Хаакіна Радрыга; музыка з балетаў Ігара Стравінскага ды Арама Хачатурана; такія розныя і па-свойму эфектныя, маляўнічыя опусы Клода Дэбюсі, Карла і Франца Доплераў, маладой японскай піяністкі Хіромы Ухахры... Гэта была фантастычная вандроўка ў часе і ў прасторы, па краінах і нават кантынентах, у суправаджэнні зменлівых эмацыянальна-эстэтычных уражанняў, чарады кантрасных вобразаў, характараў, настрояў. Дарэчы, трое з музыкантаў — флейтысты Ларыса Ласоцкая і Арцём Нямірскі ды піяніст Вадзім Сідараў, канцэртмайстар ансамбля, зрабілі пераламжэнні ўсіх твораў, прадстаўленых у праграме.

У той вечар публіка пачула і кароткія характарыстыкі ўдзельнікаў калектыву, якія, спаслаўшыся на словы самой Ніны Аўраменкі, агучыла вядучая канцэрта Наталля Ганул. Лаўрэат некалькіх конкурсаў, майстар-віртуоз, выдатная аранжыроўшчыца Ларыса Ласоцкая, душа "Сірынкса", якая грае ў ім са школьных гадоў, з дня стварэння калектыву, а працуе — у Сімфанічным аркестры Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі, дзе падчас спектакляў нярэдка гучыць цудоўнае сола яе флейты. Лаўрэат міжнароднага конкурсу Арсэн Замтарадзэ, таксама "ветэран" ансамбля, грае на альтовай ды басовай флейтах, яго ігры ўласцівая асаблівая тэмбравая выразнасць, тонкае адчуванне стылю самых розных партытур. Сэрца "Сірынкса" — лаўрэат некалькіх конкурсаў, саліст Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі Сяргей Картэс, які вылучаецца бездакорнай музычнай інтанацыяй і... арганізатарскай энергіяй, такой неабходнай у жыцці творчай суполкі. Саліст аркестра НАВТ оперы і балета Арцём Нямірскі валодае ўсімі інструментамі сямейства флейтовых, ён высакакласны аранжыроўшчык і "носьбіт" унікальнага творчага зараду, якім дзеліцца з калегамі. Віктара Аляксеева, віртуознага выканаўцу на альтовай ды басовай флейтах, Ніна Аўраменка назвала інтанацыйным камертонам ансамбля. А пра маладзенькіх Ірыну Сахацкую ды Надзею Новік сказала: "Менавіта гэтых студэнтак вылучыла са сваіго цэпераншага класа і ўзяла ў ансамбль, бо ў іх па-асабліваму гараць вочы". І яшчэ адна характарыстыка: падмурак ансамбля, яго "вушы, густ і рытм" — канцэртмайстар Вадзім Сідараў, які прыйшоў у "Сірынкс" сямнаццаць гадоў таму.

> *"Сірынкс" на працягу некалькіх гадоў супрацоўнічае з дабрачынным германскім фондам "Дамы замест Чарнобыля", дапамагаючы сваімі канцэртамі збіраць сродкі на будаўніцтва дамоў для нашых суайчыннікаў — перасяленцаў з тых мясцін Беларусі, што пацярпелі ад наступстваў чарнобыльскай катастрофы. Штогадовыя дабрачынныя турнэ па Германіі, скіраваныя на падтрымку беларусаў-"чарнобыльцаў", музыканты ансамбля лічаць найважнейшым складнікам сваёй дзейнасці. Яны адчуваюць сябе шчаслівымі ад таго, што іх талент і праца не толькі радуюць многіх людзей, але і прыносяць камусьці канкрэтную дапамогу.*

Яны, добра знаёмыя ў музычным асяроддзі, яркія індывідуальнасці, суполку якіх так і хочацца назваць Ансамблем Салістаў, сабралі поўную залу. Было асабліва святочна ад гарачых авацый, ад букетаў яркіх буйных кветак, ад радасці на тварах пажылых заўсёднікаў філармоніі ды зусім яшчэ юных меламанаў, якія шчыра і заўзята далучаліся да гучных воклічаў сваіх бацькоў: "Брава!"

Брава — паліфаніі ў "Largo..." з ужо згаданага тут Канцэрта Е. С. Баха, падобнай да празрыстага і строга харавога вакалізу. Брава — крохкаму і ўзнёсламу, малітоўнаму інструментальнаму спеву ў "Ave Maria" Дж. Качыні. Брава — кадэнцыі альтовай флейты Арсэна Замтарадзэ з другой часткі "Аранхуэса". Брава — віртуознай, па-сімфанічнаму маляўнічай і поўнай гумару "Тульні царэўнаў залатымі яблычкамі" з балета І. Стравінскага "Жар-птушка" ды бліскучаму, дынамічнаму фіналу Канцэрта М. Бруха для кларнета і альта з аркестрам. Брава — усім непаўторным, густоўным эпізодам, кшталту грацыёзнага вальсавага дуэта "душы" і "сэрца" ансамбля — Ларысы Ласоцкай і Сяргея Картэса ці азартнага, нескаснчонага "Вечнага руху" ў якасці сюрпрыза...

Кажуць, вялікі Вольфганг Амадэй Моцарт жартам пытаўся: "Што можа гучаць яшчэ больш фальшыва за флейту?" І сам жа са смехам адказваў: "Дзве флейты!" У ансамблі "Сірынкс" — цудоўная сямёрка флейтыстаў, і гучанне іх інструментаў уражвае не толькі празрыстай чысцінёй інтанацыі, але і дакладнасцю строю, і той сапраўднай сінхроннасцю, "агульным дыханнем", у чым і ёсць высокая існасць ансамблевай ігры. Цікава, што сказаў бы Моцарт пра гэты мастацкі феномен?

***На здымку: мастацкі кіраўнік "Сірынкса", дацэнт Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Ніна Аўраменка і музыкант ансамбля, лаўрэат міжнародных конкурсаў Сяргей Картэс.***

# У люстэрку экрана

Арцём КУМЕЛЬСКІХ

**Пяць гадоў таму Нацыянальная кінастудыя "Беларусьфільм" выпусціла на экраны драму рэжысёра Сяргея Сычова "Помню". Стужка, у якой зняліся такія вядомыя айчынныя майстры кінаэкрана, як Анатоль Кот, Уладзімір Гасцюхін, ды маладая актрыса Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага Юлія Кадушкевіч, дэманстравалася і па тэлебачанні. У гэтыя красавіцкія дні, калі наша памяць узнаўляе трагічныя падзеі, што здарыліся на атамнай станцыі ў Чарнобылі 25 гадоў таму, фільм "Помню" вярнуўся на вялікі экран: прынамсі, яго паказ наладзіў сталічны Дом кіно.**

**За паўтары гадзіны** разгортваецца кінааповед, прысвечаны тым, хто і праз 20 гадоў пасля чарнобыльскай катастрофы сутыкаецца з яе наступствамі, але, пераадольваючы відавочныя праблемы ды ўласную роспач, прыхаваную ад блізкіх людзей, знаходзіць сілы, каб жыць і працаваць. Мастак-мінчанін Анатоль Буслаў, галоўны герой фільма, атрымлівае духоўную дапамогу на сваёй малой радзіме — Гомельшчыне, якую не абмінула чарнобыльская бяда: людзі тут вераць у адраджэнне жыцця на сваёй зямлі, з верай у заўтрашні дзень будуюць храм...

**Аднак наўрад ці гэты,** у пэўным сэнсе дэкларатыўны і зусім не ўзрушальны фільм здатны выклікаць усплёск глядацкай цікавасці. Тым болей што наша публіка ўжо настроілася на новыя кінапрэм'еры, прымеркаваныя да журботнай даты. Гэта міжнародны праект нямецкай кінастудыі "Bavaria Film" — мастацкая стужка знанага сцэнарыста і рэжысёра



Аляксандра Міндадзэ "У суботу", падзеі якой пачынаюцца ва ўкраінскім пасёлку Прыпяць адразу пасля чарнобыльскага выбуху. Герой сюжэта, камсамольскі актывіст, апынаецца перад маральным выбарам: або дзеля ўратавання людзей паведаміць ім праўду пра маштаб здарэння, або выканаць загад і "не сеяць панікі"...

**Яшчэ адзін міжнародны праект —** новая дакументальная стужка "Ваўкі Чарнобыля", сусветная прэм'ера якой мае адбыцца 26 красавіка па чатырох тэлеканалах: трох еўрапейскіх краін і ЗША. Многія даведаліся пра яе, слухаючы інфармацыйныя праграмы Беларускага радыё, гартаючы штодзённыя газеты. Унікальнасць праекта ў тым, што заходнія спецыялісты, задумаўшы фільм пра ваўкоў, папуляцыя якіх у многіх краінах скарацілася да крытычнага мінімуму, вырашылі паназіраць за іх жыццём ва ўмовах сапраўды дзікай прыроды. У Беларусі аўтары гэтай ідэі знайшлі не толькі адпаведныя мясціны для здымак, але і выдатнага калегу — Ігара Бышнёва. Наш знакаміты рэжысёр-дакументаліст і аператар, фатограф і эколаг, кандыдат біялагічных навук, часова атабарыўшыся ў Палескім радыяцыйна-экалагічным запаведніку, вывучаў тамтэйшую фауну, якая, на яго погляд, за добрыя два дзясяткі гадоў пасля вымушанага зыходу чалавека з гэтых мясцін цалкам аднавілася — да ўзроўню XIX стагоддзя. Такога сёння нідзе ў Еўропе няма, ды вось толькі радавацца з гэтай прычыны нельга: усё жывое ў запаведніку — радыеактыўнае. Вось у такіх экстрэмальных умовах працаваў над новым фільмам Ігар Бышнёў, поруч з іншаземнымі кінематаграфістамі, якія на паўтара года таксама пасяліліся тут. Галоўныя "дзейныя асобы" стужкі, якая доўжыцца няпоўную гадзіну, — пара ваўкоў. Для назірання за драпежнікамі на іх у выніку складаных маніпуляцый былі замацаваныя спецыяльныя прыборы-ашыйнікі. Апроч таго, у камеру трапілі многія іншыя насельнікі запаведніка дый цудоўныя эпізоды з жыцця прыгожай дзікай прыроды, маляўнічыя куткі Прыпяці... Усё гэта ўжо ўбачылі тэлегледачы Аўстрыі, дзе днямі адбыўся паказ "Ваўкоў Чарнобыля".

"Ваўкі Чарнобыля" многае і многім раскажуць пра Беларусь. А для беларускага гледача новая дакументальная стужка будзе, пэўна, самай кранальнай, праўдзівай, захапляльнай і шчырай, блізкай па духу сучаснай кінаработай, прысвечанай нашай зямлі, яе праблемам, яе таямніцам. Яе хараству.

***На здымку: кадр з фільма "У суботу".***

Зіновій ПРЫГОДЗІЧ,
фота Кастуся Дробава

# Ён любіў Беларусь нашу мілую



**Ён яшчэ гарэў творчымі задумамі, будаваў планы на летні адпачынак, марыў пра восеньскі вояж па грыбы… Чалавек паўнакроўна, без усялякай агляджкі і трывогі жыў, а недзе там, у горніх высях, ужо быў вызначаны апошні, незваротны рубеж, да якога яго ўжо клапатліва рыхтавалі, няўхільна вялі.**

Інакш чым можна растлумачыць тое містычна-фантастычнае, што адбывалася з Янкам Сіпаковым апошнім часам?

На працягу аднаго года выйшла адразу чатыры кнігі. Ды не абы-якія — знакавыя! У выдавецтве "Мастацкая літаратура" — "Выбранае" ў серыі "Школьная бібліятэка", "Літаратура і Мастацтва" — "Зубрэвіцкая сага", "Беларуская энцыклапедыя" — "Зялёны лісток на планеце Зямля", "Чатыры чвэрці" — "Малады вецер. Мужчынскія апавяданні".

Нейкі кніжны феерверк, святочны салют. Фантастыка!

А як расцаніць такі факт? Недзе неўзабаве пасля юбілею (15 студзеня 2011 года Янку Сіпакову споўнілася 75 гадоў) яго запрасілі ў госці землякі-аршанцы. Нагода асаблівая: у Аршанскай гарадской бібліятэцы імя Пушкіна адкрывалася чытальная зала Янкі Сіпакова. Я ведаў: пра гэту падзею размова вялася ўжо цэлы год. Іван Данілавіч перадаў нават для пачатку некалькі тысяч тамоў з уласнага кнігазбору.

Але афіцыйнага рашэння ўсё не было, і справа замарудзілася — не так, аказваецца, усё гэта проста. І вось нарэшце дакумент падпісаны. Трэба ехаць на адкрыццё. Праўда, адкрыццё пакуль сімвалічнае, таму што сама зала яшчэ рамантуецца і адчыніцца крыху пазней.

Аднак гэта ніколечкі не змяншыла значнасці падзеі і радасці Івана Данілавіча. Хоць ён разам з тым і вагаўся: ехаць — не ехаць? Не так палохала далёкая дарога, як сур'ёзная псіхалагічна-эмацыянальная нагрузка. Ці вытрымае гэты стрэс яго хворае сэрца? Дый не прывык ён да такіх афіцыйна-ўрачыстых мерапрыемстваў.

— Вось калі б ты, мой дружа, паехаў разам са мною, — нясмела папрасіў ён, — мне было б і весялей, і надзейней.

— Якая размова! — узрадаваўся я прапанове. — Канечне, едзем. Заадно пабываем у тваіх родных Зубрэвічах.

І была гэтая паездка. І была цёплая, шчырая сустрэча з чытачамі — спачатку ў раённай бібліятэцы, а пасля і ў гарадской бібліятэцы імя Якуба Коласа. І было прачулае, сардэчнае віншаванне аршанцамі свайго знакамітага земляка з юбілеем.

Толькі позна ўвечары мы дабраліся ў Зубрэвічы. На двары ўжо стаяла цемень, тым не менш ад экскурсіі па вёсцы Іван Данілавіч не адмовіўся. З якой замілаванасцю расказваў ён нам (а з намі быў яшчэ адзін аршанец — пісьменнік Павел Саковіч) пра гісторыю кожнай хаты, пра лёс кожнага жыхара, з якой настальгічнай тугою прыгадваў сваё сірочае маленства (бацькоў фашысты расстралялі за сувязь з партызанамі), бядотнае, але разам з тым і шчаслівае юнацтва — паступіў ва ўніверсітэт, вучыўся на журналіста!

А ў гасціннай хаце пляменніцы Тамары за шчодрым сталом мы заседзеліся ледзь не да паўночы. Вяртаўся назад Іван Данілавіч расчулены і шчаслівы:

— Ніколі яшчэ я не меў гэтулькі дабрыні і любові, як сёння… Дзеля гэтага варта было жыць і працаваць.

Апошняй фразе тады я не надаў асаблівага значэння — так часта кажуць. Цяпер жа мне чуецца ў ёй нейкі містычны падтэкст. Няўжо Янка ўжо нешта прадчуваў?

Напэўна, прадчуваў. Бо калі я праз два дні зайшоў да яго ў бальніцу, ён сядзеў на ложку незвычайна сумны, тужлівы, разгублены.

— Мусіць, прыйшла ўжо мая пара…

Гэта было сказана з такой скрухаю, з такім болем, што ў мяне пахаладзела пад сэрцам. Я пачаў сварыцца, каб ён выкінуў гэтыя дурныя думкі з галавы, а ён, нібы не чуючы мяне, паўтарыў:

— Мусіць, я ўжо, дружа мой, не выканаю твой наказ… не дапішу "Маю бібліятэку"…

Праз месяц Янкі Сіпакова не стала. Не стала майго лепшага, майго шчырага і вернага сябра, з якім сумесна ішлі пакручастымі жыццёвымі сцежкамі больш як трыццаць гадоў. Не стала клапатлівага сямейніка, які так любіў свайго адзінага сына Сяргея, так кранальна апекаваўся сваёй красуняй унучкай Кацяй. Не стала вялікага грамадзяніна-патрыёта, які так аддана любіў і шанаваў родную бацькоўскую зямлю, з такім болем і трывогаю перажываў за лёс матчынай мовы.

Не стала выдатнага пісьменніка, класіка беларускай літаратуры. На шчасце, ён выканаў галоўную творчую місію, дзеля якой, можа, і прыходзіць у гэты свет — напісаў унікальную трылогію: раман "Зубрэвіцкая сага" — гімн сваёй малой радзіме, эсэ-аповесць "Зялёны лісток на планеце Зямля" — гімн "любай, ненаглядный Беларусі" і "Веча славянскіх балад" — гімн усяму славянству. Нават калі б ён не напісаў больш нічога (а ён напісаў яшчэ шмат выдатных твораў), то і гэтага было б дастаткова, каб імя яго назаўсёды засталося ў нашым прыгожым пісьменстве.

# Акно расчынілася ў вечнасць

Віктар ГАРДЗЕЙ

**І без таго дужа маркотны і сумны дзень азмрочыўся непагаддзю, парывістым ветрам і мокрым снегам, быццам яшчэ не задоўжаная зіма жменямі белых сняжынак спрабавала прысыпаць чорныя стужкі жалобы, выказваючы сваю нязгоду з тым непапраўным і цяжкім горам, што напаткала нас. Зрэшты, гэта звычайная з'ява, калі напрадвесні паслабелыя маразы замяняюцца слатой, а сілу ў завей і завірух спакваля адбіраюць заўтрашнія ліўні. Шкада, але класік беларускай літаратуры Янка Сіпакоў ужо не пабачыць хуткага росквіту прыроды, як і не пачуў ён жаласных усхліпаў ветру, шоргату снежных камякоў.**

Наш выдатны празаік верыў сам і пісаў пра тое, як "у многіх гарадскіх кватэрах самі па сабе нячутна расчыняюцца раптам вокны, і ў цёплых пакоях неяк па-новаму запахне халодны снег — ці то крохкімі ледзяшамі, ці то зябкім бярозавікам". Вось цяпер і для самога аўтара гэтых шчымлівых паэтычна-лірычных радкоў зажуранае акно ў кватэры, што па вуліцы Сурганава, расчынілася не толькі ў зіму — расчынілася яно на ўвесь зямны абсяг, расчынілася ў вечнасць.

Вялікую страту можна зразумець, адчуць фізічна, але нельга ўспрыняць душой і сэрцам. Так усё недарэчна — і так неспадзявана. Можа, параўнанне будзе не да месца, але выйшла амаль па Дзяржавіну: "где стол был яств", там сёння льюцца слёзы. Здаецца, вось жа нядаўна, 15 студзеня, сябры і аднадумцы віншавалі Янку Сіпакова з ягоным 75-годдзем, і тады яшчэ нічога не нагадвала пра апошні круты зігзаг лёсу. У школах і бібліятэках па ўсёй рэспубліцы прайшлі розныя мерапрыемствы ў гонар юбіляра, бадай, не было газеты ці часопіса, якія б не прысвяцілі слаўнаму пісьменніку адпаведны артыкул, рэцэнзію, інтэрв'ю. Але апафеозам свята сталася юбілейная вечарына на Аршаншчыне — радзіме Янкі Сіпакова. Сустрэча з выдатным земляком, заслужаным дзеячам культуры Беларусі, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы адбылася ў гарадской бібліятэцы імя А. Пушкіна. Цёплыя словы ўдзячнасці паэту і празаіку на вечары сказалі прадстаўнікі мясцовай улады, настаўнікі, бібліятэкары, літаратары, сябры. І тут адбылася падзея, пра якую нельга не нагадаць, асабліва цяпер, калі Янкі Сіпакова няма ў жывых. У сваім выступленні, расчулены сардэчным зямляцкім прыёмам, ён выказаў пажаданне перадаць у дар гораду і раёну сваю багатую бібліятэку, якую збіраў усё жыццё, а таксама многа рэдкіх кніг і кніг з аўтографамі вядомых пісьменнікаў, і не толькі беларускіх. Тады, на вечарыне, ніхто і не падумаў, што гэта развітальны дар славутага чалавека, бо сам ён, мусіць, ужо разумеў: гэта яго апошняе спатканне з мілай і любай яму Аршаншчынай.

Не магу казаць за іншых, але асабіста для мяне надзвычай удалае спалучэнне імя і прозвішча — Янка Сіпакоў — з самага пачатку, як толькі на вочы патрапіліся яго цудоўныя вершы, займела нейкі магічны, сакраментальны сэнс. Яно як быццам прычароўвае, падоўгу не адпускае ад сябе. Канечне, прозвішчы некаторых паэтаў забываюцца ці будуць забыты, толькі — не гэта. Янка Сіпакоў напісаў шмат паэтычных кніг, і сярод іх незвычайны свет чалавечай дабрыні, спагады мне адкрывалі такія яго зборнікі, як "Сонечны дождж", "Лірычны вырай", "Дзень", "З вясны ў лета", "Веча славянскіх балад", "Вочы ў вочы" і многія іншыя. Паэт быў заўжды чулым да клопатаў і праблем сучаснікаў, асабліва сваіх землякоў, жыхароў роднай вёскі Зубрэвічы. А паглядзіце, якія запамінальныя нават назвы ягоных кніг, і гэта не дзіўна, калі ведаць, што творца быў наватарам, першапраходцам, майстрам арыгінальных сюжэтаў. У прозе ён пачаў з мастацкіх нарысаў "Акно, расчыненае ў зіму", "Па зялёную маланку", "Даверлівая зямля", потым былі аповесці "Крыло цішыні", "Усе мы з хат", "Жанчына сярод мужчын", "Спадзяванне на радасць". Усё, напісанае ім, сапраўды цяжка пералічыць. Янка Сіпакоў упарта і настойліва асвойваў новыя тэмы і жанры, асноўныя яго творы напісаны на нязведаным дасюль матэрыяле. Ёсць у пісьменніка і зусім нечаканая кніга — кніга прытчаў "Тыя, што ідуць". Прытчы пазнавальныя, павучальныя, яны не абмежаваны ў прасторы і часе, у іх ужываецца, пераплятаецца, узаемадзейнічае рэальнае і нерэальнае, жыццёвае і прывіднае.

Мне здаецца, адну і тую ж аснову, адзін вытак, тыя ж самыя карані, як і прытчы, што трывала ўраслі ў родную глебу, мае і апошняя кніга пісьменніка — раман-містыфікацыя "Зубрэвіцкая сага". Што б там ні казалі, але гэта непераўзыдзены твор, дзе жывуць, працуюць, кахаюць, а то і ваююць з ворагам землякі пісьменніка, і ўсё, пра што апавядаецца ў гэтым таленавітым рамане, перарастае ў народнае гераічнае сказанне пра мужнасць нашых продкаў. У першым нумары часопіса "Полымя" я адгукнуўся на "Зубрэвіцкую сагу" цёплай рэцэнзіяй, асобна адзначыўшы выдатную мову твора, і сёння мне асабліва прыемна, што Янка Сіпакоў паспеў прачытаць мой водгук і застаўся, як сам сказаў, вельмі задаволены. Тая рэцэнзія — мая апошняя ўдзячнасць, мой апошні паклон любімаму паэту і празаіку, бо знаёмыя мы былі даўно, яшчэ з часоў папулярных калісьці каралішчавіцкіх семінараў, а потым гадоў колькі разам працавалі ў часопісе "Маладосць" і нават сядзелі ў пакоі насупраць адзін аднаго, кажучы ягонымі ж словамі, "вочы ў вочы". Пра на дзіва плённы "маладосцеўскі" перыяд мне і сёння нагадваюць двухтомнік выбранай прозы "Сад людзей" і кніга "Тыя, што ідуць", падпісаная роўным, прыгожым почыркам аўтара.

Вядома, што Янка Сіпакоў быў вялікім аптымістам, не паддаваўся апатыі, кепскаму настрою, хоць сам рос сіратой, таму што бацькоў замучылі гестапаўцы за сувязь з партызанамі. Сваім Зубрэвічам, родным людзям і спагадлівым аднавяскоўцам пісьменнік прысвяціў шмат празаічных кніг, тут, у наваколлях Дняпра, набірала моц і крылы для ўзлёту ягоная боская, незямная паэзія, і ўсё ж аднойчы ў аўтабіяграфіі "Замаразкі на першацвет" творца, які зведаў і гора, і бясхлеб'е, цяжка ўздыхнуў: "І тады падумалася, што я ўжо даўно, аж з самага шасцігадовага ўзросту нікому не сын..." Прызнанне гэтае, трэба думаць, вырвалася ў хвіліну роспачы, нейкага душэўнага разладу, але, нягледзячы на свой суровы лёс, паэт не ачарсцвеў сэрцам, наадварот, кожным сваім вершам, баладай, прытчай, аповесцю ці раманам спавядаў чуласць, дабрыню і спагадлівасць. Ён жыў і тварыў, як сапраўдны сын Беларусі, сынам сваёй вялікай і малой Радзімы ён быў і застаецца на самай справе.

# Прыўкрасныя алені ў святле яго жыцця

**Напэўна, толькі Уладзімір Караткевіч мог параўнаць кнігу з прыўкрасным аленем, а яшчэ і з прыўкраснай птушкай у палёце… І зрабіў ён гэта ў Роздуме над "Вечам славянскіх балад" Янкі Сіпакова "Справядлівасць", які напісаў цяпер ужо ў такім далёкім 1977 годзе.**

**Раіса БАРАВІКОВА**

У тым артыкуле сказаў ён і пра самога Сіпакова: "Гэты хлопец, сам таго не жадаючы, даў ладнага выспятка паэтам майго пакалення, і ў тым ліку мне. І дзякуй Богу. Свет, дзе няма месца нечаканасцям, — гэта не свет. І кніга гэта добра паслужыць людзям і Беларусі".

Два класікі, два волаты айчыннай літаратуры, яны абодва годна служылі і нашаму беларускаму люду, і нашай Бацькаўшчыне. "Зямлёй пад белымі крыламі" назваў Беларусь Уладзімір Караткевіч, "Зялёны лісток на планеце Зямля. Партрэт Беларусі" — адгукнуўся яму наўздагон сваёй кнігай эсэ Янка Сіпакоў, мілы Іван Данілавіч, які так нечакана ступіў на шлях незабыўных, хто ўжо застаецца толькі ва ўспамінах…

Польскі пісьменнік Рышард Курыльчык, які, дарэчы, як і Сіпакоў, нарадзіўся на Віцебшчыне, напісаў кнігу "Славянскі світанак", якая выдавалася ў нас некалькі гадоў таму ў цудоўным перакладзе Анатоля Бутэвіча. Янка Сіпакоў больш як чатыры дзесяцігоддзі таму расказаў свету амаль тое ж самае, ён тут — першапраходца: хто мы — народы, што складаюць сям'ю славян, адкуль з'явіліся, што перажывалі стагоддзямі, які ў нас характар, якія рысы яднаюць і што раз'ядноўвае. Цікавы момант, калі ў кнізе Курыльчыка ў эпізодзе, датаваным вясною 553 года нашай эры, я прачытала, што пасланнік Нарзэса — візантыйскага правіцеля Італіі — звярнуўся да Iардана, былога канцлера Гунцігіса, князя готаў з просьбаю даць як мага большую інфармацыю наконт славян, дык той адказаў: "…Назвы іхніх плямён вельмі зменлівыя, адпаведна назвам розных родаў, але найбольш называюць іх "венедамі", дзелячы на склавінаў і антаў. Гэтыя склавіны занялі ўсход і прастору паміж морамі аж за ракой Вістулай. Ад Вістулы ўніз, ажно да гор, знаходзяцца анты. З імі, калі іх узначальваў князь Бож, змагаўся наш кароль Вінітарый…" І мне тут жа схацелася ўзяць у рукі "Веча славянскіх балад", каб прачытаць баладу антаў чацвёртага стагоддзя "Божа":

*…А Божа, раскрыліўшы рукі,*
*глядзіць на іх з ласкай і верай,*
*Нібыта і зараз натхняе*
*на новы, рашаючы бой,*
*Бо трэба ж нас спаліць Вінітару,*
*гэтаму готскаму зверу,*
*За крыўды, пакуты, абразы,*
*за здзекі ўсе над сабой.*

*Распяў вадара той з сынамі*
*і могучаў знаных замнога,*
*Каб ва ўсіх паланёных пасеяць*
*апуджана-жудасны жах.*
*І, здаецца, на ўсіх на сцяжынах,*
*на ўсіх, здаецца, дарогах*
*Распятыя Божавы воі*
*на ўпоспеху збітых крыжах.*

*Так, думалі, сполах народзяць,*
*а гэта гнеў нарадзіла,*
*Так, думалі, сеюць пакору,*
*а ўсхаласіўся бунт.*
*І ўжо ў вачах забліскала*
*непераможная сіла,*
*Сіла, якая ўзыходзіць*
*з роспачы, болю, пакут.*

Лічыцца, што таемную, загадкавую славянскую душу раскрыў іншым народам у сваіх творах Фёдар Дастаеўскі. Янка Сіпакоў паказаў яе па-свойму. Гэта як два бакі Поўні: адзін прыцемнены, у лабірынце ўласных пакут душы нейкага аднаго паэўнага чалавека, другі бок — гісторыя пакут людства, нязломнага найчасцей у барацьбе за свой шлях, няхай то будзе сучасны беларус, паляк, серб, рускі, балгарын ці ўкраінец, але ўсе мы нашчадкі тых далёкіх славян, нашы гены — ад іх.

Так, мы ўмеем быць мужнымі, умеем быць і зацятымі ў нейкім сваім перакананні, мы і годнасць маем вялікую, і пачуццё гонару, нас цяжка зламаць. Праўда, ёсць і заганы, як на маю думку, дык самаедства ў нас зашмат. Мы не навучаныя захапляцца кімсьці, дакладней, выказваць камусьці сваё захапленне, мы скупыя на падобныя словы, можа, гэта ад нейкай залішняй нашай сціпласці, якую носім у сабе, як пакору, а можа, і ад нечага іншага… А заўтрашні дзень нікому не абяцаны, дык трэба спяшацца, усё, што ёсць у душы, сказаць сёння, бо заўтра можа быць і позна. Вось і я цяпер дакараю сябе, чаму не знайшла моманту падчас нашых размоў з Іванам Данілавічам пра яго бібліятэку сказаць яму, што я таксама збірала кнігі і што сярод усяго гэтага збору ёсць адна запаветная, вельмі дарагая мне палічка, дзе стаіць самае-самае, што я лічу найлепшым у нашай, ды і ў сусветнай паэзіі… І сярод не такой ужо і вялікай колькасці томікаў на той палічцы захоўваюцца ў мяне ажно тры кнігі паэзіі Янкі Сіпакова: "Веча славянскіх балад", "У поўдзень, да вады" і "Усміхніся мне":

*Здараецца, наплыне дабрыня*
*І так захопіць дзіўная чуллівасць,*
*Што ўсё на свеце хочацца абняць,*
*Да сэрца ўсё прылашчыць беражліва.*

*Сп'янелы сонцам, збегшы ад хлусні,*
*Нібыта чмель, у леце я шчыру́ю.*
*Усхваляваны ласкаю, усім,*
*Як волю, дабрыню сваю дарую…*

Іван Данілавіч Сіпакоў быў не проста добрым чалавекам, у ім жыла тая сонечнасць, ад якой заўжды зыходзіла цеплыня. Умеў ён быць і прынцыповым, але мне бачылася гэтая прынцыповасць у межах нейкай вельмі чалавечнай далікатнасці, за якой — мудрасць мудрасць, ды, напэўна, і мудрасць генаў, назапашаная стагоддзямі далёкімі прашчурамі-славянамі. А яшчэ ён быў справядлівы і гэтай справядлівасці патрабаваў ад іншых. Звездаўшы горкую галечу сіроцтва пасляваеннага дзяцінства, ён ніколі не жыў чымсьці хуткаплынным і дробным, ён рупіўся і дбаў пра іншых, да чаго заклікаў і астатніх. Умеў ён і захапляцца чужым талентам, і своечасова разгледзець гэты талент, і падтрымаць яго. А якім глыбокім знаўцам сусветнай літаратуры паўстае Сіпакоў са старонак свайго ці не апошняга твора, першай кнігі эсэ "Мая бібліятэка", што друкавалася на старонках трох першых нумароў часопіса "Маладосць"!

Здаецца, гэта было толькі ўчора… Восьмае сакавіка, тэлефонны званок, пазнаю голас Івана Данілавіча… Пасля слоў віншавання з традыцыйным жаночым святам ён пытаецца, ці былі якія-небудзь водгукі на яго эсэ? Вядома ж, былі, адказваю: і супрацоўнікам рэдакцыі спадабалася, і Павел Паўлавіч Саковіч шмат добрых слоў выказаў… І ўвогуле, вось скончыцца ў мяне адпачынак, і абавязкова прыходзьце ў рэдакцыю. "Прыду", — паабяцаў ён. І гэтае "прыду" так і засталося назаўжды толькі абяцаннем. Праз дзень пасля той размовы Янка Сіпакоў пайшоў і выношваючы ў сабе яшчэ так многа творчых задум (мяркую, што гэта была і другая кніга эсэ "Мая бібліятэка", і, напэўна, кніга прозы "Маладь вецер"), пайшоў за межы свайго зямнога быцця, а тыя словы водгукаў, якія, магчыма, ён хацеў пачуць ад мяне, праз некалькі тыдняў выказала літаратуразнаўца і выкладчыца Мазырскага дзяржаўнага ўніверсітэта Тамара Нуждзіна: моладзь, студэнты зачытваюцца яго апошняй публікацыяй, тым самым эсэ ў "Маладосці", передаючы часопіс з рук у рукі… Гэта, напэўна, і ёсць тое Заўтра, пра якое магутны паэт зямлі беларускай Янка Сіпакоў пісаў у адным са сваіх вершаў:

*…Ну дзе ж ты, Заўтра?! Хораша чакаць*
*Твайго, асветленага мараю, світання!*
*Бо кожнаму, як сябрава рука,*
*Заўсёднае на заўтра спадзяванне.*

Дню заўтрашняму Ён пакінуў свае шматлікія кнігі, дзясяткі кніг паэзіі і прозы, якія з цікавасцю прачытаюцца і чытачамі наступных стагоддзяў. Праз гэтыя творы яны дапішуць штосьці сваё да Яго постаці, а з намі ў нашым стагоддзі Янка Сіпакоў застаецца такім, якім мы ўсе яго ведалі, паважалі і, як умелі, любілі.

## 26 красавіка — Дзень чарнобыльскай трагедыі



# Партнёрства дзеля здароўя

**Нават цяпер, праз 25 гадоў, складана ацаніць дапамогу, якую аказвалі замежныя дзяржаўныя і грамадскія арганізацыі пацярпелым раёнам Беларусі.**

**Васіль ЯКАВЕНКА, пісьменнік, кіраўнік Беларускага сацыяльна-экалагічнага саюза "Чарнобыль"**

Але ж зусім асобна ў нашай гуманітарнай прасторы стаіць ініцыятыва Піцбургскага медыцынскага ўніверсітэта (ЗША), а калі больш канкрэтна — доктара Томаса Фолі (Thomas Foley) і Марыі Дзямковіч, апошняя — беларуска з мястэчка Моталь, па сканчэнні Варшаўскай вышэйшай медыцынскай школы працавала педыятрам у Польшчы, потым — у ЗША. Пасля Чарнобыльскай катастрофы неадночы прыязджала на Бацькаўшчыну, у Мінску пазнаёмілася з дзейнасцю аб'яднання БелСаЭС "Чарнобыль", з дактарамі клінікі Інстытута радыяцыйнай медыцыны і 4-й дзіцячай бальніцы. Вярнуўшыся ў Амерыку, пачала збіраць, купляць і прывозіць у выглядзе гуманітарнай дапамогі ў 4-ю дзіцячую бальніцу і Мотальскую сельскую бальніцу лекі і медыцынскія прылады.

Аднойчы ў Піцбургу яна зацікавіла амерыканскіх медыкаў чарнобыльскімі праблемамі, і таму неўзабаве яны ўжо разам з прафесарам Томасам Фолі (Thomas Foley), спецыялістам па эндакрыналогіі, прыязджаюць у Беларусь. Раз, а потым яшчэ і яшчэ… Стварылі Міжнародны фонд аховы здароўя дзяцей, у раду якога з беларускага боку ўвайшлі і яна, Марыя Дзямковіч, і вядомая гімнастка Вольга Корбут.

У адзін са сваіх прыездаў у Мінск доктар Фолі даў інтэрв'ю газеце "Набат" (2003, красавік, № 9). Паводле яго слоў, у праграму партнёрства ўваходзілі: адукацыя і ўдасканаленне спецыялістаў, прынамсі, гэта як прыярытэт; другое — падтрымка дыягностыкі і лекавання пацярпелых ад радыяцыі дзяцей, асабліва з ракам шчытападобнай залозы; затым — абсталяванне беларускіх бальніц новымі сродкамі дыягнастыкі і лячэння, у прыватнасці, для дапамогі нованароджаным з паталагічнымі адхіленнямі, неданошаным дзецям.

Марай партнёрскага супрацоўніцтва ў іх увогуле было адкрыццё ў Беларусі дзіцячага медыцынскага цэнтра, па сваёй аснашчанасці, як бачылася Фолі, найлепшага на гэтым кантыненце.

Паводле слоў Т. Фолі, паскорыць вырашэнне пытання амерыканскага супрацоўніцтва з нашай краінай дапамаглі беларуская дыяспара ў ЗША і асабіста доктар Марыя Дзямковіч: "Яны пісалі лісты і накіроўвалі членам амерыканскага ўрада і парламента, непасрэдна вялі перамовы. Гэта і падштурхнула адказных асоб узяць пад увагу наш афіцыйны зварот. Для нас выдзелілі грант у 240 тысяч долараў. Вы здзіўленыя?"

Так, у гутарцы з ім тады я выказаў здзіўленне. Атрымалася ж цікавая рэч. Бо тыя 240 тысяч долараў выдаткавала на Беларусь (для рэалізацыі праграмы Фолі ў навуковым партнёрстве) вядомае Агенцтва па інтэрнацыянальным развіцці, у якое крыху раней, а менавіта ў студзені 1992 года, я перадаў хадайніцтва аб гуманітарнай дапамозе за подпісамі прэм'ера В. Кебіча, старшыні чарнобыльскага камітэта Вярхоўнага савета А. Смоляра і, уласна, сваім як каардынатара чарнобыльскіх ініцыятыў. Недарэчнасць тады была ўтворана адсутнасцю афіцыйнай падачы для такога незвычайнага дакумента. Пра гэты прыкры выпадак я і расказаў доктару Фолі, адно пра тое ён нічога не ведаў, што і не дзіўна.

У склад амерыканскіх дэлегацый разам з доктарам Т. Фолі ў розны час увахо-дзілі таксама В. Дональдсан, дырэктар дзіцячага шпіталя ў Піцбургу, вядомы амерыканскі хірург, Ш. Вайнштэйн — чалавек ад Амерыканскага міжнароднага альянса аховы здароўя, дактары Б. Зітэлі, М. Блюм, С. Какошыс — адмыслоўцы ў даследаванні хвароб шчытападобнай залозы і ўнутраных органаў.

У Мінску амерыканцы завязалі знаёмствы і цесныя адносіны з Міністэрствам аховы здароўя. Знайшлі адначасова ўзаемаразуменне і зацікаўленасць заакіянскім вопытам навучання ў медыцынскім універсітэце, рэктар Аляксей Кубарка, — на той час там акурат праводзіліся рэформы, аналагічныя рэформам за акіянам. Дапамаглі абсталяваць камп'ютарнай тэхнікай, укаранілі пры гэтым спецыяльныя праграмы. Адкрылі рэдкі для таго часу таксічны цэнтр у 4-й дзіцячай бальніцы. І ўжо шмат якія беларускія спецыялісты ў галіне медыцынскай радыялогіі, як, напрыклад, прафесар Ларыса Астахава, урачы Таццяна Варанцова, Таццяна Маслоўская, Таццяна Палякова, Ірына Мітрошанка, прафесар Сяргей Мяльноў (гэты ў апошнія гады), пазнаёміліся з амерыканскімі спецыялістамі і прайшлі курс удасканалення за мяжой, у Піцбургу, а таксама ў Польшчы. За стажыроўку ў шырокай кагорце амерыканскіх сяброў адказвала Мірыям Блюм. Тэмы стажыровак мяняліся — былі і па захворванні дзяцей і дарослых на рак шчытападобнай залозы, і па захворванні на рак малочнай залозы ў жанчын.

Амерыканскія сябры арганізавалі ў дзіцячай бальніцы № 4 падрыхтоўку па агульнай педыятрыі пад кіраўніцтвам прафесара Базіля Зітэлі і доктара медыцыны Мірыям Блюм. Тое ж і па гастраэнтэралогіі, калі праведзеныя важныя даследаванні выявілі высокі ўзровень накаплення бактэрыі Helicobactor pillori gastritis у дзяцей, асабліва тых, якія праходзілі лячэнне ў санаторыях з хранічнымі захворваннямі, цярпелі абдамінальныя болі, прычыну якіх раней было прынята звязваць з псіхагенным уплывам, што цяпер асацыяваліся з чарнобыльскай катастрофай. Доктар Марцін Чарон, кіраўнік дзіцячага аддзялення радыяцыйнай медыцыны ў ДКП, наведаўшы Беларусь, аказаў належную кансультацыйную дапамогу ў рамках праграм па радыяцыйнай медыцыне адпаведных беларускіх устаноў. Правялі заняткі і па сястрынскім доглядзе за дзецьмі пад кіраўніцтвам Патрыцыі Джампа, вопытнай медсястры. Ды ўсяго тут не пералічыш.

Праект Томаса Фолі набыў назву "Вучоныя дапамагаюць дзецям Чарнобыля". Ён, як вядома, залежыць ад фінансавання ў ЗША. У свой час на яго збірала грошы таксама беларуская дыяспара пры падтрымцы епіскапа Мікалая. І доўжыцца праект дагэтуль, здзяйсняецца пераважна ў абмене вопытам.

Сам доктар Фолі — чалавек даволі шырокіх інтарэсаў, складае песні, іграе на банджа і гітары. Ягоны верш "Чарнобыль", прысвечаны радыяцыйнай экалагічнай катастрофе, у перакладзе на рускую мову быў надрукаваны ў газеце "Набат".

***На здымку: Марыя Дзямковіч.***

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара

# Народжаны быць Мастаком

**Не так даўно народны мастак Беларусі Георгій Паплаўскі адзначыў сваё 80-годдзе. Нарадзіўся ён ва ўкраінскім горадзе Роўна, скончыў Мінскае мастацкае вучылішча, аддзяленне жывапісу Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Дарэчы, выпускнікамі кафедры жывапісу ў розны час былі такія народныя мастакі Беларусі, як Віктар Грамыка, Леанід Шчамялёў, Барыс Герлаван, Уладзімір Тоўсцік. Георгій Георгіевіч — акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Расійскай акадэміі мастацтваў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі нашай краіны (за серыю акварэляў "Браслаўскі альбом" і цыкл графічных работ з творчых паездак па Інданезіі і Кубе) і многіх міжнародных прэмій. За работы цыкла "Індыйскі дзённік" і афармленне кнігі "Тырукурал" індыйскі ўрад адзначыў яго Міжнароднай прэміяй Джавахарлала Нэру. Пералік узнагарод Георгія Георгіевіча можна доўжыць і доўжыць. Ён — жывапісец, акварэліст, ілюстратар, графік, працуе ў разнастайных тэхніках станковай і кніжнай графікі, станковага жывапісу. Яго імя прыхільнікі мастацтва ведаюць не толькі на радзіме, а і далёка за яе межамі, бо работы майстра знаходзяцца ў шматлікіх музеях і прыватных зборах як Беларусі, так і Швейцарыі, Германіі, Аўстрыі, ЗША, Індыі, Украіны, Расіі… Да таго ж, Георгій Георгіевіч вылучаны на атрыманне прэстыжнай прэміі Саюзнай дзяржавы. Як вы ўжо здагадаліся, сённяшні госць лімаўскай "Прасторы ўяўлення" — Георгій Паплаўскі.**



Майстэрня мастака, дзе мы дамовіліся сустрэцца і пагутарыць, вельмі ўражвае: акрамя шматлікіх карцін, напісаных раней і над якімі ён працуе цяпер, лашчаць вока размаітыя хатнія кветкі і разнастайныя сувеніры, прывезеныя з вандровак з амаль усіх краін свету. На першае трывіяльнае пытанне пра тое, як вызначыўся яго творчы жыццёвы шлях, Георгій Георгіевіч адказаў, на яго погляд, банальна, але трапна: "Мастаком трэба нарадзіцца". І не важна, у якой сферы дзейнасці: сталяр ты ці цясляр высокага класа, якім быў яго бацька. Са слоў Георгія Паплаўскага, з пяці гадоў, як ён сябе помніць, заўсёды хацелася маляваць. Але ж не было ні альбомаў, ні нават каляровых алоўкаў. Гэта цяпер раскоша і вялікі выбар усялякіх прылад, калі майстар займаецца маляўнічымі практыкаваннямі са сваёй праўнучкай. А ў дзяцінстве адзіным сродкам малявання быў хімічны аловак. Ды і то малады "творца" вельмі напераджваўся, калі малюнак ад вільгаці пацёк і расплыўся.

*"Падчас вайны, зразумела, — узгадвае Паплаўскі, — не маляваў. Але да вайны, з першага класа, ведалі, што я "мастак". Афармляў насценгазеты. Пасля вайны цётка майго суседа-аднагодкі, які жыў літаральна праз плот, знакамітая мастачка Валяр'яна Жолтак, прапанавала яму хадзіць у выяўленчую студыю пры бабруйскім Доме піянераў. А я і не ведаў пра гэтую студыю і пайшоў, як кажуць, за кампанію. Яе наведвала група маіх равеснікаў і нават старэйшыя вучні. Там быў выдатны педагог Барыс Фёдаравіч Бяляеў. Такіх, мабыць, сёння ўжо немагчыма знайсці. Ён выхаваў, можна і так сказаць, усю бабруйскую моладзь, прадстаўнікі якой потым сталі вядомымі мастакамі.*

*Пасля была вучоба ў Мінскім мастацкім вучылішчы, дзе таксама былі добрыя настаўнікі: Волкаў, Цвірка, Мазалёў, Сухаверхаў. Але Барыс Фёдаравіч быў для мяне як родны бацька, клапаціўся пра нас, сам рабіў пэндзлі… Першы набор ажыццяўляўся ў 1947 годзе. Паступала 200 чалавек, з якіх прынялі 60, мяне ў тым ліку. На сёння ў жывых з нас, "пачаткоўцаў", засталося вельмі мала: Грамыка, Шчамялёў, Назарчук, Данцыг, мая жонка Наталля Мікалаеўна, жонка Савіцкага".*

Станаўленне творцы як графіка пачыналася не з дзяцінства, нават у Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце ён заканчваў аддзяленне жывапісу. *"Справа ў тым, — тлумачыць Георгій Паплаўскі, — што я раней за ўсіх сваіх сакурснікаў ажаніўся. Трэба было зарабляць грошы, каб утрымліваць сям'ю. Графіку вельмі любіў і пачаў працаваць у часопісах "Бярозка", "Вясёлка", "Маладосць", "Беларусь" як ілюстратар. І ў адным са сталічных выдавецтваў, дзе працаваў галоўным мастаком выдатны чалавек Мікалай Цімафеевіч Гуціеў. Ён прапанаваў мне ілюстраваць кнігу Джэка Лондана "Смок Белью". Каб іншую якую кнігу, можа, і адмовіўся, але Джэк Лондан на той час быў кумірам шмат каго. Гэта быў пачатак майго захаплення ілюстрацыямі. Спрыялі мне ў супрацоўніцтве з выданнямі такія людзі, як Аляксей Кулакоўскі, Мікола Гамолка, Барыс Бур'ян…"*

Асобная старонка творчасці мастака — афармленне кніг. Сярод замежных аўтараў — У. Шэкспір, Ф. Петрарка, І. Шылер, Д. Свіфт, Д. Лондан, Р. Тагор, айчынных — Янка Купала, Якуб Колас, А. Адамовіч, В. Быкаў, У. Караткевіч, І. Навуменка, А. Куляшоў, І. Мележ, І. Шамякін, Я. Брыль, В. Тарас. Да слова, на міжнародным конкурсе ў Лейпцыгу ў 1968 годзе за ілюстрацыі да кнігі Якуба Коласа "Новая зямля" творца атрымаў дыплом "Найпрыгажэйшая кніга свету". Гэта быў першы дыплом, не так важны, са слоў мастака, для яго асабіста, як для айчыннага выдавецтва "Беларусь", якое ўпершыню атрымала такое міжнароднае прызнанне. Гэты дыплом тагачасны дырэктар выдавецтва Захар Матузаў павесіў у сваім кабінеце.

Афармленне кніг зрабіла Георгія Паплаўскага больш вядомым для некаторых як графіка, чым жывапісца. Шмат год працаваў з маладзёжнымі групамі графікаў у доме творчасці "Сенеж", куды прыязджалі прадстаўнікі ўсіх саюзных рэспублік, сацыялістычных і нават капіталістычных краін. Актыўна ўдзельнічаў у калектыўных і персанальных выстаўках на радзіме і ў замежжы, у афіцыйных мерапрыемствах, як то месячнікі культуры ў Францыі, Венгрыі, меў шмат дасягненняў. Ён і акадэмікам Акадэміі мастацтваў СССР стаў як графік. Але час ад часу выстаўляўся ў Беларусі і Расіі як жывапісец. Большасць жывапісных работ знаходзіцца ў Расіі, бо шмат якія творы пісаў па дамове з Масквой, а графічных хапае як на радзіме, так і за яе межамі.

Георгій Георгіевіч — прадстаўнік так званага "суровага стылю", ля вытокаў якога ён стаяў разам са сваімі калегамі.

*"Не я прыдумаў і абазначыў плыню "суровым стылем", — зазначае мастак. — Справа ў тым, што ўсе маладыя і "яршыстыя". Нам заўсёды падаецца: тое, што створана нашымі папярэднікамі, настаўнікамі, ужо зроблена, а мы павінны ісці далей. Быў у выяўленчым мастацтве так званы стыль "лакіроўка" — усё прыхарошвалася. Калі гэта рабочы, то абавязкова паголены, добра апрануты, калі калгаснік — павінен ледзь не ў гальштуку сядзець у камбайне ці трактары. Студэнтам быў на практыцы на Мінскім трактарным заводзе, у ліцейным цэху. Бачыў гэту цяжкую працу: гарачыня жудасная, рабочым там зусім не да галення і гальштукаў. "Лакіроўкай" ніяк не адлюструеш гэткі працэс, а толькі праз рэалізм.*

*З нашага пакалення "шасцідзясятнікаў" шмат хто прайшоў праз гэта. І не толькі мастакі, а і пісьменнікі, прыкладам, Вазнясенскі, Раждзественскі, Ахмадуліна. У нашай прафесійнай "кухні" гэты рух называўся "суровы рэалізм".*

Аднойчы Георгія Паплаўскага разам з іншымі мастакамі паслалі ў творчую камандзіроўку на цаліну рыхтавацца да выстаўкі "Дзесяць год асваення цаліны". Але той год надарыўся неўрадлівы, ды яшчэ ў возера Ісык сышоў сель і загінула шмат людзей. Творцы хацелася паказаць тую цаліну, якой ён яе ўбачыў, а не як напышліва ў газетах пра яе пісалі.

Вярнуўшыся дахаты, панёс работы на выстаўкі. У яго запыталіся, як там сітуацыя з хлебам. У адказ пачулі, што калі рана падымешся, то булку хлеба паспееш ухапіць. Так там сапраўды тады было: днём хлеба ўжо не купіш. Нехта адразу данёс, і яго выклікалі ў ЦК на разборкі. Бо і работы ён не зусім "парадныя" прывёз: пісаў праўду, тое, што бачыў.

Са сваёй жонкай Наталляй Мікалаеўнай — выдатным графікам, мастаком кніг — Георгій Паплаўскі ездзіў па Беларусі, каб назбіраць аўтэнтычнага матэрыялу для далейшай працы. Забраліся ў сапраўдную глухмень — вёскі Тонеж, Букча ў Лельчыцкім раёне, — куды можна было толькі тралёвачнымі машынамі дабрацца. Бачылі тое вясковае асяроддзе, якое ў наш час ужо нідзе не сустрэнеш. Таксама былі ў вёсцы з цікавай назвай Сямігосцічы. Прычым яна знаходзіцца кіламетраў за пяць ад Прыпяці, а каля кожнай хаты — вялізныя лодкі. Запыталіся, бо наўкола адзін пясок, навошта ім гэта. У адказ пачулі, што яны проста не ведаюць, як Прыпяць можа разліваць падчас паводкі.

*"Наведаўшы гэтыя мясціны, сабралі шмат матэрыялу для далейшай мастацкай творчасці, — працягвае Георгій Георгіевіч. — Такога цяпер няма, каб на вёсцы насілі даматканыя спадніцы, кабаты. Шмат маляваў, заўсёды ездзіў з альбомамі, рабіў накіды амаль усяго, што бачыў. І дасюль яны мне дапамагаюць: усё, што раблю, — маё ўласнае, не гартаю чужых фаліянтаў, не пераймаю. Не паспяваю нават апрацаваць тое, што бачыў, што назапашана.*

*Я выкладаю ў творчых акадэмічных майстэрнях, цесна звязаны з моладдзю, не магу яе асуджаць, а толькі шкадаваць, што маладыя самі сабе перакрываюць шлях развіцця так званымі пошукамі чагосьці, а чаго — і самі не ведаюць. Разумею, ім трэба станаўленне, каб на іх мага раней звярнулі ўвагу. Часам яны пераскокваюць праз "школу". У любой прафесіі гэтага рабіць нельга. Скажам, скрыпач з дзяцінства павінен "напілікаць" дастаткова, развіцца, вывучыцца, каб падушачкамі пальцаў адчуць ноту, так і мастак увесь час павінен адчуваць сябе вучнем. Кажуць, няма мастака без рамесніка, як і рамесніка — без мастака. Мастаком трэба нарадзіцца. Не тое, што ён вылучаецца з агульнай масы, што ён асобы чалавек. Мы ўсе любім жыццё ва ўсіх яго праявах. Але мы здольныя ў чымсьці адчуваць святло, колеравую гаму, рытм, пластыку. Калі скульптар не адчувае пластыкі, ён усё роўна зробіць злепак. Але калі ты не адораны асобым пачуццём, зразумела, можаш вывучыцца, але будзеш рамеснікам, работы будуць "сухія", немузычныя, непластычныя.*

*Маладыя раней часу думаюць, што ўжо ўсё спасцiглі, навучыліся, а цяпер займаюцца творчасцю. Нешта прымроілася камусьці, атрымаўся авангардызм, сюррэалізм, тое, што мы адчуваем, а не бачым. Добра, ты адчуваеш, але растлумач мне словамі, што ты адлюстраваў і як адлюстраваў свае пачуцці. Вучу іх: рабіце гэта, калі вам падабаецца, але ж навучыцеся па-філасофску тлумачыць свае карціны. Вы іх робіце для людзей. Расшыфруйце самі сябе: што вы любіце, што можаце і што хочаце данесці да гледача.*

*Тое ж датычыць інсталяцый. Дай Бог, каб яны камусьці прыносілі карысць. Я не дакараю іх і не адмаўляю, але сапраўды, шмат чаго не разумею з таго, што бачу.*

*На выстаўках думаю: калі гэта шчыра зроблена, можа, нейкі душэўны надрыў быў і аўтар хоча выразіць свой стан трывогі, надзеі. Агледжу з усіх бакоў, потым прашу аўтара як маладшага калегу мне патлумачыць сэнс. Вельмі часта проста пыкаюць-мыкаюць, а некаторыя так спрактыкаваліся ў філасофскіх развагах, што кагосьці і пераконваюць у выключнасці работы.*

*Сёння вельмі цяжка нам, мастакам-рэалістам старэйшага пакалення. Мы не пратэстуем супраць усяго гэтага, але і не можам заахвочваць, а толькі спачуваць. Часу затрачанаму спачуваць, гледачу і эпосе. Каб сёння ўрад ці нейкае міністэрства заказалі мастаку вялікае тэматычнае палатно, з моладзі ніхто б не змог "выцягнуць" такую карціну. У гэтым цалкам упэўнены. Бо, каб яе зрабіць, патрэбна школа і практыка. Гэта праблема не толькі Беларусі, а і іншых краін".*

У мастака часта былі праблемы, але больш не ад улад, а ад калег. Улада яго не песціла, але адносілася "ветліва". Бо ён добра працаваў і меў пэўны аўтарытэт.

*"У асноўным на мяне "капалі" мае калегі, — з горыччу кажа Георгій Паплаўскі, — таму што зайздроснікаў паўсюль хапае. То я скажу нешта не тое, то зраблю. Прыклад — кніга Салжаніцына "Жнівень 1914", якую набыў і прывёз з персанальнай выстаўкі з Вены. У Шарамецьеве яе аднялі, мяне з усіх, так бы мовіць, пасад вытурылі. А гэта быў канец 1980-х, у Маскве тады яго ўжо друкавалі. У ЦК і райкаме нічога не сказалі, а калектыў нашага Саюза мастакоў пачаў на мяне ганенне. Знялі з дзяржпрэміі, званне "народнага" застапырылі. Чытаў "пісьмы" на мяне маіх калег. Што я чалавек з двайным дном, што яшчэ б і не тое знайшлі, каб мяне старанна абшуквалі пасля паездак за мяжу. А і праўда: я прывозіў Пастарнака, Даніэля, Булгакава".*

Пасля чарнобыльскай катастрофы дзякуючы Алесю Адамовічу, які атрымліваў ад сваіх сяброў пры высокіх пасадах дакладную інфармацыю пра замоўчванне сапраўдных фактаў, і Георгій Паплаўскі стаў дасведчаным у наступствах аварыі. Чарнобыльскай тэматыцы прысвяціў карціну "Памяти без вины убиенных". У сумную дату 25-годдзя чарнобыльскай катастрофы ў Доме дружбы творца выставіць сваю серыю з дзевяці літаграфій "Дрэвы без лісця".

Як адзначалася, Георгій Георгіевіч вылучаны на атрыманне прэміі Саюзнай дзяржавы, якая даецца за ўзаемадзеянне беларускай культуры з расійскай ці наадварот. Ён адзінагалосна прайшоў тут, у Беларусі. У творцы вельмі шмат работ, звязаных з Расіяй: серыі "Высокае неба" і "Радзіма касманаўтаў", "Атлантыка", "Камандоры", "Цаліна", "Енісейскі альбом" і іншыя. Беларускія тэмы ўвогуле цяжка пералічыць.

*"Пасля чарнобыльскай катастрофы дзякуючы Алесю Адамовічу, які атрымліваў ад сваіх сяброў пры высокіх пасадах дакладную інфармацыю пра замоўчванне сапраўдных фактаў, і Георгій Паплаўскі стаў дасведчаным у наступствах аварыі. Чарнобыльскай тэматыцы прысвяціў карціну "Памяти без вины убиенных". У сумную дату 25-годдзя чарнобыльскай катастрофы ў Доме дружбы творца выставіць сваю серыю з дзевяці літаграфій "Дрэвы без лісця".*

**Дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Уладзімір Пракапцоў зазначыў, што сёлетні год абвешчаны музеем годам выставак пад агульным назовам “Нашы калекцыі”. Раней гледачы маглі азнаёміцца з экспазіцыямі “Рускі жанравы жывапіс XIX — першай чвэрці XX стагоддзя” ды “Мастацтва Узбекістана”. І вось адкрылася трэцяя выстаўка — “Беларускі нацюрморт XX стагоддзя” з калекцыі НММ Беларусі. На прыкладзе дадзеных твораў можна прасачыць развіццё непасрэдна самога жанру, што адбывалася на працягу XX стагоддзя, улавіць агульныя тэндэнцыі, у цэлым характэрныя для беларускага жывапісу гэтага перыяду.**



# Разуменне прадметнасці жыцця

**Віктар КАВАЛЁЎ,**
**фота аўтара**

У зборах музея знаходзіцца каля 200 жывапісных палотнаў, выкананых беларускімі майстрамі ў жанры нацюрморта. З пасляваенных часоў, як музей набыў творы, некаторыя з іх яшчэ ні разу не выстаўляліся. Таму адметнасць дадзенай падзеі ў тым, што ўпершыню ў такім аб’ёме наведвальнікам прапануецца гэткая маштабная экспазіцыя. А ў планах — выданне альбома беларускага нацюрморта. Музей і надалей мяркуе доўжыць паказ сваіх калекцый, а наступнай выстаўкай у нацыянальным напрамку будзе “Беларускі пейзаж”.

Уладзімір Іванавіч падкрэсліў, што ў мінулым годзе адбылася вучоная рада музея. Дагэтуль НММ Беларусі выступаў, так бы мовіць, у ролі галерэі, дзе штомесяц ладзіліся персанальныя выстаўкі мастакоў розных пакаленняў. А тое, што назапашана за некалькі дзесяцігоддзяў у фондах, нават супрацоўнікі не ведалі, асабліва маладое пакаленне. Таму наўмысна скарочаны персанальныя выстаўкі, бо гэта не роля дадзенай установы культуры.

Навуковы супрацоўнік аддзела беларускага сучаснага мастацтва музея, куратар выстаўкі Наталля Сяліцкая адзначыла, што ў экспазіцыі змешчаны не ўсе работы са збораў: адбіраліся самыя яркія, характэрныя творы. Гэта першы, прэм’ерны падобны праект куратара. Яна паведаміла, што большую частку складаюць карціны, створаныя ўжо ў другой палове мінулага стагоддзя. Існаванне такой відавочнай “дыспрапорцыі” тлумачыцца рэвалюцыямі, шматлікімі разбуральнымі войнамі і сацыяльнымі катаклізмамі, якія выпалі на долю Беларусі ў першыя дзесяцігоддзі XX стагоддзя. Многія творы мастацтва гэтага перыяду былі або знішчаны, або вывезены за межы краіны.

У першай палове XX стагоддзя жанр нацюрморта не карыстаўся такой папулярнасцю сярод беларускіх жывапісцаў, як сюжэтна-тэматычная карціна, партрэт або пейзаж. Аднак і тыя нешматлікія ацалелыя творы, якія знаходзяцца ў калекцыі музея, у той ці іншай ступені адлюстроўваюць розныя напрамкі ў развіцці жанру, якія існавалі ў рамках сацрэалізму, што зацвердзіўся ў савецкім мастацтве ў пачатку 1930-х гадоў. На выстаўцы прадстаўлены работы “Нацюрморт са шкляным слоікам”, “Букет” А. Астаповіча, “Нацюрморт” Ф. Дарашэвіча, “Восеньскі букет” У. Ясінскага, “Рамонкі” М. Тарасікава, “Нацюрморт з бульбай” Д. Парахні і інш. Многія з іх выстаўлены ўпершыню.

Да адкрыцця выстаўкі спецыяльна быў выпушчаны адмысловы буклецік-каталог, на вокладцы якога змешчаны фрагмент жывапіснай карціны Валяр’яны Жолтак “Нацюрморт святочны”. Складальнікам буклета і аўтарам змешчанага ў ім тэксту зноўтакі выступіла куратар выстаўкі Наталля Сяліцкая, якая даследавала развіццё жанру нацюрморта. Так, яна зазначае, што ў 1950-я гады, пасля вялізных эканамічных і духоўных страт, нанесеных Вялікай Айчыннай вайной, мастацкае жыццё Беларусі актывізавалася: гарадскія, рэспубліканскія выстаўкі перамяжоўваліся з усесаюзнымі. І хоць галоўнае месца ва ўсіх экспазіцыях займала шматфігурная гістарычная карціна, жанр нацюрморта быў актыўным складнікам выяўленчага мастацтва гэтага перыяду. У творчасці шматлікіх мастакоў ён, не з’яўляючыся дамінуючым, займаў значнае месца. У экспазіцыі нацюрморт 1950-х гадоў прадстаўлены творамі В. Волкава, В. Жолтак, Н. Паслаўскай, С. Лі, Н. Воранава, А. Гугеля, А. Шаўчэнкі... Многія работы нясуць у сабе сляды старога акадэмічнага разумення нацюрморта — пастановачнасць, ураўнаважанасць кампазіцыі. Прадстаўленыя карціны адрозніваюцца знешняй прыгажосцю — жывапіснасцю, тонкім каларыстычным пісьмом, вострай назіральнасцю ў адлюстраванні прадметнага асяроддзя.



Са слоў Наталлі Леанідаўны, у 1960-я гады Беларусь перажывала сапраўдны культурны ўздым, фарміраванне новых эстэтычных ідэалаў, узбагачэнне дасягненнямі сусветнай культуры, у пэўнай ступені — свабоду думкі і творчасці, што выявілася ў стылістычнай разнастайнасці творчых манер у параўнанні з папярэднім перыядам. Майстры старэйшага і сярэдняга пакаленняў працягвалі традыцыі беларускай школы жывапісу, закладзеныя ў папярэднія дзесяцігоддзі XX стагоддзя (творы І. Ахрэмчыка, Б. Аракчэева, Г. Бржазоўскага, А. Гугеля і інш.). Палотны маладых мастакоў у большасці сваёй былі пранізаны паэтыкай так званага “суровага стылю”, што ўзнік у савецкім выяўленчым мастацтве на мяжы 1950 — 1960-х гадоў і стаў чымсьці накшталт антытэзы “лакіраванаму” стылю папярэдніх гадоў, калі ўсё наўмысна прыхарошвалася. Станковыя творы набывалі манументальна-эпічны размах. У 1960-я гады ствараліся карціны, у якіх выкарыстоўваліся асобныя элементы манументальна-дэкаратыўнага мастацтва. Для твораў Г. Вашчанкі, В. Жолтак, Я. Раздзялоўскай, А. Малішэўскага, Х. Ліўшыца і іншых майстроў гэтага перыяду характэрны абагульнены, лаканічны вобраз, шырокі мазок, нязвыклая скульптурная ёмістасць усёй карціны.

У 1960-я гады ў творчасці некаторых жывапісцаў жанр нацюрморта пачынаў займаць пануючае месца. Асабліва варта вылучыць творчасць В. Жолтак і Я. Раздзялоўскай. Абедзве мастачкі, кожная пасвойму, паводле свайго тэмпераменту, стваралі нацюрморты-карціны, разнастайныя па задуме, але заўсёды бездакорна скампанаваныя, гарманічныя па колеры. Творы першай носяць пераважна мажорны характар, адлюстраванне прадметнага свету ў іх мае асаблівую маштабнасць і дэкаратыўнасць. Палотны другой адрозніваюцца камернай інтанацыяй, інтымным сузіраннем.



У наступныя два дзесяцігоддзі ў беларускім жывапісе ўзмацняліся філасофскія, інтэлектуальныя пачаткі ў трактоўцы вобразаў, значная роля адводзілася сімвалам і алегорыям. Многія жывапісцы сцвярджалі сваю індывідуальнасць яркай манерай, арыгінальным стылем, прыкладам, творы У. Сахненкі, А. Малішэўскага, М. Апіёка, Л. Шчамялёва, Г. Вашчанкі, А. Кузняцова, А. Кішчанкі… У 1970-я гады на поўную моц раскрыўся талент Г. Вашчанкі, творам якога, у тым ліку і нацюрмортнага жывапісу, была ўласціва глыбокая філасафічнасць, што грунтавалася на нацыянальнай самасвядомасці.

У канцы 1970-х — 1980-я нацюрморт па сваёй значнасці ўраўнаваўся з іншымі жанрамі выяўленчага мастацтва. Для твораў беларускага нацюрморта гэтага перыяду было характэрна спалучэнне фальклорных і нацыянальна-рамантычных матываў, як, напрыклад, у працах выдатнага пейзажыста В. Цвіркі, які ў 1980-я гады звярнуўся і да нацюрморта. Яго работы, напрыклад, “Нацюрморт з нарцысамі”, “Палявыя кветкі”, “Нацюрморт з вазай”, у значнай ступені пашырылі рамкі творчых магчымасцей беларускіх жывапісцаў.

Выяўленчае мастацтва Беларусі 1990-х гадоў вылучаецца суіснаваннем шматлікіх плыняў, якія былі скіраваны на пераадоленне мастацкіх штампаў мінулых дзесяцігоддзяў. Жанр нацюрморта нараўне з пейзажам стаў найбольш распаўсюджаным у беларускім станковым жывапісе. У адзначаны перыяд нацюрмортнаму жывапісу былі ўласцівы паэтычнасць, філасафічнасць, канцэптуальнасць і асацыятыўнасць: творы Н. Бушчыка, А. Грышкевіча, А. Кішчанкі, А. Кузняцова, Г. Паплаўскага…

Шчыра кажучы, нацюрморт не паддаецца слоўным апісанням. Карціны трэба ўважліва разглядаць, паглыбляючыся ў прастору твора. Жанр нацюрморта вучыць спасцігаць уласна жывапіс, любавацца малюнкам свету рэчаў, яго прыгажосцю, сілай, глыбінёй. Далёка не заўсёды трэба шукаць у нацюрморце аповед пра рэчы, схаваны сюжэт. Сутнасць “сэнсу” нацюрморта праяўляецца ў адносінах да чалавека і прадмета, у пачуцці “прадметнасці” жыцця, існасці матэрыі. Гэта ў пэўным сэнсе ёсць цэлы светапогляд, пэўнае разуменне бачнасці і адчуванне рэальнасці.

***На здымках: Святлана Каткова “Сакавік”; Галіна Ізергіна “Кветкі і садавіна”; Таццяна Разіна “Восеньскі нацюрморт”.***

# Пісанку — у масы!



**Пазнаёміўся я з велікоднай пісанкай, калі колькі год таму ўпершыню наведаў цудоўны горад Львоў. Сказаць, што ўкраінская пісанка мяне ўразіла — не сказаць нічога. Мудрагелістыя ўзоры, арнаменты, нанесеныя на велікодныя яйкі, падаліся мне недасяжным майстэрствам. Як жа быў здзіўлены, калі даведаўся, што таямніцы роспісу пісанак, як і належыць народнаму рамяству, даступны літаральна кожнаму! Вынес я гэты ўрок з майстар-класаў, што праводзяцца на базе Музея беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах.**

**Алесь СУХАДОЛАЎ,**
**фота аўтара**

Аказалася, што цікавасць да пісанкі ў музеі таксама нарадзілася пасля таго, як тут за савецкім часам адбылася абменная выстаўка з украінскім бокам. Супрацоўнікі пажадалі адрадзіць традыцыі гэтага цудоўнага мастацтва ў Беларусі. Колішняя загадчыца Валянціна Пісарэнка наведала г. Каламыя Івана-Франкоўскай вобласці, дзе існуе адмысловы музей "Пісанка", і прывезла з сабой сакрэты роспісу велікодных яек. Гэтая справа ў музеі вывучалася, пераасэнсоўвалася і ўдасканальвалася, былі вынайдзены свае ўласныя тэхнічныя рашэнні — і, як вынік, на базе Музея беларускага народнага мастацтва чацвёрты год ладзяцца адкрытыя майстар-класы. Вядуць іх малодшы навуковы супрацоўнік Валянціна Грэчка і загадчык музея Таццяна Андрыевіч.

Як ужо было заўважана, традыцыя пісанкі адаптавана музейшчыкамі так, каб гэтае ўменне было агульнадаступным. Выкарыстоўваюцца толькі падручныя матэрыялы. Адмысловы пісец вырабляецца з кітайскіх палачак для ежы і замацаванай паміж імі пішучай галоўкі ад стрыжня шарыкавай ручкі (з папярэдне выдаленым шарыкам). Для афарбоўкі яек выкарыстоўваюцца звычайныя фарбавальнікі для воўны. Майстар Валянціна Міхайлаўна засяроджвае ўвагу на тым, што навучае менавіта абрадавай пісанцы, а не дэкаратыўнай маляванцы, што наносіцца на вараныя яйкі, якія пасля ўжываюцца ў ежу і ўдзельнічаюць у традыцыйных гульнях "у бітка". Пісанка робіцца толькі з сырых яек і пішацца расплаўленым воскам. Яйка пагружаецца ў фарбавальнікі, і тыя ўчасткі, што замаляваны воскам, застаюцца незафарбаванымі. Спачатку распісваецца чыстае яйка, якое пасля пагружаецца ў жоўты фарбавальнік — пакрытыя воскам лініі застаюцца белыя. Затым воскам запісваюцца тыя часткі, якія павінны застацца жоўтымі — і так паслядоўна пісанку пакрывае рознакаляровы ўзор. Пасля нанясенне апошняй — чорнай — фарбы яйка награваюць на электраплітцы, каб зняць з яго распалены воск. Самы цікавы якраз гэты заключны момант — вось тады пісанка нібы нараджаецца, як стракаты матылёк, што вылупляецца з кокана. Дзеля гэтага цуда і робіцца ўвесь складаны папярэдні працэс!



Безумоўна, роспіс пісанак звязаны з культам плоднасці і ўвасабляе мацярынскі пачатак. Сэнс яго рытуальны, касмічны — нагадвае пра вясенняе абнаўленне прыроды, якая нібы распачынае новае жыццё. Наогул, гэты занятак супакойвае, дазваляе сканцэнтравацца, чаго так цяжка дасягнуць у шалёным рытме горада і, разам з тым, схіляе да думак пра вечнае: круглае яйка — цыклічны час — як у прыродзе, так і ў жыцці чалавека (а таксама бессмяротным існаванні яго душы) усё мяняецца, пераходзіць з адной формы ў другую і нязменна вяртаецца да сваіх вытокаў.

Сімволіка пісанкі знітавана з салярным культам і народна-паганскім светаўспрыманнем. Крыжы, свастыкі як сімвалы сонца, выявы жывёл — коней ды аленяў — таксама звязаны з яго ўшанаваннем, "змеевікі" як адлюстраванні вечнасці, іншыя знакі, узоры, арнаменты сімвалізуюць засеяныя палі, дажджы, плоднасць ды ўрадлівасць. Такія закадзіраваныя пасланні космасу ўзрошчвала ў сваёй душы кожная гаспадыня, якая распісвала пісанкі да велікодных свят.

Зразумела, маючы на ўвазе майстар-класы на базе музея ў Раўбічах, не даводзіцца казаць пра іх этнаграфічную паслядоўнасць, пра адраджэнне традыцый менавіта беларускай пісанкі. Хутчэй, гаворка ідзе пра папулярызацыю народнай культуры ўвогуле. Што ж, гэта справа пачэсная, тым больш што такі эклектызм розных нацыянальных традыцый і іх сучаснае пераасэнсаванне з'яўляецца агульнапрынятай тэндэнцыяй. Мяркую, гэта сведчыць пра адраджэнне цікавасці да традыцыйнай культуры.

***На здымках: адна з удзельніц майстар-класа; велікодныя пісанкі.***

**Дарадцам і кансультантам рубрыкі "Дзівасвет" выступае старшыня БСМНТ Яўген Сахута.**

**Водгукі і матэрыялы дасылайце на e-mail: lim_new@mail.ru з пазнакай "Дзівасвет".**

## З глыбінкі

# Формула шчасця — вершы

**Міхаіл УЛАСЕНКА,**
***г. Горкі***

У шэрагу горацкіх славутасцей традыцыйна называюць Беларускую сельгасакадэмію. А ў Акадэмгарадку ёсць нават свой Парнас — гара, на якой гасцяваў Якуб Колас, тварыў Максім Гарэцкі, бывалі многія беларускія класікі. Невыпадкова існуе тут і літаратурнае аб'яднанне "Парнас" з плеядай адораных творцаў. У гэтым сузор'і сваім зайздросным талентам вылучаецца лірычны паэт, член саюза пісьменнікаў Беларусі Сяргей Кісялёў.

Нядаўна адбылася прэзентацыя яго новага, чацвёртага па ліку, зборніка вершаў "Адзінокі шлях". Прадставіла паэта студэнцкай аўдыторыі Наталля Сямёнаўна Шатраўка — загадчыца кафедры педагогікі, псіхалогіі і сацыялогіі, на якой працуе Сяргей Андрэевіч. І хоць знаёмства мелася быць з яго апошняй кнігай, успомнілі і найбольш цікавыя творы з іншых выданняў. Агучвалі іх, што таксама стала тут добрай традыцыяй, удзельнікі клуба творчай моладзі "Дэбют" пры акадэмічнай бібліятэцы, якім кіруе Зоя Багдановіч.

Аднак справа не абмежавалася адным толькі чытаннем. Наталля Сямёнаўна гутарку павярнула ў рэчышча шчырага спавядання аўтара. Сяргею Кісялёву прыйшлося адказваць і на нечаканыя для яго пытанні. Скажам, адкуль у душы паэта такая невычэрпная крыніца жывога, праніклівага лірызму? Як прыходзіць натхненне?.. Не меней цікавыя біяграфічныя тонкасці, за якімі хаваюцца таямніцы прызвання.

— У кожнага з нас ёсць свой куток, да якога мы прывязаны, які і завём малой радзімай, — гаворыць Сяргей Кісялёў. — Асабіста для мяне разуменне Радзімы злучана, як ні дзіўна, са зменай мноства месцаў. Бацька мой па абавязку службы вандраваў па ўсім Саюзе, і мы з ім вандравалі. Больш за ўсё западаюць у душу дзіцячыя ўражанні. У мяне яны звязаны з дзядулем, з бабуляй, з іх драўлянай хаткай у Валагодскім краі. Усім нам, пэўна, здаецца, што нас асабліва любілі ў дзяцінстве. Гэта цяпер мы сталі хітрымі, мудрымі, навучыліся прыкідвацца. У дзяцінстве не ўмелі. Мабыць, гэта чысціня душы захавалася, і яна штурхае да творчасці...

Сяргей Кісялёў нарадзіўся ў Валагодскай вобласці. Скончыў Ленінградскі ўніверсітэт. Накіравалі ў Беларускую сельгасакадэмію выкладчыкам рускай мовы як замежнай. У той час тут шмат вучылася замежнікаў. Абараніў дысертацыю па курсе педагогікі, псіхалогіі і сацыялогіі. Так вось і сталі для яго беларускія Горкі другой радзімай. Тут у поўнай меры выявіліся яго творчыя сілы.

— Тэма шчасця? — разважае Сяргей Кісялёў. — Яно заўсёды злучана з эмацыянальным уздымам. Ніхто не бывае заўсёды шчаслівы. Шчаслівыя мы бываем толькі час ад часу. Маё шчасце ў тым, што няма вайны. Суцяшае сям'я. Я вельмі люблю пісаць вершы — і ў гэтым знаходжу дадатковае шчасце. Люблю падарожнічаць. Гэта своеасаблівае вандроўнае шчасце. Я не надта ганаруся ім, але гэта мяне задавальняе — нявызначанае разуменне шчасця. Формула майго шчасця — вершы.

Асаблівае стаўленне да творчасці Сяргея Кісялёва ў дацэнта кафедры сельгасмашын Уладзіміра Кавалёва, які выконваў на прэзентацыі ролю рэжысёра. Справа ў тым, што Уладзімір Рыгоравіч акрамя ўсяго выдатны гітарыст. Ён піша музыку, у тым ліку — на вершы Кісялёва, а затым яны разам выступаюць і спяваюць на разнастайных канцэртах.

## Афарызм

*Пра тое кожны пяе салавей*
*Росным кветкам у роднай траве:*
*"На Беларусі Бог жыве", —*
*І няхай давеку жыве.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**
**Галоўны рэдактар Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**



**Адрас рэдакцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
дадатак "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru

Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.

Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856

Наклад — 3041
Умоўна друк. арк. 3,72

Нумар падпісаны ў друк 21.04.2011 у 11.00

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7

Заказ — 1839

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686